Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 22 (4720) 7 чэрвеня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў час сустрэчы з апостальскім нунцыем у Беларусі архібіскупам Клаўдыа Гуджэроці выказаў удзячнасць за падтрымку, якую Ватыкан аказвае Беларусі ў арганізацыі наладжвання адносін з Еўрапейскім саюзам.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Усевалада Шылоўскага з 75-годдзем. «На беларускай зямлі жывуць тысячы Вашых паклоннікаў, якія з радасцю сустракаюць кожную новую работу любімага артыста. Упэўнены, што Ваша творчасць і ў далейшым будзе садзейнічаць замацаванню дружбы і культурных сувязей паміж нашымі братнімі народамі», — адзначыў Кіраўнік беларускай дзяржавы.

✔ Дні венгерскай культуры плануецца правесці ў Беларусі ў 2014 годзе. Развіццё супрацоўніцтва ў сферы культуры абмяркоўвалася 4 чэрвеня на сустрэчы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Венгрыі Аляксандра Хайноўскага з дзяржаўным сакратаром па пытаннях культуры Міністэрства сацыяльных рэсурсаў Венгрыі Юдзіт Хамерштэйн. Бакі дамовіліся прыкласці ўсе намаганні для ўмацавання міжкультурных сувязей. У ліку тэм, якія абмяркоўваліся, акрамя арганізацыі Дзён культуры былі ўстанаўленне прамых кантактаў паміж нацыянальнымі опернымі тэатрамі і тэатрамі аперэты, а таксама паміж нацыянальнымі мастацкімі галерэямі дзвюх краін.

✔ Дні культуры Азербайджана ў Беларусі плануецца правесці ў 2014 годзе. З такой ініцыятывай выступіў міністр культуры і турызму гэтай краіны Абульфас Гараеў на сустрэчы з намеснікам міністра культуры Беларусі Васілём Чэрнікам, які ўзначальвае беларускую дэлегацыю падчас Дзён культуры Беларусі ў Азербайджане з 4 па 7 чэрвеня. Упершыню Дні культуры Азербайджанскай Рэспублікі адбыліся ў Беларусі ў маі 2007 года.

✔ Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» атрымаў пастаянную акрэдытацыю ФІАПФ (FIAPF) — Міжнароднай федэрацыі асацыяцыі кінапрадзюсараў. ФІАПФ складаецца з 25 краін, якія выпускаюць кінапрадукцыю. Федэрацыя акрэдытуе фестывалі за высокую якасць іх арганізацыі. Атрыманне пастаяннай акрэдытацыі — добры падарунак XX Мінскаму міжнароднаму кінафестывалю, які пройдзе ў гэтым годзе з 1 па 8 лістапада.

✔ Унікальныя фатаграфіі І. Рэпіна змогуць убачыць госці і ўдзельнікі XXII Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Прэзентацыя выстаўкі будзе прымеркавана да адкрыцця форуму і пройдзе ў маёнтку мастака. Экспазіцыя ўключае 28 унікальных чорна-белых фатаграфій, зробленых з арыгінальных негатываў, якія захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў у Санкт-Пецярбургу.

✔ Работы беларускіх мастакоў прадстаўлены на III Міжнароднай біенале жывапісу ў Кішынёве, якая працягнецца да 16 чэрвеня. У прыватнасці, свае работы экспануюць члены Саюза мастакоў Беларусі Валерый Таргонскі, Наталля Чыркова і Валерый Сідоркін з Мазыра, а таксама сям'я мастакоў з Гомеля: Анатоль Глеб і Таццяна Отчык.

Падрыхтавала **Ярына РЫТАМІНСКАЯ**






*Сёння адкрываецца XIII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2013».*

Чытайце на стар. 16

## Пытанне да творцы

# Як вы ставіцеся да сучаснай беларускай песні?



**Ірына Дарафеева, спявачка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь:**

— У нас вельмі шмат маладых таленавітых аўтараў песні. На Маладзечанскі фестываль ізноў вязу прэм'еру, як і штогод з майго першага ўдзелу ў ім у 1994-м. Песню «Птушка шчасця», музыку і словы, напісала Таццяна Атрошанка, дзяўчына з Маладзечна. Спадзяюся на поспех: заўсёды хочацца, каб мае песні неслі добры настрой і адчуванне шчасця. Таму і вобраз Птушкі шчасця мне асабліва блізкі. Яшчэ буду выконваць на фестывалі песню «Ой, даўным-даўно…» — словы які народныя, музыку напісаў Алег Аверын. Яна — пра маці, пра тое, што ўсё пачынаецца з любові, якую дораць нам бацькі.

Мае бацькі падарылі мне таксама любоў да Беларусі, да роднай мовы. Я вельмі шчаслівая, што магу спяваць на беларускай мове: меладычная сама па сабе, у песнях яна гучыць асабліва прыгожа.



**Алесь Бадак, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Нёман»:**

— Можна, канечне, разважаць, пішацца сёння больш ці менш беларускіх песень у параўнанні з іншымі перыядамі, але яны з'яўляюцца — гэта безумоўна. Ёсць шмат таленавітых майстроў беларускай песні, якія працуюць у традыцыйным рэчышчы (А. Елісеенкаў, Д. Даўгалёў, А. Балотнік ды інш.).

Што такое сучасная беларуская песня? Уладзімір Мулявін пісаў мелодыі на класічныя вершы («Мой родны кут…»), але гэта было і ёсць сучасна. На Маладзечанскім фестывалі таксама будзе гучаць шмат песень, створаных на класіцы, — Эдуарда Зарыцкага, напрыклад.

Чамусьці многія лічаць, што «беларуская песня» — гэта ў стылі 80-х: стаяць роўненька і спяваюць. Але ж мы бачым сёння, што гэта не так. Мне асабіста вельмі падабаецца беларускамоўны альбом гурта «J:Морс» («Адлегласць») і таксама — вельмі — песня пра Беларусь «Белая ластаўка» Уладзіміра Кандрусевіча на словы Вольгі Болдыравай у выкананні Алёны Ланской.



**Сяргей Макарэй, намеснік галоўнага дырэктара тэлеканала «Беларусь-3»:**

— Цудоўна стаўлюся да беларускай песні! Але, на жаль, сёння вельмі мала прэм'ер, песень пішуць мала — не таму, што не могуць ці не хочуць. Па-першае, няма адпаведных вершаў, па-другое — цяжка знайсці выканаўцаў. Навідавоку тэндэнцыя: сучасны — гэта «3 ў 1». Прафесія дэвальвіруецца, атрымліваецца самадзейнасць, якая не вытрымлівае канкурэнцыі. Яно і бачна, і чутно.

Так, ёсць песенны класічны рэпертуар, яго перапяваюць на ўсіх каналах (мелодыі Э. Зарыцкага, Л. Захлеўнага, І. Лучанка і іншых, больш маладых — А. Елісеенкава, напрыклад). Ці жыве беларуская песня сёння — пабачым на фестывалі!

# Калейдаскоп узнагарод

Мінск прыняў юбілейны Х Міжнародны конкурс «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Дата і месца правядзення гэтага надзвычайнага прэстыжнага і да таго ж юбілейнага конкурсу былі выбраныя невыпадкова. Мінск, бо Беларусь сёлета з'яўляецца старшынёй СНД, таму прапанова першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілііі Ананіч прыняць у Мінску творчае спаборніцтва, што прагучала падчас XVII пасяджэння Міждзяржаўнага савета па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі, была падтрыманая калегамі з розных краін. Дата — у межах VIII Міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні: гісторыка-культурная спадчына як фактар яднання» — дазволіла сябрам журы з розных краін не проста паўдзельнічаць у ацэньванні конкурсных кніг, але і стаць паўнавартаснымі ўдзельнікамі форуму, выступіць з дакладамі, абмеркаваць актуальныя пытанні галіны, ды і бліжэй пазнаёміцца з нашай краінай.

Сёлета на Міжнародны конкурс «Мастацтва кнігі» паступіла 108 выданняў з 9 краін СНД: Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Казахстана, Малдовы, Расіі, Таджыкістана, Туркменістана, Украіны. Наша краіна выступіла на конкурсе з 29 кнігамі павышанай якасці, лаўрэатамі апошняга Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», якія былі прадстаўлены на суд журы ва ўсіх сямі конкурсных намінацыях. Кнігі прадстаўлялі дзяржаўныя выдавецтвы «Беларусь», «БелЭн імя П. Броўкі», «Мастацкая літаратура», «Беларуская навука», Выдавецкі дом «Звязда», так і прыватныя выдаючыя арганізацыі — «Асар», «Паліграфіка», «Рыфтур», дызайн-студыя *Collection*, выдавец Дзяніс Раманюк, а таксама Выдавецтва Беларускага Экзархата.

Сябрамі кампетэнтнага журы сталі вядучыя выдаўцы, кніжныя графікі, пісьменнікі з сямі краін СНД. Тайнае галасаванне, паводле ўмоў конкурсу, праходзіла па прынцыпе «адна краіна — адзін голас». Пра адметнасці працы журы распавёў сябар міжнароднага журы, кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, старшыня мастацка-экспертнай камісіі Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», сябар Савета Беларускага саюза дызайнераў Валерый Рагалевіч:

— Сёлета праца журы праходзіла ў надзвычай дружалюбнай прафесійнай абстаноўцы. І гэта не дзіўна: мы, працуючы разам ужо дзесяць год, добра ведаем адзін аднаго. Што да самога конкурсу, то варта адзначыць: разам з якасцю кніг узрастае канкурэнцыя. У гэтым годзе Украіна прывезла вельмі канкурэнтаздольныя выданні. Расія, як і заўсёды, паказала сябе вялікай кніжнай дзяржавай, асабліва ярка прадставіўшы рэгіёны. Надзвычай складана было вызначыць пераможцу ў самай значнай намінацыі «Гран-пры», таму журы прысудзіла галоўную ўзнагароду конкурсу адразу дзвюм краінам.



Фота Яўгена Пясецкага

*Падчас пасяджэння журы Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД.*

Як заўсёды, на вышыні апынуліся і беларускія кнігі. Сёлета ў нас самая вялікая колькасць дыпломаў — 9. Па 7 дыпломаў у Расіі у Украіны, па 6 — у Арменіі і Казахстана, 5 — у Азербайджана, 2 дыпломы атрымалі кнігі з Таджыкістана і па адным дыпломе прысуджана кнігам з Малдовы і Туркменістана.

Але звернем увагу на беларусаў-пераможцаў. Такім чынам, дыплом І ступені ў намінацыі «Садружнасць» атрымала «Полацкае Евангелле» Выдавецтва Беларускага Экзархата, што рыхтавалася да выхаду ў супрацоўніцтве з Расійскай нацыянальнай бібліятэкай і Міжнародным дабрачынным фондам «Сям'я — Адзінства — Айчына».

У намінацыі «Мая краіна» дыплом ІІ ступені быў прысуджаны падарункаваму выданню «Гісторыя беларускай чыгункі. Са стагоддзя XIX у XXI стагоддзе» выдавецтва «Мастацкая літаратура». Дыплом ІІ ступені ў гэтай жа намінацыі таксама атрымае «Мастацкая літаратура» — за кнігу Леаніда Маракова «Галоўная вуліца Мінска. 1880 — 1940 гг.». Дыпломам ІІ ступені ў намінацыі «Кніга для дзяцей і юнацтва» адзначана гэтае ж выдавецтва. Тут журы звярнула ўвагу на кнігу Алены Масла «Дзе Купала начавала. Народныя песні, калыханкі, прыказкі і прымаўкі».

У намінацыі «Культура. Навука. Адукацыя» дыплом ІІІ ступені прысуджаны кнізе Вольгі Лабачэўскай «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911 — 1912 гг.», што выйшла ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

Дыпломам ІІ ступені ў намінацыі «Арт-кніга» будзе ўзнагароджана выдавецтва «Беларусь» — за рэалізацыю калектыўнага праекта «Помнікі мастацкай культуры Беларусі». Спецыяльны дыплом у гэтай намінацыі атрымае Дзяніс Раманюк. Даспадобы журы прыйшлося падрыхтаванае ім выданне «Беларусь сінявокая». Кніга першая. «Вада».

Лепшай у намінацыі «Надрукавана ў Садружнасці» прызнана кніга Вольгі Лабачэўскай і Зінаіды Зімінай «Беларускі народны касцюм: крой, вышыўка, дэкаратыўныя швы», што пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская навука».

Адной з трыумфатараў у галоўнай намінацыі конкурсу — «Гран-пры» — таксама стала беларуская кніга. Самую прэстыжную ўзнагароду падзялілі «Полацк. 1150» («Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі») і двухтомная праца Аксаны Космінай «Традыцыйныя ўборы украінцаў» («Балтія-друк», Украіна).

Варта таксама адзначыць, што дыплом ІІ ступені ў намінацыі «Садружнасць» прысуджаны сумеснаму беларуска-расійскаму праекту «Беларусы Масквы. XVII стагоддзе», што быў рэалізаваны ў межах Выдавецкіх праграм Урада Масквы ў «Беларускай Энцыклапедыі імя П. Броўкі».

Плануецца, што другі этап конкурсу — цырымонія ўзнагароджання — па традыцыі пройдзе на пачатку верасня ў Маскве, падчас правядзення XXVI Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Выдаўцы з розных краін СНД атрымаюць узнагароды ва ўрачыстай атмасферы.

Выданні-лаўрэаты Х Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД будуць дэманстравацца ў экспазіцыі Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі ў межах XXVI Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Акрамя таго, лаўрэаты конкурсу будуць прадстаўлены у межах ХХ Дня беларускага пісьменства ў Быхаве. Затым гэтыя адметныя кнігі будуць перададзены Выканкаму Садружнасці Незалежных Дзяржаў для папаўнення кніжнага фонду Музея гісторыі СНД у Мінску.

# У кожным слове корань ёсць…

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

Сярод іншых праектаў Выдавецкага дома «Звязда» — рэалізацыя ініцыятыў айчынных мас-медыя. Ужо выйшла кніга Таццяны Падаляк «Нашчадкі вогненных вёсак», складзеная з публікацый газеты «Звязда». Трыма гісторыка-публіцыстычнымі зборнікамі вылучаецца серыя «Беларусь вчера и сегодня»: іх змест — нарысы, эсэ, артыкулы аглядальнікаў газеты «СБ. Беларусь сегодня» Віталя Скалабана, Адама Мальдзіса, Людмілы Рублеўскай. А зусім нядаўна ўбачыла свет кніга «Беларускі ручнік». Менавіта пад такой назвай доўгі час на старонках газеты «Белорусская нива» з нумара ў нумар выходзіць рубрыка, што прадстаўляе здабыткі беларускай паэзіі.




З прадмовы галоўнага рэдактара «Белорусской нивы» Сяргея Міховіча да гэтай адметнай «газетнай анталогіі»: «Калі з'явілася рубрыка — цэлая цікавая гісторыя! Аўтар гэтай безумоўнай выбітнай ідэі — у той час намеснік галоўнага рэдактара Альберт Страпчы, наш паважаны ветэран. Прэм'ера «Беларускага ручніка» адбылася ў першым нумары газеты, які выйшаў у 2000 годзе. Якраз святкавалі міленіум, не толькі стык вякоў, але і тысячагоддзяў! І добра так з дапамогай «Беларускага ручніка» перадалі літаратурную эстафету са старога ў новае тысячагоддзе!

Адкрыў рубрыку праграмны верш класіка Янкі Купалы «А хто там ідзе?» На нашу смелую думку, спадзяванні ініцыятара рубрыкі, што творы, прапанаваныя чытачам «Беларускім ручніком», складуцца ў непаўторны па багацці фарбаў і адценняў ручнік, якім Беларусь вылучаецца ў свеце, спраўдзяцца яшчэ не раз…»

Пад адной вокладкай сабраны творы Таісы Мельчанкі, Янкі Сіпакова, Навума Гальпяровіча, Васіля Жуковіча, Уладзіміра Мазго, Петруся Макаля, Міколы Маляўкі, Сяргея Грахоўскага, Еўдакіі Лось… Дзясяткі, нават сотні паэтаў за 13 гадоў вялі і вядуць даверлівы дыялог з чытачом. Хтосьці з аматараў паэзіі збіраў газеты з публікацыямі, хтосьці выразаў вершы і складваў іх у папкі. Ведаю хатнія бібліятэкі, дзе «паэтычныя акенцы» з «Белорусской нивы» дапаўнялі зборнікі вершаў Янкі Купалы, Пімена Панчанкі, Уладзіміра Карызны, Веры Вярбы, Міколы Мятліцкага… А сёння ёсць магчымасць сустрэцца з любімымі творамі на старонках кнігі «Беларускі ручнік».



## Абрысы

Сёння распачынаецца XVI Міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». Яго заснавальнікамі выступаюць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама і Пастаўскі райвыканкам. У праграме фестывалю — конкурс творчых калектываў і выканаўцаў на народных музычных інструментах «Хто каго?»; выстаўкі народных мастацкіх рамёстваў і промыслаў «Горад майстроў»; канцэрт арганнай музыкі, які адбудзецца ў Пастаўскім касцёле; адкрыццё мастацкай выстаўкі па выніках пленэру, прысвечанага 180-годдзю А. Ромера, літаратурна-музычная імпрэза з удзелам членаў літаратурнага аб'яднання «Світанак», вядомых у Беларусі літаратараў; канцэрты аматарскіх і прафесійных калектываў мастацкай творчасці ды іншыя музычныя і забаўляльныя мерапрыемствы.

Заўтра, 8 чэрвеня, у межах XIII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2013» пройдуць «Паэтычныя сустрэчы» з удзелам вялікай групы сталічных паэтаў. Адбудуцца яны на музычным падворку Маладзечанскага каледжа імя М. К. Агінскага. Пачатак — у 15:00.

У аўторак, 11 чэрвеня, а 11-й гадзіне ў Мінскай гарадской бібліятэцы № 7 імя Якуба Коласа адбудзецца свята дзіцячай кнігі, ганаровым госцем якога будзе вядомы дзіцячы пісьменнік Міхась Пазнякоў. У межах свята разгорнецца кніжная выстаўка і пройдзе канцэрт.

Прэзентацыя кнігі «Поціск рук над Басфорам», якую ладзяць сталічнае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускае аддзяленне міжнароднага грамадскага аб'яднання «Дыялог Еўразія», адбудзецца 11 чэрвеня ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі». Яе склалі творы, напісаныя членамі пісьменніцкай дэлегацыі, што мінулым летам наведала культурную сталіцу Турцыі — горад Стамбул. Пачатак імпрэзы ў 17.30.

Паэтычныя чытанні «У лучнасці братняй» сабралі аматараў прыгожага пісьменства ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Прагучалі вершы і песні розных народаў свету. Перад чытачамі выступілі Валянціна Паліканіна, Лізавета Палеес, Міхась Пазнякоў, Мікола Шабовіч, Іна Фралова і інш. Прагучалі народныя песні ў выкананні салісткі фальклорнага гурта «Вербіца» Жаны Швец.

# З'яднала беларуская мова

**Вольга БАРЫСЕНКА**

У студэнтаў закончыўся навучальны семестр, пачаліся залікі і экзамены. Час падводзіць вынікі працы. У Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце на першым курсе вывучаецца прадмет «Беларуская мова (прафесійная лексіка)». У групах разам з беларускімі студэнтамі займаюцца і замежнікі. Натуральна, што яны, не валодаючы беларускай мовай як сродкам камунікацыі, не могуць засвоіць універсітэцкі філалагічны курс. Рэктарат МДЛУ знайшоў магчымасць стварыць зборную групу студэнтаў-пачаткоўцаў, якія на працягу 34 гадзін вывучаюць беларускую мову як замежную. Усе гэтыя студэнты — прадстаўнікі краін блізкага і далёкага замежжа — у той ці іншай ступені валодаюць рускай мовай (ці як роднай, ці як замежнай), якая выступае не столькі ў якасці пасрэдніка, колькі ў якасці пэўнай моўнай і маўленчай базы.

Напрыканцы курса студэнты здаюць залік. У гэтым годзе яго было вырашана правесці ў адкрытай форме. Выкладчыкі кафедры беларускай мовы і літаратуры прысутнічалі на своеасаблівай культурнай імпрэзе: кожны з 13 студэнтаў перакладчыцкага факультэта і факультэта англійскай мовы падрыхтаваў паведамленне з відэапрэзентацыяй пра сваю краіну, родны горад, свае ўражанні ад Беларусі. Калейдаскоп, сапраўды, атрымаўся маляўнічы і разнастайны. Ксенія Сцепановіч расказала пра горад Ухту — жамчужыну поўначы Расіі, Дар'я Аксюціна — пра культурную сталіцу Расіі Пецярбург, Ірына Лазурко — пра старажытны Смаленск. Прадстаўнікі Украіны — Арцём Голік і Іна Халецкая — паведамілі пра Ізмаіл і Кіеў. Казахстан прадстаўляла Ганна Калінічэнка, Эстонію — Алена Страхава. Пранікнёныя словы пра родны Бішкек сказала Алеся Барашава. Пра старажытную сталіцу Беларусі Вільню, а сённяшні літоўскі Вільнюс паведаміў Дарыус Чарняўскі. Па-беларуску прагучала апавяданне пра гарады Кітая. Старанныя Яо Юань і Цой Хао не толькі прадэманстравалі сваё валоданне беларускай мовай, але расказалі пра культурныя цэнтры Кітая — Шанхай і Сіань, — а таксама пра нацыянальныя кітайскія стравы. Студэнт з Італіі Крысціян Турсіні падрыхтаваў паведамленне пра свой родны горад — старажытны Ланчана, дзе ў VII ст. адбыўся эўхарыстычны цуд. Знайшлося месца і для мастацкіх замалёвак пра любімае кацяня (Віка Марозава з Казахстана), і пра паралельныя сусветы (Алег Шаўчэнка). Студэнты зацікаўлена слухалі паведамленні сваіх таварышаў, а потым актыўна задавалі пытанні. Залік прайшоў у форме калектыўнай творчай працы. Навучэнцы прадэманстравалі як падрыхтаваную прамову-прэзентацыю, так і нязмушаную гаворку.

Беларуская мова — гэта не набор фанетычных і лексічных адзінак, граматычных структур і правілаў, а спосаб мыслення, успрымання навакольнай рэчаіснасці. Менавіта мова з'яўляецца найлепшым сродкам для разумення культуры беларусаў. Курс беларускай мовы для пачаткоўцаў насіў у пэўным сэнсе азнаямляльны характар, але пры гэтым выявіў свой высокі адукацыйны патэнцыял: студэнты ў далейшым змогуць удзельнічаць у беларускамоўнай камунікацыі, чытаць творы беларускай літаратуры, а хтосьці — нават перакладаць з беларускай мовы на сваю родную.

# Бывай, Паэт



5 чэрвеня пайшоў з жыцця Юрый Міхайлавіч Сапажкоў — паэт, літаратурны эсэіст і крытык, перакладчык, рэдактар. Чалавек, у якога было шмат сяброў.

Яго добра ведалі аматары паэзіі, шанавалі калегі па працы і аўтары.

Ён нарадзіўся на Разаншчыне, аднак лёс прывёў у Беларусь, дзе і склаўся яго творчы шлях. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, працаваў у газеце «Советская Белоруссия», быў уласным карэспандэнтам АДН па Беларусі, загадчыкам карпункта АДН у Індыі, шмат гадоў аддаў аддзелу паэзіі і «Всемирной литературы» часопіса «Нёман».

Юрый Міхайлавіч выдаў шэраг знаных паэтычных кніг: «Горизонты», «На счастье», «Возраст», «Очертания греха», «Точка невозврата», дзіцячай — «Паук-канатоходец», а таксама кніг літаратурна-крытычных эсэ: «На просторе слова», «Меж духом и словом».

Нельга не ўспомніць кнігу «Пророк» лівана-амерыканскага пісьменніка Халіля Джэбрана, якую Юрый Міхайлавіч пераклаў на рускую мову з англійскай у паэтычнай форме.

У 2009 годзе Юрый Міхайлавіч удзельнічаў у міжнародным турніры перакладчыкаў у Лондане і атрымаў званне віцэ-караля.

Яго энергіі хапала на ўсе роды літаратурнай дзейнасці, а душы — на ўсіх сяброў.

Бывай, сябра, бывай, калега.

Бывай, Паэт.

# Джаз ля Ратушы

Гарадскі музычны праект «Джазавыя суботы ля Ратушы» прапануе Мінску маштабную музычную падзею міжнароднага ўзроўню. Упершыню вядомыя музыкі з Амерыкі і Еўропы выступяць на плошчы Свабоды ў Мінску і падораць жыхарам і гасцям горада тры вечары выдатнага джаза.

**Таццяна ШЫМУК**

Кожная з трох джазавых субот — 8, 15 і 29 чэрвеня — прапануе па тры гадзіны жывой музыкі. Пачатак канцэртаў а 19-й. У якасці канцэртнай пляцоўкі плошча Свабоды, паводле дадзеных гарадскіх улад, гатова прыняць каля трох тысяч аматараў джаза. Наведванне мерапрыемства будзе цалкам бясплатным. Арганізатары плануюць вывесці праект у статус сістэмнага.

Сцэнай для выступленняў стане пляцоўка каля ўвахода ў канцэртную залу «Верхні горад». Запрошанымі артыстамі стануць джазмены і джаз-калектывы з ЗША, Францыі, Італіі, Германіі, Эстоніі і Украіны. А менавіта — Шэнда Рул (*Chanda Rule*), чарнаскурая прыгажуня з Чыкага, зорка новай амерыканскай джазавай хвалі. «Эксэлтэ» (*Exultet*) — маладое французскае трыа з незвычайным спалучэннем інструментаў: акардэон, электронная гітара і ўдарныя. Пур:Пур (*Pur:Pur*) — украінская група, якая пачынала як акустычнае трыа, з часам пашырылася да поўнага складу, яе інды-рок з джазавымі інтанацыямі ўпершыню прагучыць у Мінску. Эдзі Хэндэрсан (*Eddie Henderson*) — амерыканскі трубач і флюгельгарніст — лічыцца адным з самых арыгінальных джазавых музыкантаў найвышэйшага ўзроўню. Берлінскае хіп-хоп-джаз-трыа *Three Fall* з дзіўна экспрэсіўным гучаннем і незвычайным складам: бас-кларнет, трамбон, ударныя. Як Лутсоя (*Jaak Lutsoja Group*) — адзін з лепшых акардэаністаў Эстоніі. Італьянец Кека Фарнарэлі (*Kekko Fornarelli + Roberto Cherillo*) — адзін з самых імклівa прагрэсуючых маладых піяністаў і лідараў на сусветнай джазавай сцэне.

Удзел у праекце возьмуць вядучыя беларускія джазвыканаўцы: *Apple Tea, Lipnitsky Show Orchestra, VIP JAZZ* Андрэя Славінскага і трыа Канстанціна Гарачага.

Праект «Джазавыя суботы ля Ратушы» рэалізуецца Міжнародным сацыяльна-эканамічным фондам «Ідэя» сумесна з канцэртным агенцтвам «Эквілібрыум АРТС» пры падтрымцы Мінгарвыканкама.

*Падзея*

# Літаратурная «памяць» Будакашалёўшчыны

**Анатоль ЗАРЭЦКІ**




У свой час на прэзентацыі мясцовай гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» тагачасны старшыня Буда-Кашалёўскага райвыканкама Мікалай Чарныш сказаў, што гэтая кніга — усяго толькі добры падмурак для даследавання жыцця роднага краю, бо за ёй абавязкова павінны з'явіцца і іншыя. І праз колькі гадоў тут ужо прэзентавалі кнігу «Жаўруковая песня Радзімы» — своеасаблівую фальклорную «Памяць» Будакашалёўшчыны, якую склалі запісы розных жанраў вуснай народнай творчасці, апісанне мясцовых традыцый, абрадаў і звычаяў паводле расповедаў жыхароў канкрэтных населеных пунктаў.

А нядаўна ў мастацкай галерэі імя Я. Майсеенкі г. Буда-Кашалёва адбылася і прэзентацыя зборніка «Будакашалёўшчына літаратурная», які рупна сабралі і ўклалі пісьменнікі-земляк Анатоль Зэкаў і Мікола Чарняўскі. У кнізе прадстаўлены творы 18 аўтараў, якія нарадзіліся ў раёне і праславілі яго ў сваёй творчасці. Сярод іх — беларускія пісьменнікі Аляксей Кейзараў, Міхась Стрыгалёў, Іван Шальманаў, Уладзімір Дзюба, Таццяна Гарэлікава, Таццяна Атрошанка, вядомы рускі казачнік Піліп Гаспадароў ды іншыя творцы.

Старшыня раённага савета дэпутатаў Алена Алексіна, якая была каардынатарам праекта, распавяла пра гісторыю стварэння кнігі, а таксама ад імя кіраўніцтва раёна ўручыла падзячныя лісты прысутным на сустрэчы яе аўтарам і спонсарам.

Імпрэзу арганічна дапоўніў і тры міні-прэзентацыі кніг: «Босая кавалерыя» Міколы Чарняўскага, «Пад кронай белых аблачын» Анатоля Зэкава і «Роднасць» Валерыя Калінічэнкі.

На сустрэчы гучала думка пра мэтазгоднасць правядзення ў будучым у Буда-Кашалёве і Дня беларускага пісьменства, бо менавіта мясцовы край, паводле пераканаўчай гіпотэзы дацэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Жанны Некрашэвіч-Кароткай, з'яўляецца верагодным месцам нараджэння Міколы Гусоўскага. А яшчэ тут, у вёсцы Ліпінічы, пачынаў свой працоўны шлях настаўнікам народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў, 115-я гадавіна з дня нараджэння якога будзе адзначацца ў наступным годзе.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка, перакладчыка Юрыя Міхайлавіча САПАЖКОВА і выказваюць глыбокія спачуванні яго родным і блізкім.

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» смуткуе з прычыны смерці супрацоўніка, выдатнага творцы, рэдактара аддзела часопіса «Нёман» Юрыя Міхайлавіча САПАЖКОВА і выказвае сардэчныя спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў газеты «Літаратура і мастацтва» глыбока смуткуе з прычыны смерці Юрыя Міхайлавіча САПАЖКОВА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нашага калегі, пісьменніка.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку Андрэю Федарэнку, яго родным і блізкім у сувязі з напаткаўшым горам — смерцю БРАТА Івана.

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае глыбокія спачуванні пісьменніку Андрэю Федарэнку з прычыны смерці роднага БРАТА Івана.

Калектыў газеты «Літаратура і мастацтва» глыбока смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні пісьменніку Андрэю Федарэнку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БРАТА Івана.

У Палацы культуры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі адбылася творчая вечарына беларускай паэткі Ніны Кавалёвай, прысвечаная 35-годдзю яе літаратурнай дзейнасці. Новы зборнік «Голас вякоў», напісаны па матывах твораў беларускіх класікаў, убачыў свет дзякуючы падтрымцы ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Горацкага райвыканкама, грамадскіх арганізацый раёна «Беларускі фонд міру» і «Белая Русь» аддзела культуры Дрыбінскага райвыканкама. На вечарыне прысутнічалі аматары паэзіі, работнікі культуры, вучні, студэнты, выкладчыкі акадэміі.

Гэтымі днямі, 6 — 8 чэрвеня, у Мінску і Міры па ініцыятыве трох партнёраў — Музея «Замкавы комплекс «Мір», Польскага Інстытута ў Мінску і Беларускага інстытута правазнаўства — праходзіць міжнародная навуковая канферэнцыя «Магнацкі двор і сацыяльнае ўзаемадзеянне». Яна прысвечана малавывучаным у беларускай гістарыяграфіі праблемам: «магнацкія замкі і палацы як цэнтры палітычнага жыцця»; «магнацкі двор і праблемы фарміравання прававой культуры», «службовая іерархія на магнацкім двары: катэгорыі кліентаў, слуг і іх кар'ера», «побыт і паўсядзённае жыццё ў магнацкіх замках і палацах».

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрашае 13 чэрвеня а 17-й гадзіне на паэтычнае свята чатырох паэтэс — новых членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольгі Шпакевіч, Алены Бабуровіч, Ганны Чумаковай і Людмілы Клачко, прынятых у творчую арганізацыю ў маі гэтага года. Падчас мерапрыемства адбудзецца ўрачыстае ўручэнне ім членскіх білетаў СПБ.

# «Я хварэю на неба...»

**У сучаснай беларускай паэзіі (прынамсі, маладой) ёсць творцы, якія засвоілі найлепшыя традыцыі папярэднікаў і працягваюць плённа ствараць рытмічна-рыфмаваныя вершы; нямала і такіх, хто больш схільны да еўрапейскага і сусветнага авангардызму — іх творы не тое што без рыфмы, а нават без усялякіх знакаў прыпынку і, адпаведна, без вялікіх літар на пачатку сказа. І хоць я прыхільнік традыцыйнага верша, ды зусім не аспрэчваю права на эксперымент. Былі б толькі ў такіх няскладных вершах, як іх некалі называла мая маці, сапраўдныя пачуцці і думкі, а ў канчатковым выніку — сама паэзія.**

**Анатоль ЗЭКАЎ**

Ганна Чумакова — з шэрагу тых аўтараў, якія прытрымліваюцца традыцыйнага беларускага верша, хоць аднолькава камфортна адчуваюць сябе і ў эксперыментатарстве — праўда, гэта больш датычыць ігнаравання ёю знакаў прыпынку, а не рыфмы («...Бурштыновыя пацеркі...»). Апошняя акалічнасць вытлумачальная спяваючы свае вершы пад гітару і выступаючы як бард, паэтэса не можа не абапірацца на сугучча канцавых слоў, што, урэшце, і ёсць рыфма.

Зборнік вершаў Г. Чумаковай «Мой анёл прысніў мяне...», які напрыканцы мінулага года выйшаў у серыі «Мінскія маладыя галасы», адкрываецца ўступным словам «Ад аўтара да чытача і наадварот». Ужо сама назва даволі сімвалічная: паэтэса жадае не толькі быць пачутай сваім чытачом, а яшчэ і пачуць яго, бо, як прызнаецца, «быць пачутым — жаданне і мэта кожнага аўтара. Але найбольш важна (для мяне, прынамсі) атрымаць адваротны пасыл... «Ці патрэбна гэта камусьці?»» — і дадае: «Тым больш у наш час, калі чытаюць мала, а вершы — яшчэ менш». Затое ў наш час дзякуючы інтэрнэту нашмат лягчэй устанавіць зваротную сувязь — і Г. Чумакова называе свае кантактныя адрасы са спадзяваннем пачуць чытацкія водгукі.

А што да тэматыкі кнігі, то ў гэтым жа двухстаронкавым уступе паэтэса абвяшчае: «Пра мяне... І пра мяне... Пра цэлы сусвет — Бога і Чалавека, Час і Прастору, Прыроду і Каханне...» І хоць, карыстаючыся яе словамі, «такое, пэўна, можна сказаць пра любую кнігу любога аўтара», падкрэслю: кожны паэт тым і цікавы, што, здавалася б, пра звычайнае і дастаткова вядомае нам можа сказаць нечакана, па-свойму арыгінальна. Як, напрыклад, гэта робіць Г. Чумакова ў чатырохрадковым прысвячэнні бацькам — Галіне Паўлаўне і Пятру Іванавічу:

*Маці лічыць мяне маленькай,*
*Бацька ўжо разупэўніўся*
*ў гэтым,*
*Бо аднойчы неяк улетку*
*Папрасіў набыць цыгарэты...*

Здаецца, невялічкі штрых у выглядзе бацькавай «цыгарэтнай просьбы», затое які запамінальны малюнак ён стварае! А калі зазірнуць глыбей, то, магчыма, і ўскрывае праблему выхавання дзяцей, чым звычайна ў сучаснай сям'і займаецца маці, таму і дачка для яе маленькая, бо штодня навідавоку; бацька ж ужо бачыць у ёй дарослую.

Варта зазначыць, што Г. Чумакова праз адну-адзіную дэталь-вобраз можа падысці да грунтоўнага маштабнага абагульнення жыццёвых калізій у самых розных іх праяўленнях, узняцца да філасофскага асэнсавання самой сутнасці чалавечага быцця: «Калі хочаш убачыць імгненне — // Зірні на гадзіннік, // Калі хочаш убачыць вечнасць — // Зірні на дарогу. // Хочаш убачыць сябе — // Зірні на сына...»

Гэтымі радкамі, дарэчы, адкрываецца «Нізка вершаў па Анатолю Сысу» — на мой погляд, лепшая ў кнізе. Відавочна, што паэтэса пранікласа духам паэзіі аднаго з самых яркіх і адначасова трагічных прадстаўнікоў прыгожага беларускага пісьменства на пераломе двух тысячагоддзяў, унаследавала яго лапідарны стыль і нават алегарычныя вобразы: тут, «У язычніцкім карагодзе», і «дзеці ночы» гайвароны, і «белы жаўра», і «шэрая маці» ваўчыца, і гэткае ж «шэрае ваўчанё, // што згубілася ў лесе». Адсюль, пэўна, і самая вялікая, трэцяя, частка «Нізкі...» носіць назву «Трыпціх лесу», перагукаючыся такім чынам з назвай зборніка А. Сыса «Пан Лес».

У актыў Г. Чумаковай з поўным правам можна занесці і вершы «Сустрэча», «Хлопец з дзяўчынай...», «Восень, што падобна на мяне...», «Памяці бацькі», «Лёгкі снег — мітуслівая зграя...», «Ці прыпомніш мяне ты тады...», «Не люблю парасон таму...». Апошні з іх у чарговы раз пацвярджае сказанае вышэй: паэтэса ўмее насыціць верш запамінальнымі дэталямі, а гэта немалаважная якасць сапраўднай паэзіі. «Не люблю парасон таму, // Што за ім хаваецца неба, // Нібы чалавеку не трэба // Глядзець у вочы яму», — такой сентэнцыяй аўтар пачынае верш, каб напрыканцы выгукнуць балючае: «Не люблю парасон і за тое, // Што вялікі ён мне адной...»



Нельга не звярнуць увагу і на тую акалічнасць, што менавіта ў гэтым вершы ў трэцяй страфе яна піша слова «Неба» з вялікай літары («У Неба ж гора дзіцячае»), як бы набліжаючы яго да высокага слова «Бог». Між іншым, нябеснасць паэзіі Г. Чумаковай — навідавоку: ад «анёльскай» назвы кнігі да прысутнасці вобраза неба ў шэрагу вершаў: «Сінія кроплі неба — // Кветкі сярод калосся»; «...дрэвы // Галінамі цягнуцца — ловяць неба...»; «...ці ёсць на небе // рамонкавы вырай?» Яна ж сама і тлумачыць такую сваю нябесную прывязанасць: «Я хварэю на неба, // як людзі хварэюць на грып...»

У сваю чаргу, як бы хто да таго ні стаўіўся, паэтэса зрэдчас і Бога, і анёлаў апускае на грэшную зямлю: «Мой Бог знайшоў мяне на вуліцы...» ці «Анёлы спяшаюць на працу, // Пад футра крылы схаваўшы». Бо тут, на зямлі, у яе ёсць «Тры ахоўнікі, тры анёлы — // ВЕРА, НАДЗЕЯ, ЛЮБОЎ» (менавіта так: кожная літара ў кожным з трох вызначальных слоў — загалоўная).

На жаль, Ганна Чумакова не заўсёды арыгінальная. Вось чытаеш яе «Ты прыходзь да мяне увосень, // Ты прыходзь да мяне у восем...» — і адразу згадваюцца радкі Алеся Пісьмянкова: «А заўтра я зноў у восем // Выйду ў сырую восень». А бывае, загуляўшыся ў версіфікатарства, паэтэса паўтарае нават сябе, як гэта здарылася з вершамі «Латарэя кахання» і «Хораша да болю...», дзе і насамрэч больш гульні, чым сапраўднага пачуцця, хоць задумка першага твора даволі цікавая: даючы азначэнні кахання (прыгожае слова, прыгожы жэст, нечаканасць, адмова, пратэст і г. д.), аўтар напрыканцы, як у той тэлегульні «Ваша лато», заяўляе: «А зараз усё ў адзін мех, // пераблытваем, // перабылтываем, // перабылтываем: // хто якое возьме?!»

Не магу не адзначыць і той факт, што ў некаторых вершах з-за складаных інверсій цяжка дапяць да сэнсу сказанага: «І фізічна амаль пачуццё // Да шчакі дакранання далоні», або «Гук знаёмых ты пачуеш крокаў» (хіба не лепей было б у апошнім прыкладзе сказаць, ніколькі не парушаючы пры гэтым рытміку: «Ты пачуеш гук знаёмых крокаў»?) І зусім, на мой погляд, недарэчна гучыць у вершы «Ля помніка» скажонае імя святой Еўфрасінні: «Ты калісьці была ўсім усім (такі паўтор у тэксце. — **А. З.**) знаёма // Прадслаўай... // Для нас — Ефрасіня».

Не абышлося ў кнізе і без моўных агрэхаў. Гэта і русізмы: **стайка** (чародка), **правяць** (плывуць, кіруюць), **успархне** (успырхне), **разбей** (разбі), **пейце** (піце), і няправільныя скланенні: «па сцарнел**аму** лісц**ю**»; «чорным па бел**аму**»; «чырвоным па жоўт**аму**», і памылковыя ўжыванні дзеясловых форм: «шчасце пішуцца радкамі»; «трапеч**ы**цца цельца»; «зоркі соч**у**ць». Там-сям, каб патрапіць у абраны рытм ці звязаць радкі рыфмай, паэтэса самавольна пераносіць націск у словах, я ўжо не кажу пра ўжыванне «ў» пасля зычных і, наадварот, «у» пасля галосных. Не дужа прыемна натыкацца і на карэктарскія недагляды, у прыватнасці, прапушчаныя літары ў словах.

І ўсё ж кніга Ганны Чумаковай — гэта поспех. Многія вершы хочацца перачытваць па некалькі разоў. А гэта лішняе пацвярджэнне таму, што паэтэса закранула тваю душу, прымусіла хваляваца тваё сэрца.

# Раскрываецца сэрца, святлее душа

**Таленавітага чалавека на ўсё стае. Творчая біяграфія Хізры Асадулаева — таму прыклад. Ён цудоўна зарэкамендаваў сябе як самабытны скульптар. Важкія яго набыткі і ў галіне графікі, у жывапісе. Да ўсяго Х. Асадулаеў — кампазітар. Мала таго, з задавальненнем спявае, ды так, што яму могуць толькі пазайздросціць «фанерныя» выканаўцы. А яшчэ Х. Асадулаеў — паэт, кніга якога «Праблiскі таінства» выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор».**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Прадбачу недаўменне сяго-таго з чытачоў. Маўляў, гэта ўсё добра, але якое дачыненне мае Х. Асадулаеў да Беларусі? Ды самае непасрэднае. Ужо больш як трыццаць гадоў ён жыве і працуе ў Мінску, дзе, дарэчы, і сфарміраваўся як яркая творчая асоба. Сінявокая наша Айчына стала яму гэткай жа любай і дарагой, як і родны Дагестан, высакагорнае сяло Карата, у якім ён нарадзіўся.

Гэта паселішча сапраўды ўнікальнае. Каратынская мова ў шматнацыянальным Дагестане — адна з самых даўніх. Аднак яна не з тых моў, якія паступова адміраюць, а некаторыя, на жаль, ужо і сталі мёртвымі. Яна паранейшаму жывая, квітнеючая. Адбываецца гэта не ў апошнюю чаргу і дзякуючы Х. Асадулаеву, яго паэзіі, што пішацца, канечне, на каратынскай мове. Кніга ж «Праблiскі таінства» нарадзілася дзякуючы Анатолю Аўруціну, які пераклаў творы Х. Асадулаева на рускую мову з падрадкоўнікаў, спецыяльна зробленых аўтарам для гэтага выдання.

Перакладчык, уважліва знаёмячыся з кнігай, стараецца дакладна спасцігнуць сам дух арыгінала. Не прытрымліваецца яго літаральна, а, прапусціўшы той ці іншы твор праз сябе, праз уласнае светаўспрыманне, падае яго так, што верш успрымаецца часам як бы ўвязаным з новымі рэаліямі. Як, напрыклад, «Каратынская мова»:

*Раскрывается сердце,*
*светлеет душа —*
*Каратинская речь,*
*как весна хороша.*

*Карата… Твоих слов*
*незабывный родник!*
*О моя колыбель,*
*каратинский язык.*



*О слова, что спасают*
*от бед и невзгод!*
*Каратинская речь,*
*каратинский народ!*

Гэта ж, калі разабрацца, і пра беларускую мову сказана, словы якой таксама «спасают от бед и невзгод». Вуснамі свайго лірычнага героя Х. Асадулаеў не стамляецца паўтараць: «Ты — мой кумир, родная Карата!» Усё гэта ідзе ад шчырага сэрца, з ненатольнага жадання адчуваючы сябе неабходным на зямлі, што таксама стала сваёй, усё ж пастаянна імкнуцца туды, дзе горныя цясніны ўдыхаюць «горний дух весны».

Аднак Х. Асадулаеў не замыкаецца на нейкай адной тэме. Яго творчасць шматгранная. У ёй знаходзіцца месца радасці і смутку, любові і нянавісці. Дарэчы, пра любоў. Адкрываецца кніга невялікай паэмай «Горская быль». Яна пра дагестанскага юнака Ізудзіна, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны трапіў у палон і там пакахаў немку Марыю, з якой пасля вайны і прыязджае ў родны аул, дзе ў яго засталася нявеста. Не адразу прынялі Марыю каратынцы. Калі ж Ізудзін «встал пред селом на колени, // Потом поклонился и бывшей невесте своей», стаўленне да чужачкі ў горцаў змянілася:

*И встала Мария:*
*— Я тоже теперь*
*каратинка… —*
*И что-то шепнула*
*на ломаном их языке.*
*И всё… И забылись*
*недавние злые укоры.*
*С немецким акцентом*
*лилась каратинская речь.*
*И плакало небо…*
*И следом заплакали горы…*
*А люди молчали,*
*не в силах ни слова изречь.*

Лепшыя чатырохрадкоўі Х. Асадулаева настолькі пафіласофску напоўненыя, што ўспрымаюцца як афарызмы. Скажам, гэты:

*Не поддаётся узел на верёвке?*
*Разрежь его одним*
*движеньем ловким.*
*Но острого кинжала*
*будет мало,*
*Когда судьба нам узел*
*завязала.*

Кніга «Праблiскі таінства» багата ілюстравана творамі Х. Асадулаева-скульптара, графіка, жывапісца, што, безумоўна, дазваляе пераканацца ў шматграннасці яго таленту. Як у сувязі з гэтым не працытаваць такое чатырохрадкоўе:

*Как нелегко*
*на жизненном пути*
*Призвание к свершениям*
*найти!*
*Не дай вам Бог понять*
*на склоне лет —*
*Призванье есть…*
*Да вот свершений*
*нет.*

Ёсць у Х. Асадулаева прызванне. Аднак ёсць ў яго і здзяйсненні, у значнасці якіх сумнявацца не даводзіцца. У гэтым, прынамсі, пераконвае кніга «Праблiскі таінства».

# Партрэт без рамкі

**Адзін з найбольш запатрабаваных на сёння пісьменнікаў — Андрэй Федарэнка. У 2012 — пачатку 2013 г. выйшла некалькі яго кніг: «Ланцуг», «Сечка» і выбранае «Вёска». У чым «сакрэт» майстэрства аўтара, прыхільнасці да яго шматлікіх чытачоў — пытанне простае, але адказ знайсці не надта лёгка.**

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Колькі кніг пісьменніка трэба прачытаць, каб мець больш ці менш цэласнае пра яго ўяўленне? Мець магчымасць рабіць высновы, увогуле права яго чапаць? Літаратуразнаўца скажа, што прачытаць трэба ЎСЁ, да таго ж — усё, што напісалі іншыя. Газета, аднак, дазваляе пачувацца трохі вальней. Навуковыя працы пішуць гадамі і на гады, а газета фіксуе бягучы момант. Да таго ж бягучы момант гэтай вясны затрымаецца ў маёй памяці не ў апошнюю чаргу дзякуючы кнігам А. Федарэнкі. Кажу шэптам: я прачытала іх шэсць…

Паколькі літаратуразнаўства мне не чужое, зрабіла таксама адну з яго абавязковых спраў: даведалася, што сказалі папярэднікі. І не дарэмна: «эпічны талент», «здольнасць да глыбокага псіхалагічнага аналізу і мастацкай тыпізацыі характараў», «актуалізацыя маральна-этычных праблем», «магутны выхаваўчы зарад»… — Л. Талстой, напэўна, быў бы ўсцешаны. Эка і Борхеса ўзрадавала б заўвага наконт «перманентнай інтэлектуальнай актывізацыі». Камю і Сартра — наконт «цёмных, трагічных бакоў народнага быцця». Асабіста мяне зацікавіў «адэкватны пераклад на паперу таго, што пісьменнік назірае ў рэчаіснасці і суадносіць з уласным», захоўваючы «здольнасць кожны раз нанова адкрываць жыццё і бачыць свет».




Усе працытаваныя плыні ўспрымання творчасці А. Федарэнкі яднае менавіта такая лаканічная, амаль метафарычная фіксацыя «адразу, безумоўна і назусім» дамінантаў творчасці аўтара. Грунтоўную ёмістасць хаця б часткі з іх вызначэнняў вельмі карціць «растрэсці». Варта рабіць гэта паступова, пачаўшы з найбольш важкага — апошніх двух момантаў.

У «Сечцы» А. Федарэнкі ёсць некалькі дасціпных пасажаў пра «экзістэнцыялізм». Менавіта ў двукоссі, таму што размова ідзе не пра філасофскі напрамак і адпаведныя думкі, але пра тое, што прыцягальнае слова з невядомым амаль нікому сэнсам (у тым ліку шэрагу «філасофаў») ужываецца направа-налева — прыкладам, калі трэба апраўдаць уласныя хібы («Дык ці ведаеш ты, што такое экзістэнцыялізм?!»). Гэта ў асяродку рэдактарска-пісьменніцкім.

У мяне свае заўвагі наконт «чароўнага слоўка». Як толькі пэўны пісьменнік перасягае шараговы ўзровень, пачынаюць казаць пра «экзістэнцыялізм» яго твораў, маючы на ўвазе штосьці надзвычай глыбокае і вытанчанае, што ўвогуле ні сфармуляваць, ні патлумачыць немагчыма. Другі варыянт — апірышча на так званы экзістэнцыялізм хрэстаматыйнага кшталту («філасофія існавання», «цёмныя, трагічныя бакі» чагосьці, «нараджэнне-смерць-выбар-сорам-клопат», «пагранічная сітуацыя» і да т. п.). І «Міф пра Сізіфа», а як жа! Параўнаўшы з ім апавяданне «Мыла» А. Федарэнкі, ужо нібыта магчыма разглядаць «філасофію існавання» ў творах аўтара. На занятках па класічнай літаратуры ў выпадку падобных фантастычных каментарыяў выкладчыкаў мы казалі шэптам, што пісьменнік, напэўна, у чарговы раз перавярнуўся ў труне. Хай даруюць студэнтам чорны гумар, але што казаць пра магчымую рэакцыю жывога, дзякаваць богу, аўтара, які раптам пачытае — у паважаным выданні! — такую атэстацыю?!

Справа, аднак, зразумелая: тыя экзістэнцыяльныя (без двукосся) матывы, якія мы, быццам зняважліва, пералічылі праз злучок, датычаць кожнага чалавека і, адпаведна, кожнага пісьменніка, таму кожны з іх «экзістэнцыяліст». Дык хіба трэба ў кожным заўважаць тое, што ёсць ва ўсіх? Іншая справа, калі пісьменнік спасцігае, свядома ці не, сутнасць той самай экзістэнцыі і паводле яе ставіцца да рэчаіснасці. І тут ужо пра «існаванне» гаворка ісці аніяк не можа.

«Навошта яна чапляецца да слоў? Ну — сказаў хто, напісаў… І навошта ўскладняць відавочныя рэчы? Вось паважаны крытык дакладна вызначае тую экзістэнцыю, спасылаючыся на яе самага галоўнага аўтарытэта, нават большага, чым Сартр, — на… як яго… Хайдэгера! Той Хайдэгер кажа, што экзістэнцыя — перадусім творчае натхненне, а яго якраз стае ў Федарэнкі, калі не лічыць крыху незразумелыя «Мяжу» і «Сечку»! Яго ж не пакрыўдзілі — наадварот!..» Дык і я ж не абараняю. Няма патрэбы. Але выпадак тут прынцыповы, і ў ім трэба разабрацца.

«Экстатычнае пераўзыходжанне ўласных межаў, найвышэйшае напружанне асобы» — вызначэнне Хайдэгерам экзістэнцыі сапраўды нагадвае тое, што прынята разумець пад творчым натхненнем. Дык хіба ж «пераўзыходжанне ўласнага» і «напружанне» ўласцівыя толькі творцам? Простаму чалавеку — ужо і на свет не глядзі! І няўжо натхнёны Федарэнка не заняты нічым больш, як толькі ўзнаўленнем натхнення, выбітнасці свайго светабачання?

У «Сечцы» нібы выпадкова (як усё ў гэтай кнізе) аўтар прыгадвае пісьменніка К., аднаго з герояў «Бесаў» Ф. Дастаеўскага, прататыпам якога быў І. Тургенеў. На думку Дастаеўскага, Тургенеў быў празмерна заняты сабой, праз радкі яго твораў нібыта чыталася: «Цікаўцеся мною, глядзіце, які я быў у гэтыя хвіліны! Навошта вам гэтае мора, бура, скалы, разбітыя трэскі карабля? Я ж дастаткова апісаў вам усё гэта сваім магутным пяром…» І федарэнкаўскі каментарый: «Я, аўтар, у цэнтры ўсяго, я сонца, а планеты — героі мае, толькі круцяцца вакол мяне. <…> Я, аўтар, аснова ўсяго, а тэкст, інфармацыя, дэталі — так, другаснае, рамка для майго партрэта…»

Ці выпадковая тут здзеклівая іронія, увогуле зусім не характэрная для А. Федарэнкі? Ці не адтуль яна, што пытанне для яго надзвычай важнае і асабіста ён пазбягае, як можа, адпаведнага пазіцыянавання і пафасу, нават калі яго і нялёгка пазбегнуць? Ці не адтуль іронія і здзек, што ён занадта нагледзеўся на «К.», працуючы на рэдактарскіх пасадах?

Мяркуючы па наступным прыкладзе, крытыкі таксама празмерна начыталіся «К.», так што ў сваіх назіраннях кіруюцца менавіта іх пафасам і прыкладам. Зацікаўлены «экзістэнцыялізмам» вучоны крытык піша пра важкасць «творчай індывідуальнасці і асобы» мастака — прызмы, у якой А. Федарэнка бачыць і малюе свет. У якасці сведчання прыведзеная цытата з «Рэвізіі»: «Не тым



цікавая палянка, што яна Данілава ці Мікішына, а тым, хто на яе ў дадзены момант пазірае, праз чые вочы, розум і душу яна перадаецца». Нібы ў адказ — ізноў «Сечка»: «Кантэкст увогуле вялікая рэч, сябры мае. Небяспечная штука… Нішто не раніць больш балюча, чым твае ж уласныя словы, пазбаўленыя… кантэксту…»

Прадмет такога шырокага розгаласу (крытык-вучоны цытаваў, я прычапілася) — «Данілава ці Мікішына палянка» — паўстае ў «Рэвізіі» ў кантэксце наступным: герой, у якім крытыкі аднадушна пазналі пратаганіста, смуткуе з-за таго, што рэчы навокал (вёска, рэчка, пашы, лес...) страцілі, так бы мовіць, сваю непасрэдную існасць, «зацерліся» ў рознага кшталту «тэкстах» стасункаў з імі кожнага, каму спатрэбіліся, не істотна — дзеля касьбы, турыстычных маршрутаў або краязнаўчых штудый. У выніку той, хто хацеў бачыць наваколле на ўласныя вочы, глядзіць вачыма чужымі. Застыглае ўспрыманне абкрадае і таго, хто глядзіць, і тое, на што глядзяць. «Уся гэтая голая фактабіяграфічнасць, літаратурная фатаграфія, фальклорна-этнаграфічная лубковая натура даўным-даўно ператорвана ў сумную самамэту, таму і адваджвае запамінаць, выкарыстоўваць, ужываць, — злуючы і раздражняючы з аднаго боку, а з другога — закалыхваючы, падманваючы, прымушаючы забываць, што самая незвычайная, самая цікавая... гісторыя, чалавечая мянушка, тапаграфічная назва, любая іншая самабытная рэдкасць нічога не вартыя самі па сабе...» — і далей пра «палянку».

Не «натхнёны аўтар» хоча на яе глядзець, але звычайны чалавек. Можа, і сам Федарэнка. І менавіта таму гэта «чытаецца натуральна». І менавіта таму гэта праява экзістэнцыі, што, імкнучыся бачыць палянку (што заўгодна) такой, як яна ёсць, натуральна мусіш пераўзысці межы ўласнага, сягаеш у «экстаз» адкрытасці ўражанню («ex-sistence») — якое ж тут «існаванне»?! І, нарэшце, можа, менавіта таму, напрыклад, звычайная аповесць «Вёска» чытаецца з прыхільнасцю і моладдзю, і сталымі людзьмі, звычайнымі чытачамі і «літаратурнай грамадскасцю». І не толькі «Вёска»...

Няхай даруюць, што гэтыя «высновы» давялося папярэдзіць немалым колам разваг. Але мала таго, што я стамілася ад бяздоказнага і бездакказнага ўжывання «экзістэнцыялізму», дык яшчэ вельмі хацелася зразумець, на якіх падставах магчымае «натуральнае» прачытанне.

...А «незразумелая» «Сечка» — якраз пра тое, што азначэнні трэба ўжываць з адказнасцю за гэта. «Сечка» — увогуле пра адказнасць: пісьменніка — перад чытачом, рэдактара — перад пісьменнікам, нашчадкаў — перад продкамі, усіх нас — перад моваю, якой мы карыстаемся. Ці не таму гэтую кнігу адразу сталі ўспрымаць ледзь не ў штыкі, што мала хто любіць нагадванні пра адказнасць? Але гэта ўжо «масток» да іншай гаворкі.

# Шчыраму сэрцу і чужая болька баліць

**Для творчасці няма сюжэтаў лепшых, чым створаныя самім жыццём. Ды не кожнаму дадзена гэта заўважыць. Увогуле не кожны ўмее бачыць у звыклым, паўсядзённым незвычайнае. Янка Галубовіч валодае гэтай здольнасцю. Умее Іван Іванавіч бачыць, чуць, назіраць, акаймляючы мастацкім словам жыццёвыя факты, цікавыя і непаўторныя імгненні.**

**Аляксандр ХАЗЯНІН**

Сёння Янка Галубовіч — аўтар чатырнаццаці кніг для дзяцей і дарослых. Друкаваўся ў калектыўных зборніках. Дарэчы, урыўкі з яго твораў уключаны ў школьныя падручнікі па беларускай мове для другіх, трэціх і чацвёртых класаў. У зборніку дыктовак для малодшых школьнікаў таксама ёсць тэксты, узятыя з кніг Янкі Галубовіча.

Першая кніга «Па родных сцяжынках» пабачыла свет у выдавецтве "Ураджай" у 1991 годзе. Затым, роўна праз год, з'явілася другая — «Гром на світанку» з прадмовай Віктара Гардзея. Думаю, што паэт не памыліўся, натхніўшы Янку Галубовіча на новыя творы. Віктар Гардзей звярнуў увагу на прыгажосць і непаўторнасць маладзечанскіх краявідаў, якія акрылялі празаіка, і адзначыў, што, калі прачытаеш апавяданні Янкі Галубовіча, сюды так і хочацца завітаць. Бо творы празаіка — не толькі пра хараство роднага краю, а і пра людзей, якія любяць сваю зямлю, берагуць яе скарбніцу.




Адносна нядаўна ў выдавецтве «Пачатковая школа» пабачыла свет кніга «Дзівосы роднай прыроды», у якую ўвайшло лепшае з напісанага ў розныя гады. Зборнік прызначаны для чытання дарослымі дзецям. Адукацыйнай мэце будзе служыць і выдадзены той жа "Пачатковай школай" дыск "У гасцях у казкі", на якім запісана дзесяць апавяданняў-казак пісьменніка.

Сваімі кароткімі замалёўкамі, перасыпанымі прыказкамі і прымаўкамі, Янка Галубовіч выхоўвае ў маленькага чытача працалюбства, уменне сябраваць, разумець адно аднаго, прыходзіць, калі неабходна, на дапамогу. Казкі яго вучаць дапытлівага чытача берагчы прыроду, спрыяюць фарміраванню ў дзяцей назіральнасці, абуджэнню ў душы вялікай любові да свайго роднага куточка, а з цягам часу — і да Беларусі-матухны, яе непаўторных краявідаў.

У абразках, мініяцюрах аўтар нібы звяртаецца да дарослых: «Не бярыце на сябе дзіцячых турбот, бо яны патрэбныя ім для самавыхавання, самавызначэння. Раскрывайце душы, давярайце дзецям свае сумненні, няўдачы, перажыванні. Размаўляйце з імі як з дарослымі, далучаючы да справы, і прыкмячайце ўсе дзіцячыя дасягненні. Уважліва слухаючы сваіх любімых хлопчыкаў і дзяўчынак, суперажывайце ім. Хваліце іх, не пераўтвараючы любоў да дзяцей і адданасць ім у прыслужванне. Не забывайце толькі простую ісціну: дзіця трэба любіць не за тое, што яно прыгожае, разумнае, здольнае, а проста за тое, што яно ёсць…»

Пісьменнік распрацоўвае маральна-духоўныя праблемы, уласцівыя нашаму імкліва-прагматычнаму часу. Ёсць у яго апавяданні на тэму Вялікай Айчыннай вайны. З болем у сэрцы піша пра герояў Афганістана. Багата і вобразна распавядае пра жыццё беларускай вёскі. Павучальныя, яскравыя яго апавяданні пра прыроду, свет якой Іван Іванавіч ведае дасканала. У творчым спісе празаіка ёсць і вострасюжэтная аповесць «Стрэл за дзвярыма», якая ўвайшла ў аднайменную кнігу (выдавецтва «Парадокс», 2004). Расказваецца ў ёй пра трывожныя будні супрацоўнікаў крымінальнага вышуку аднаго з правінцыяльных аддзелаў міліцыі. У жанры дэтэктыўнай аповесці напісаны і твор «Вяселля не будзе».

Аўтар усхвалявана, псіхалагічна дакладна піша пра нашых сучаснікаў, якія імкнуцца ў жыцці да высокага, пра любоў да ўсяго жывога на зямлі, вернасць Радзіме, тым любым сэрцу мясцінам, дзе нарадзіўся і вырас, пра душэўную прыгажосць чалавека. Яго светлыя творы напаўняюць душу чытача станоўчымі эмоцыямі. Пісьменнік умее здабываць з праўды рэчаіснасці хвалюючую эмацыянальную праўду мастацтва. Увасабляе яе ў сваіх разнажанравых творах, імкнецца ўбачыць непарыўную сувязь паміж адзінкавым выпадкам і агульнымі рысамі ды ўласцівасцямі нашага жыцця.

**Аляксандр БЫКАЎ**



***

*«Да пабачэння!» скажам лету…
Ды толькі мроіцца мне зноў
Ў палоне шэрых тумаnoў
Пачатак вечнага Сусвету.*

*Як ранку новага агні,
Злятаюць кропелькі прасторы.
І дзень наперадзе, каторы
Падорыць зноў зямныя дні.*

*Касмічнай дзячу немаце,
І сонцу вечнаму, і поўні.
Дзяцінства шчырага бульбоўнік,
Бы кветка-папараць, цвіце…*

## За гарызонт

*Бяжы, бягун! За дальнюю мяжу.
Туды, дзе свет нам адкрывае
тайны.
І як бальзам на стылую душу —
Кідок твой будзе
фінішна-адчайны…
А потым — цішыня над галавой
Да забыцця, да поўнае знямогі,
Каб заўтра зноў, адрынуўшы
спакой,
Нагамі мерацЬ новыя дарогі.*

## Майстрыха

*Не прымаеш ніколі ты слоў
недарэчных, пустых.
У жыцця ёсць праця,
калі навал і зоркі загінуць…
І цярпліва штодня
вышываеш ты лікі святых,
Каб часцінку душы
на тканіне вясновай пакінуць.*

## На юбілей

*Юбілейныя даты — як вехі.
Верасnёўскія кружаць лісты.
Нашы лёсы — бурлівыя рэкі,
І над імі — нябёсы-масты.*

*За плячамі — і крыўды, і страты,
І спакусы чужынскіх айчын...
Ды вясковае прыпечак хаты —
Ён і твой, і Сусвету зачын!*

## Нясціплы верш

*Прыдатны хутчэй для масоўкі,
Качуся паціху з гары…
І ўсё ж у дарогу красоўкі
Я зноў абуваю, сябры!*

*Няхай не рэкордныя мілі,
Ды радасць саспее ў душы,
Што веку найноўшыя стылі
Маёй не скрывілі душы.*

*Камусьці літаўры і «мані» —
Свае ж я матаю кругі…
Найперш, чым узняцца
над намі,
Пустэчу тапталі багі!*

*Разборкі паўсюдна, тусоўкі,
Спрадвечны Сусвету хаўрус.
А я вось шнурую красоўкі.
Мо так, як сандалі — Ісус?..*

## З-пад кропельніцы

*Болей ты ўжо не войкай,
Як перайшоў мяжу…
Падае кропля за кропляй
Ў вену. А мо ў душу?*

*Там, за акном палаты,
Зранку віруе свет…
Белы абрыс халата —
Быццам анёла след.*

*Немачы гэтай дулю
Я пакажу яшчэ…
Дзякуй, сястрычка Юля
З ямінкай на шчацэ!*

***

*А мы не знікнем ніколі —
У іншым сусвеце ў патолі.
З'явімся, выбухнем промнем.
Ды шлях наш зямны запомнім.*

*Ён мітуслівы, крохкі —
Ад абзаца пралёг да кропкі.
І ад кропкі — да вечных сноў,
Дзе эпілогу
быць пралогам зноў…*

## Пасля эпілогу

*Калі ўсё належыць
Ўсеўладнаму Богу —
Як зведаць нам межы
Свайго эпілогу?*

*Што дзееца ў цемры,
За рысай шматкроп'я?
Мо зноўку праз церні,
Праз стрэлы і коп'і?*

*Мо станем расою
Ці пылам дарожным?
Пякучай слязою
У свеце астрожным…*

*А можа, за краем,
За новай адлігай
У Богавай краме —
Яшчэ адной кнігай?!.*

**Ганна АТРОШЧАНКА**



## Дазволь…

*Прабач, каханы, зноў трывожу,
Бо думкі горкія мае
Ніхто звязаць вузлом не зможа:
Цябе сягоння не стае.*

*За што прашу я прабачэння?
На вуснах бачу толькі смех…
Кахаць не сорам — прызначэнне,
І шчасце гэта, а не грэх.*

*Дазволь адчуць сябе шчаслівай,
За сэрца штосьці ўзяло…
Жадаю быць каханай, мілай,
І лашчыць думкамі чало.*

*…Крануся шчыра тваіх вуснаў —
Бяжыць слязіна па шчацэ.
І пацалунак той спакусны,
Нібы агонь, душу пячэ…*

## Дождж

*Ізноўку дождж. Ах, Божа,
Настрой мой не крані!
Самоту пераможа
Праменьчык дабрыні.*

*Хай будзе дзень журботны,
Віецца ў той цішы,
Час хуткі, незваротны,
Як летапіс душы…*

## Не будзі!

*Не будзі ты мяне на світанні,
Не спявай пад акном дзіўны птах…
Зарасла наша сцежка кахання,
Толькі сум затаіўся ў вачах.*

*Не сустрэцца ніколі з табою,
Бо такім быў, мажліва, наш лёс…
Адзінока заўсёды вясною,
Успамінак — на сэрцы мароз.*

## Малюся

*Віецца сцежачка ў расе,
Паміж рамонкаў вострым клінам…
Я — не такая, як усе,
Але ж, паверце: не загіну!*

*Магчыма, з тых сівых вякоў,
Мой род не жыў ніколі ў скрусе.
Са мною — Вера і Любоў,
Бо шчыра Госпаду малюся.*

**Максім ШНЯК**



## Але

*Але… гэта ўсё выпадковыя крокі,
Бо ў цемры марудная я вуснамі
Сцежку шукаю, не зрокам*

*Але… не ўцяміць такога кірунку:
Праз слоту ў парк і далей…
Так, далей ад раптоўных стасункаў*

*Але… толькі зараз я маю надзею
Прайсці да канца гэты шлях,
Зразумець, ад чаго вар'яцею*

*Але… гэта ўсё. Гэта ўсё несумленна:
Марудная ноч, і надзея, і вусны,
І сцежка, і я, і чужая… Алена.*

## Вочы

*Вочы — дзве лодкі на роўнядзі
твару —
Ноччу дрэйфуюць да берага
мары
Рукі — два берагі рэчкі
пяшчоты —
Ноччу спрабуюць даведацца,
хто ты.*

## Калі ты мяне не пачуеш

*Калі ты мяне не пачуеш
Мой голас павісне лістотай альбо
павуцінкай
На самых танюткіх галінках*

*Калі ты мяне не пазнаеш
Мой воблік патоне
ў свеце вялікім
І стане маленечкім блікам*

*Калі ты мяне не падхопіш
То я пратачуся
ў глебу імгненна
І там застануся насеннем*

*Пакуль ты мяне не ўзгадаеш*

## Калыханка для Алены

*У ліхтара дрыготкі німб
(Начныя жахі абміні)*

*На сцежцы спяць твае сляды
(Пяшчотны сон убачыш ты)*

*Прыціх у лужыне лісток
(Гарбата, ложак, мроі скок)*

*Ледзь чутна ў цемры йдзе цягнік
(На плечы коўдру нацягні)*

*Ад поўні свет нібы ў фальбе
(Спакою птах на думкі сеў)*

*Трывожыць нават шолах слых
(Не будзе ўночы думак злых)*

*Узводзіць Бог наступны дзень
(Туды твой сон цябе вядзе)*

## Гэты сон

*Цемра палюе на вочы
Хочаш?
Вечар раскідвае сум
Прынясу
Дзень незваротна пабег
І табе
Мроі лятуць на крысо
Гэты сон…*

## Не ты

*стрыжні дажджу
дапісалі лісты
й сённяшні вечар
апошні аркуш
я памыліўся,
стаяла не ты
ліпеньскі сум
працягнуў мне руку*

## Пакуль

*Пакуль ты не стала думкай,
Пакуль ты не стала гукам,
Пакуль ты не ў пацалунку
І нават не ў кволым руху,
Пакуль ты яшчэ не болька,
Хоць, можа, лунаеш недзе,
Пакуль не мігціш вясёлкай —
Ты ёсць у маім сусвеце.*

## Сустрэча

*Што я скажу табе ў момант сустрэчы?
Ноч, як мантылля, нам ляжа на плечы.*

*Што я скажу табе ў момант сустрэчы?
Будзе мой голас слабы, бы старэчы.*

*Што я скажу табе ў момант сустрэчы?
Свет перад намі, напэўна, укленчыць.*

*Я не пазнаю цябе пры сустрэчы?
Сумныя вочы пра гэта засведчаць.*



Фота Кастуся Дробава



Расціслаў БЕНЗЯРУК

# Шторм нараджаецца ў моры

*Апавяданне*

Ларысіна сэрца прагла помсты. Нядаўна яна дазналася, што муж Максім здраджвае ёй. І каб з кім талковым, а то з цырульніцай. «Педыкюрша!» — у тую ж хвіліну празвала яе Ларыса.

Педыкюрша мела прыгожанькі тварык, была заўжды з дзіўнай прычоскай і ярка пафарбаванымі пазногцямі. Ларысе да болю стала крыўдна, калі муж прызнаўся, што яму прыемна бываць з каханкай. У доме наступіла пара адчужанасці і маўчання.

На працы заўважылі, што з Ларысай робіцца нешта няладнае. А тут нехта адмовіўся ехаць у Місхор у санаторый. Пуцёўка гарэла, і яе прапанавалі Ларысе. Другі раз яна, напэўна, доўга вагалася б, бо ніколі не ездзіла на курорты, а пра іх расказваюць чорт ведае што, дый у Максіма спыталася б, але цяпер усё гэта здалося ёй лішнім.

Дома сказала пра пуцёўку. Іншым разам Максім, пэўна, быў бы супраць, але сёння мірна заўважыў:

— Ёсць пуцёўка, дык едзь!

— А што з Дзімкам і Наташкай будзе? Я не паспею іх завезці да мамы!

— Я завязу…

Ларыса ведала, што паедзе ў санаторый і абавязкова здрадзіць мужу. Як гэта робіцца, чула ад сяброўак, што не раз выязджалі адпачываць.

***

Яны сядзелі ля самай вады. Хвалі з рокатам набягалі на бераг, лізалі гальку і адкатваліся. Калі ў моры нараджалася вялікая хваля, яна дакатвалася да іх і, разбіваючыся аб валун, абдавала халоднымі салёнымі пырскамі. Яны, радасныя, смяяліся. Каб неяк бавіць час, гулялі ў карты.

Ларыса сустрэла Валодзю Громава ў першы дзень прыезду, на вечары знаёмстваў, што арганізаваў масавік-забаўнік. Валодзя быў хвацкі хлопец, ведаў толк у жанчынах.

На той вечар Ларыса прыйшла з суседкай па нумары Зінай, і адразу на іх звярнулі ўвагу Валодзя з сябрам. Яны шмат танцавалі. Валодзя аказаўся добрым партнёрам.

Пасля яны гулялі па ўзбярэжжы, і Громаў гаварыў і гаварыў, расказваючы больш пра сябе. Родам ён быў з Кінешмы. У тых мясцінах, па Валодзевым аповедзе, калісь плылі на лодках Сцяпан Разін. Адчуўшы няладнае ў стане сваіх ваяроў, вырашыў расстацца з персідскай прыгажуняй. Тая, мусіць, зразумела і са страхам у голасе спытала: «Кінеш мя?», што азначала: «Кінеш мяне?» Праз многа гадоў, як на беразе сталі будаваць горад, яго назвалі Кінешма.

З Валодзем Ларысе было заўжды весела, і яны сустракаліся па некалькі разоў на дзень. Да пасцелі справа пакуль не дайшла, але да гэтага ўсё ішло і зусім не палохала жанчыну. Яна проста не хацела апераджаць падзеі.

Ларыса ў гэтыя дні часта адчувала нейкі дыскамфорт: варта было ім паявіцца на пляжы, як за спіной аказваўся гарбун. І цяпер яна адчувала на сабе яго праніклівы пагляд, які трохі весяліў, а трохі перашкаджаў ёй.

Накупаўшыся, яна пачала выходзіць на бераг, і вочы іх сустрэліся. Гарбун, не адрываючыся, сачыў за ёю. Ларыса ведала сваю слабасць: ёй, як і многім жанчынам, падабалася, калі на яе азіраліся незнаёмыя мужчыны. Цяпер Ларыса, быццам незнарок, правяла далонямі па сцёгнах, як бы падкрэсліваючы, якая яна прыгожая і статная ў гэтым блакітным купальніку.

Гарбун сядзеў зусім побач і, вядома, чуў усё, пра што яна гаварыла з Громавым. Тым больш што яны са сваёй размовы ніякай тайны не рабілі.

Неўзабаве і Валодзя выбраўся на бераг, плюхнуўся на ляжак і стаў абсушвацца.

— Сёння паплаваў больш, бо заўтра, адчуваю, будзе шторм, і ў мора не зойдзеш!

Нібы ў пацвярджэнне яго слоў, хмарка схавала сонца, стала зябка. Ларыса накінула халат.

— А я думаю, — Ларыса ўпершыню пачула голас гарбуна — басавіты, крыху сіплы, — што заўтра змагу паплаваць!

Ларыса здзівілася, бо ніколі не бачыла, каб гарбун заходзіў у ваду.

— А калі будзе шторм? — перапытаў Уладзімір.

— Я сказаў, што заўтрашняе надвор'е не можа быць для мяне перашкодай! — цвёрда адказаў гарбун. — У дзесяць я праплыву да таго буя і вярнуся. Не, нават у дзевяць. Вы прыйдзеце паглядзець?

Гарбун не паведаміў, каго ён хацеў бы бачыць, але Ларыса зразумела, што ён звяртаецца да яе. Зразумеў і Уладзімір і нібы абараніў яе:

— Ларыса не зможа прыйсці. Ёй у дзевяць на працэдуры.

— Чаму ты няпраўду кажаш, Валодзя? — азвалася тая. — Мне ў дзесяць на працэдуры, а ў дзевяць прыйду!

— Дзякуй вам!

Гарбун падняўся. Ларыса ўбачыла, што ён зусім без гарба. Проста так няўдала, нібы пераламаўшыся напалам, сядзеў на гальцы.

— Значыць, заўтра ў дзевяць? — напомніў ён.

Ларыса аж успыхнула ад такой увагі:

— А ўзамен што папросіце? Ці не курортны раман?

— Не, хопіць і ўсмешкі! — пажартаваў незнаёмец. Ён падабраў адзенне і, не апранаючыся, пайшоў.

— Няўжо ты пойдзеш? — спытаў Уладзімір, калі незнаёмы знік сярод адпачываючых.

— Я ж слова дала.

— Ці варты ён твайго слова? Эх вы, гаражанчыны! Абводзяць вас вакол пальца розныя шарлатаны…

***

Валодзя не памыліўся: назаўтра на вадзе не было звычнай залацістай сцежкі, бо сонца схавалася за хмары. Хвалі з шумам накатваліся на бераг. На бязлюдным пляжы сёння чаек было больш, чым учора.

Незнаёмец, рыхтуючыся да заплыву, ужо абціраў цела ручніком. Ларыса звярнула ўвагу на шыльду, якой учора не было: «Шторм. Купацца забараняецца!» Хоць шторму, мусіць, яшчэ не было, але мора чуйна прыслухоўвалася да таго, што адбывалася далёка, можа, за сотню кіламетраў. Яна падышла да незнаёмага.

— Не трэба сёння плаваць! — папрасіла Ларыса. — Мора нейкае неспакойнае.

Незнаёмец прамаўчаў.

— Я веру, што вы смелы чалавек, і не хачу, каб рызыкавалі сваім жыццём. Хочаце, я ўсміхнуся вам і без заплыву?

Незнаёмец зноў нічога не адказаў.

— Хочаце, я стану на калені і буду прасіць вас? — загаварыла Ларыса, і ў голасе была трывога.

Ён, канечне, саступіў бы яе просьбам: ледзь прыкметна ўздрыгнуў мускул на твары, ды ўсё сапсаваў Уладзімір:

— Гэй ты, шарлатан! Не чуеш, што жанчына просіць?

Незнаёмец нечакана адкінуў ручнік, выпрастаўся і стаў у рост з Уладзімірам. Не гледзячы ні на каго, ён паспешна прайшоў міма, ступіў на хвалярэз, дайшоў да краю і, ні хвіліны не раздумваючы, даў нырца. Шаравата-белая хваля накрыла яго.

Усё гэта адбылося так нечакана, што Ларыса не паспела ўскрыкнуць. Ад страху яна заплюшчыла вочы, а калі расплюшчыла, галава плыўца была ўжо над вадой. З яе грудзей вырваўся векліч радасці.

Плыў ён, умела вар'іруючы між хвалямі. Адчувалася, што чалавек у сваёй стыхіі. Калі ж новая хваля схавала плыўца, роспач зноў ахапіла Ларысу. Ёй здавалася, што менавіта яна паслала чалавека на яўную смерць. Але зноў яго галава з'явілася над вадою, хаця хваля аднесла крыху ўбок.

Ларыса разумела, як цяжка плыўцу, але нічым не магла памагчы яму. Толькі да болю сціснула Валодзеву руку.

Плывец стаміўся: рухі яго станавіліся ўсё больш павольнымі, але ён, перасільваючы сябе, імкнуўся плыць наперад. То ён паказваўся над вадою ледзь не да пояса, то хваля закрывала яго. Ларыса кожны раз ускрыквала і мацней упівалася пазногцямі ў Валодзеву руку. Таму было балюча, але ён цярпеў.

Вось і запаветны буёк. Плывец зразумеў, што хваля, якая з рокатам ідзе на яго, змые, і даў нырца пад яе, а калі пракацілася, ухапіўся за буй. Новая ж накрыла яго. Як прайшла і яна, Ларыса ўбачыла чалавека: плывец адпачываў і, здавалася, зросся з буйком.

Прайшло колькі часу, перш чым ён пачаў шлях да берага. Ён плыў услед за хваляю, але неўзабаве новая дагнала яго. Ларыса ўсведамляла, што цяпер плыўцу лягчэй: хвалі гналі да берага. Але ці хопіць у яго сіл?!

Час быццам спыніўся. Ларыса з мальбою глядзела на чалавека ў моры. Вось хваля нарэшце вынесла яго на мель. Ісці ён не мог, поўз на каленях.

— Дапамажы яму! — загадала Уладзіміру Ларыса.

Плывец, аднак, адмовіўся ад дапамогі, сказаў выразна:

— Я сам!

Ён дабраўся да пакінутага некім лежака, накінуў кашулю і стомлена заплюшчыў вочы.

— Чым я магу вам памагчы? — спытала Ларыса.

Незнаёмец як бы не чуў яе. Ларыса нахілілася і пацалавала яго салёную шчаку. Плывец расплюшчыў вочы, на вуснах з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка, і прашаптаў:

— Дзякуй вам! — і зноў заплюшчыў.

— Ларачка, табе пара на працэдуры! — Уладзімір узяў яе за локаць і амаль сілай прымусіў пакінуць пляж. — Яму трэба пабыць аднаму, — прамовіў ён, як адышлі.

Ларыса азірнулася: незнаёмы ляжаў у той жа позе.

***

Валодзя ў гэты дзень быў асабліва ўважлівы. Цярпліва чакаў, пакуль яна праходзіла працэдуры, адчыняў перад ёю дзверы, прапускаў наперад. Усё гэта, што так весяліла Ларысу ўчора, сёння здавалася непатрэбнасцю. Яна ніяк не магла дачакацца канца працэдур.

Мора за той час, як яны не былі на пляжы, змянілася. Хмара, здавалася, апусцілася яшчэ ніжэй, а хвалі з рокатам разбіваліся аб прыбярэжныя скалы і белай пенай адкатваліся назад. Пляж быў пустынны. На тым лежаку, дзе пакінулі плыўца, хаваючыся ад буры, прымасціліся дзве чайкі.

— Вось бачыш, яго няма! — закрычала Ларыса.

— Правільна, ён адпачыў і пайшоў! — не крыўдуючы за такую выхадку, адказваў Уладзімір.

— Няма! Няма!.. — як у бяспамяцці, паўтарала яна і, калі яе позірк сустрэўся з Валодзевымі вачыма, раздражнёна заявіла:

— І цябе таксама не хачу бачыць!

— Лора, супакойся, супакойся! — прасіў, гладзячы яе плячо, Уладзімір, але гэта толькі абурала жанчыну:

— Я сказала, пакінь мяне адну!

Да Уладзіміра быццам толькі цяпер дайшло, чаго ад яго хочуць. Ён, моўчкі пра літасць, папрасіў:

— Тут нікога няма. І я табе не буду перашкаджаць…

Але яна была няўмольная:

— Ну, ідзі адсюль! Пакінь мяне адну!

Калі трохі адышоўся, Ларыса выразна сказала:

— Я не хачу цябе бачыць ні сёння, ні заўтра — ніколі!

Уладзімір прыняў яе словы за жаночую істэрыку і чакаў, што скора ўсё пераменіцца. Але, калі пасля абеду ён пастукаў у яе нумар, Зіна адказала, што Ларыса дрэнна сябе пачувае. На вячэру яна не выйшла, а назаўтра нават не адказала на прывітанне, быццам яны не былі знаёмыя.

Так доўга не магло заставацца. Уладзімір, які заўсёды меў поспех у жанчын, адчуваў сябе няёмка ў ролі прасіцеля і неўзабаве закруціў раман з новай паненкай. Ларысе хоць і крыўдна было, што яе так проста кінулі, але раптам настала нейкае адчуванне поўнай свабоды, а з ім прыйшло і палягчэнне.

А тут прыспела пісьмо ад сяброўкі Лёлі. Яна расказала, што Максім вельмі змяніўся: не адвёз дзяцей да маці, а сам глядзіць іх, возіць Наташку ў школу, а Дзімку — у дзіцячы сад. Ларыса зразумела, што ўсё яшчэ любіць свайго Максіма.

Адчуўшы сябе адзінокай сярод людзей, яна вырашыла ехаць дамоў. У касе паведамілі, што білетаў на цягнік на сёння няма. Можна было ўзяць на заўтра, і яна купіла. Заўтра з ранку яна ехала тралейбусам да Сімферопаля, каб там сесці на цягнік Адлер — Кіеў, а ў Кіеве перасесці да Брэста.

***

Калі цягнік адышоў ад сімферопальскага перона, да Ларысы нечакана падышоў незнаёмец.

— Добры дзень, Ларыса Пятроўна! — прывітаўся ён.

Пачуўшы гэты сіплаваты бас, жанчына ўздрыгнула. Яна ўпотай паглядзела на прышлага і яшчэ болей здзівілася: яе зноў як бы праследаваў той «гарбун».

— Вы? У вас што, скончыўся тэрмін адпачынку?

— Скончыўся, як і ў вас, — загадкава адказаў ён. — Давайце знаёміцца: Алег Бачыла! Дазволіце прысесці?

Толькі цяпер Ларыса заўважыла, што месца побач, якое займаў мужчына, пустуе. Азірнулася, куды ён падзеўся.

— Не хвалюйцеся: ён на маім месцы. Мы памяняліся.

Няхітрыя Алегавы рэчы стаялі поруч. Ён сеў. Ларыса першы раз убачыла так блізка свайго суседа: малады, вабны твар, моцныя, мускулістыя рукі, дрыготкая жылка на скроні.

— Алег, а вы не баіцеся, што я раскажу мужу, як вы ўвесь час праследавалі мяне? — усміхнулася яна.

— Максіму Мацвеевічу? — прыжмурыў вока Алег.

— О, дык вы ведаеце майго мужа?! — здзівілася Ларыса, падумала і праз хвіліну дадала: — Хочаце, я адгадаю вашу прафесію?

— Давайце!

— Вы прыватны дэтэктыў?

— Дапусцім…

— І вас муж наняў сачыць за мною?

Алег прамаўчаў.

— І вы пастаянна былі побач. У вагоне, едучы туды, я заўважала на сабе чужыя вочы. Але, здаецца, гэта былі не вы, а другі чалавек, вусаты…

— Так, вусаты!

— Няўжо вы?! А куды вусы падзеліся?

— Адклеіліся…

— Я ўсё разумею, — сказала Ларыса. — Аднаго не магу ўцяміць: чаму ў шторм вы кінуліся ў бурнае мора?

— Я меў ад Максіма Мацвеевіча заданне не надта мазоліць вам вочы, лішні раз не выдаваць сябе, але толькі да таго часу, пакуль вашы адносіны з кім-небудзь не зойдуць так далёка, што можа быць здрада. Вашы адносіны з Громавым дайшлі да той рыскі, якую ў любы момант маглі пераступіць, і я мусіў перапыніць іх.

— Але ж вы рызыкавалі сваім жыццём?

— Гэта мая работа.

Ларыса, можа, першы раз з удзячнасцю глянула на Алега. Яна адчувала, што паранейшаму кахае свайго мужа. А Максім, наняўшы дэтэктыва, як бы даказаў, што таксама неабыякавы да яе. Яна і сама папрасіла Лёлю, каб тая глядзела за мужам, бо так хацелася, каб сям'я ўсё ж не распалася. Цяпер яна ціха прашаптала, як некалі Алег пасля заплыву:

— Дзякуй вам!..

Калі пад'язджалі да Брэста, Ларыса хацела пазваніць мужу, але Алег сказаў:

— Не хвалюйцеся, Ларыса Пятроўна! Машына чакае нас з вамі на вакзале. Паклапаціўся Максім Мацвеевіч…

# Тадэуш Стружэцкі: «Досвед папярэднікаў трэба абавязкова ўлічваць»



Гаворку з Тадэушам Стружэцкім мы пачынаем з яго артыкула «Каб спявала ўся рэспубліка», які быў надрукаваны ў «ЛіМе» 14 лютага 1986 года і стаў гісторыяй.

***Даведка «ЛіМа»:***

*Тадэуш Стружэцкі скончыў з адзнакай Рэспубліканскія курсы Міністэрства культуры БССР па падрыхтоўцы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці і Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага, аспірантуру Маскоўскага дзяржаўнага інстытута культуры.*

*Працаваў загадчыкам сектара Палаца культуры прафсаюзаў, выкладчыкам Мінскага інстытута культуры, намеснікам дырэктара Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы. З 1983 па 2004 гады — у цэнтральным апараце Міністэрства культуры.*

*У 1990 — 2004 гг. — кіраўнік-каардынатар Нацыянальнай секцыі Міжнароднага савета па арганізацыі фальклорных фестываляў і традыцыйных мастацтваў.*

*З'яўляўся дарадцам Галоўнага ўпраўлення Еўропы Міністэрства замежных спраў, дарадцам па гуманітарных пытаннях Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Са снежня 2009 па красавік 2013 г. працаваў намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь. Агульны працоўны стаж — 43 гады.*

**— Кажуць, што чалавек не бярэцца за пяро, пакуль няма чаго сказаць. Ваш артыкул з'явіўся таму, што спатрэбілася падзяліцца досведам? Альбо гэта была замова рэдакцыі?**

— У той час завяршаўся адзін фестываль — Усесаюзны фестываль самадзейнага мастацтва, прысвечаны 40-годдзю Вялікай Перамогі — і быў аб'яўлены другі, таксама ўсесаюзны, прысвечаны 70-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта вельмі вялікія фестывалі, праводзіліся яны на высокім узроўні і ахоплівалі ўсю аматарскую творчасць. У рэспубліцы быў назапашаны пэўны досвед, цікавы і для іншых саюзных рэспублік. Так і быў зроблены матэрыял: пра вынікі фестывалю, праблемы і задачы. Большасць тых высноў застаюцца актуальнымі і сёння. І таму таксама, што народнае мастацтва менш за ўсё палітызаванае, найменш паддаецца фармальнаму кіраўніцтву. Добра, што сёння мы захавалі асноўнае, што было трыццаць гадоў таму. Захавалі ўсе віды і жанры народнага мастацтва, большасць вядучых творчых калектываў, масавасць аматарскай творчасці. У артыкуле прыводзяцца лічбы: у фестывалі бралі ўдзел звыш мільёна чалавек. Цяпер удзельнікаў аматарскіх мастацкіх калектываў значна менш (прыкладна ў тры разы). Але для нашай невялікай краіны гэта таксама нямала.

**— Досыць сімвалічная назва артыкула: «Каб спявала ўся рэспубліка». Можна згадваць пра фестываль, а можна думаць больш шырока — пра ўсю культуру. Наколькі імклівая яна развіваецца?**

— Назва, можа, трошкі ўзнёслая, але і сімвалічная. І ў той час, і сёння актуальнай задачай для дзяржавы з'яўляецца стварэнне неабходных умоў для рэалізацыі творчых магчымасцей кожнага, хто мае адпаведныя здольнасці. Вельмі важна, што сёння захоўваюцца такія магчымасці. Хаця мяняюцца інтарэсы людзей, і, на жаль, гэта таксама аб'ектыўны працэс, характэрны для большасці краін свету, — што колькасць тых, хто займаецца аматарскай творчасцю, змяншаецца. Тым большая ўвага павінна быць. І вось тут не заўсёды ёсць разуменне: што такое «Крупіцкія музыкі» для Мінскага раёна і для ўсёй рэспублікі? Прыклады можна прыводзіць і па дзясятках іншых аматарскіх творчых калектываў, якія сёння прадстаўляюць лепшыя ўзоры народнага мастацтва. Да гэтых калектываў павінна быць асаблівая ўвага, яны павінны пеставацца і падтрымлівацца як эталоны развіцця пэўных жанраў.

Калі ў комплексе гэту праблему бачыць, тады можна гаварыць, што за апошнія дзесяцігоддзі сфарміравана пэўная сістэма падтрымкі аматарскага мастацтва. Не ў кожнай краіне яна ёсць! І ў гэтым плане мы былі і застаёмся адметнымі. Калі параўноўваць з той жа Польшчай ці Балгарыяй, з іншымі еўрапейскімі краінамі, то можна сказаць, што ў нас дзейнічае сістэма і яна дапамагае не толькі захоўваць большасць творчых калектываў і падтрымліваць высокі творчы ўзровень, але і стварае ўмовы для фарміравання новых.

**— Тадэуш Іванавіч, народная творчасць — гэта тая галіна культуры, якая вам найбольш блізкая?**

— Безумоўна. Я сам прайшоў гэту школу ў некалькіх творчых калектывах. Найперш — у харавых, паколькі я дырыжор па музычнай адукацыі. Быў у хоры Віцебскага музычнага вучылішча: у 1971 годзе гэты хор заняў першае месца сярод харавых калектываў музычных вучылішчаў рэспублікі. Адначасова я займаўся ў харавой капэле настаўнікаў горада Віцебска. І самы працяглы час — у народным хоры Палаца культуры прафсаюзаў. Я выдатна ведаю, што такое для артыста-аматара заняткі ў калектыве, якая асалода выступаць на публічнай сцэне. Фактычна, гэта другое жыццё, дзе чалавек, у адрозненне ад асноўнай працы, можа больш поўна і цікава рэалізаваць сябе. Там ён мае сяброў, туды імкнецца ў вольны час. Упэўнены, што аматарская творчасць будзе заўсёды мець і сацыяльна-культурную значнасць для грамадства.

**— За вашымі плячыма вялікі досвед працы. Як вы думаеце, ці існуе такое паняцце: «залаты час беларускай культуры»? Калі ён быў?**

— Гэта паняцце адноснае. Сёння распачынаецца чарговы Міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах. І кожны раз, калі прыязджаеш у Паставы, успамінаеш іх залаты час. Гэта XVIII ст. — гады дзейнасці Тызенгаўза. Калі існавала балетная і музычная школы, дзе была музычная школа, вялікая карцінная галерэя, вялікі арніталагічны музей — адзін з лепшых у Еўропе. Паставы з'яўляліся значным культурным цэнтрам. Можа, не такім, як Нясвіж, але блізкім. Тое, што сёння робіцца ў Паставах, — напэўна, таксама калі не залаты, то добры час. Спадзяюся, што праз некалькі гадоў Палац Тызенгаўза стане цікавым культурна-музейным комплексам.

Таксама і ў адносінах да сферы культуры ў цэлым. Безумоўна, 1990-я гады, калі пачаўся актыўны рух за адраджэнне, шырокае выкарыстанне беларускай мовы, мы таксама можам называць вельмі добрым часам. Гэта было выдатным штуршком для стварэння народных калектываў, папулярызацыі беларускамоўнага рэпертуару. Тады была прынята першая дзяржаўная праграма падтрымкі народнага мастацтва. Што з'явілася штуршком для развіцця традыцыйнай культуры наогул. У 1990-х гадах пачалося грунтоўнае вывучэнне фальклору. Пачалі ствараць дамы рамёстваў, фальклорныя калектывы. Але і наперадзе могуць быць такія этапы. Мастацтва не развіваецца па прамой лініі. Для яго характэрны ўзлёты і спады.

**— Тая праграма сваю задачу выканала?**

— У большасці яна была рэалізавана. Адным з вынікаў з'явілася прыняцце ў 1996 годзе Закона аб народным мастацтве, народных промыслах і рамёствах. А пазней з'явіліся іншыя праграмы. Была прынята галіновая праграма «Культура Беларусі» і цяпер дзейнічае дзяржаўная праграма «Культура Беларусі» на 2011 — 2015 гг., так што ёсць рух наперад. А пераемнасць дзяржаўных праграм сведчыць пра ўвагу дзяржавы да развіцця народнага мастацтва і традыцыйнай культуры. У мінулым годзе была прынята праграма «Слуцкія паясы», і мне прыемна, што я быў адным з ініцыятараў, распрацоўшчыкам, кіраўніком рабочай групы, як і вышэйназваных праграм. Калі гэта праграма будзе рэалізавана, як яна задумана, то ў бліжэйшыя гады будуць створаны аналагі слуцкіх паясоў і сувенірная прадукцыя з узорамі слуцкіх паясоў, і адносіны да слуцкага пояса як нацыянальнага сімвала на ўзроўні дзяржавы і грамадства будуць іншыя.

**— Апошнімі гадамі актыўна загаварылі пра еўрапейскі ўзровень беларускай культуры. Сапраўды, культура не мае межаў, і ўплыў іншых краін — з'ява заканамерная. Наколькі ж узаемнаўплывовымі могуць быць нашыя кантакты? Згадайма стасункі з Польшчай. І былы міністр культуры, ды і вы ў свой час там працавалі. Наколькі ж неабходныя кантакты з суседзямі?**

— Так. Адносіны фарміраваліся стагоддзямі. І ўплыў суседзяў — не толькі з Польшчы — быў даволі значны. Сёння нам вельмі цяжка дзяліць агульную гісторыка-культурную спадчыну, якую дзеячаў культуры і мастацтва. Хто яны: беларусы, палякі альбо літоўцы? Напрыклад, мастак Марк Шагал. Яго ўнёсак зроблены ў развіццё нацыянальнай мастацкай школы альбо агульнаеўрапейскай? Ці згадайма імя М. К. Агінскага. 250-годдзе яго будзе адзначацца ў 2015 годзе.

Дзейнасць мая ў рангу дарадцы па культуры ў Польшчы была скіраваная на максімальна шырокую прэзентацыю беларускай культуры. І не толькі ў Варшаве альбо Беластоку, але і ў самых розных польскіх рэгіёнах. І кожны раз пераконваўся, што культура і нацыянальнае мастацтва з'яўляюцца найлепшымі сродкамі для фарміравання добрых адносін і спрыяльнага клімату, для фарміравання кантактаў у розных сферах, станоўчага іміджу краіны. Больш актыўна павінны рэалізоўвацца самыя розныя формы прэзентацыі беларускага мастацтва і культурна-адукацыйных праектаў за мяжой. У тым ліку важна стварэнне прадстаўнічых арганізацый, культурных цэнтраў. Аналаг такога цэнтра быў створаны намі ў Польшчы. І тут мы можам пераймаць вопыт іншых краін. Перш за ўсё — Расіі, якая мае сваю шырокую сетку (каля 50) культурных, навуковых, інфармацыйных цэнтраў. Такі ж досвед у Польшчы, якая мае 24 польскія інстытуты ў розных краінах свету. Гэта непалітызаваныя структуры, якія даюць магчымасць фарміравання сістэмы ўзаемаадносін паміж дзяржаўнымі, грамадскімі арганізацыямі, установамі культуры. Дарэчы, мне давялося быць адным з аўтараў праекта праграмы «Беларусы ў свеце». Калі яна будзе прынятая, то яе рэалізацыя дазволіць не толькі шырока прэзентаваць нашу культуру ў замежжы, але і больш сістэмна падтрымліваць беларускія суполкі і аб'яднанні ў многіх краінах свету, нават у Аўстраліі, Амерыцы, не гаворачы ўжо пра суседнія краіны, дзе нацыянальныя меншасці прадстаўлены даволі шырока: у Літве, Латвіі, Польшчы, Украіне, Расіі.

**— Як вы лічыце, калі вы сталі асобай, вядомай у сферы культуры? Памятаеце той момант?**

— Найбольш яркія гады — 1994 — 2000-я, калі стваралася вельмі шмат новага: былі сфарміраваны сетка дамоў рамёстваў і фальклору, сістэма фестываляў народнага мастацтва… Але, напэўна, самым першым экзаменам на прафесійную падрыхтаванасць з'явіўся актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні рэспубліканскіх святаў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Маладзечанскім і Стаўбцоўскім раёнах. Нават у апошнія чатыры гады, калі давялося зноў працаваць у міністэрстве, мы таксама рэалізавалі некалькі новых праектаў. Напрыклад, Культурная сталіца года, конкурс «Зорка ўзышла над Беларуссю», Першы фестываль мастацтваў беларусаў… Мне давялося быць у 2011 годзе на прэзентацыі Ерэвана як Сусветнай кніжнай сталіцы, якая стала значнай культурнай і палітычнай падзеяй. Там прысутнічалі дэлегацыі амаль з 50 краін, кіраўнікі шматлікіх міжнародных арганізацый. Арменія загучала ў свеце. Арганізавалі дзясяткі кніжных выставак у еўрапейскіх краінах. І тады ў нас — удзельнікаў дэлегацыі ад Беларусі — з'явілася ідэя прапанаваць Мінску пазмагацца за атрыманне права быць Сусветнай кніжнай сталіцай. Кнігадрукаванню ў Арменіі — 400 гадоў, кнігадрукаванню ў Беларусі ў 2017 годзе споўніцца 500 гадоў. Мы маем вельмі важкія падставы прэтэндаваць на гэты важны для Беларусі статус. Спадзяюся, што хопіць ініцыятывы міністэрствам культуры і інфармацыі, Саюзу пісьменнікаў Беларусі, іншым дзяржаўным і грамадскім арганізацыям, каб дабіцца рэалізацыі гэтай ідэі.

З іншых агульнанацыянальных праектаў гэта можа быць і 250-годдзе з дня нараджэння Агінскага — яркай асобы, імя якой будзе ўнесена ў спіс памятных дат свету. Можна назваць і іншыя праекты. Неабходна выхоўваць у сваіх суграмадзян пачуццё гонару за сваю краіну, нацыю. Пакуль яго, на жаль, многім нестае. Пачуццё гонару накладвае вельмі вялікую адказнасць на грамадзян краіны, фарміруе нацыянальную свядомасць. 2013 год таксама адметны юбілеямі нашых вядомых пісьменнікаў і паэтаў. Актуальнай з'яўляецца праблема чытання, асабліва дзіцячага, і дзеля яе вырашэння неабходна рэалізаваць комплекс мер, як гэта зроблена ў многіх краінах. Нават Расія заклапочана захаваннем рускай мовы. І гэта справа не толькі Саюза пісьменнікаў ці Міністэрства культуры Беларусі. Літаратура, і перш за ўсё нацыянальная, вядомыя пісьменнікі і паэты павінны быць больш запатрабаванымі, агульнанацыянальнымі сімваламі. Вельмі важна, што «ЛіМ» не здраджвае сваім традыцыям, з'яўляецца таксама такім нацыянальным сімвалам.

**— Чым плануеце заняцца ў бліжэйшы час? Праводзіць фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік"?**

— Безумоўна, старауся зрабіць усё магчымае, каб чарговы, ужо 23-і па ліку фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік» на сваёй роднай Пастаўшчыне прайшоў на добрым арганізацыйна-творчым узроўні, меў і нешта новае. Вельмі рады, што зацікаўленай падтрымкай і намаганнямі Пастаўскага райвыканкама будзе адкрыты ў дадатак да трох каменных скульптур, устаноўленых у мінулым годзе, памятны знак, прысвечаны фестывалю, адбудуцца новыя цікавыя мерапрыемствы. У бліжэйшы месяц-другі я хацеў бы рэалізаваць шмат назапашаных спраў. Праца ў міністэрстве пры станоўчых фактарах мае і шмат адмоўнага. Асабліва ў сферы культуры — гэта праца без выхадных, усе вялікія мерапрыемствы праводзяцца ў святочныя дні. А значыць, не мог пачытаць столькі, колькі хацеў бы, займацца іншымі асабістымі справамі. Акрамя таго, я з'яўляюся старшынёй апякунскага савета фонду «Спадчына Агінскага», актыўна супрацоўнічаю з Беларускім фондам культуры. Спраў хапае…

Ірына ТУЛУПАВА

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі



Кніжны свет

7 чэрвеня 2013 г.

*Паралелі*

# Беларусь і Казахстан — яго лёс...

З чарговай камандзіроўкі прывёз кнігу «Сэрца, народжанае для дабра» (па-казахску назва яе гучыць так: «Жаксылыкка жаралган журек»). І прысвечаны гэты том лёсу, творчасці аднаго з актыўных арганізатараў асветніцтва ў Казахстане, грамадскаму і дзяржаўнаму дзеячу, пісьменніку і вучонаму Адзію Шарыпаву, чый 100-гадовы юбілей адзначала казахская грамадскасць у 2012 годзе. Уручылі мне гэтае выданне ў падарунак у Інстытуце літаратуры і мастацтва Акадэміі навук Казахстана ў Алматы.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

— Адзій Шарыпаў, — адразу заўважыла кандыдат філалагічных навук і добры сябра беларускай літаратуры Святлана Ананьева, — першы з казахаў, чыё імя ўключана ў Брытанскую Энцыклапедыю. У свой час ён быў міністрам асветніцтва Казахскай ССР, першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Казахстана, сакратаром Саюза пісьменнікаў СССР. Адзія Шарыпава выбіралі дэпутатам Вярхоўнага Савета Казахскай ССР і Вярхоўнага Савета СССР, намеснікам Старшыні Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР. Працаваў пісьменнік і дырэктарам Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава. Таленавіты педагог і вядомы вучоны, ён унёс вялікі ўклад у стварэнне падручнікаў на казахскай мове. Вось у гэтай кнізе ўпершыню выдадзены не толькі ўспаміны пра славутага даследчыка літаратуры, але і архіўныя дакументы, якія ўяўляюць вялікую навуковую, гістарычную цікавасць.

…А што ж яднае Адзія Шарыпава з Беларуссю?.. У лютым 1940 года маладога казаха прызвалі ў войска. І патрапіў ён служыць у 7-ю танкавую дывізію, якая дыслацыравалася на той час у Беластоцкай вобласці. Першы бой з фашыстамі — 22 чэрвеня 1941-га… Адступленне. Акружэнне, з якога было не вырвацца… І салдат застаўся на акупіраванай тэрыторыі. Шлях для патрыёта мог быць толькі адзін — змагацца з ворагам. І Адзій трапляе ў партызанскі атрад… Разам з таварышамі па партызанскай барацьбе Адзій Шарыпаў дзейнічаў на памежных беларуска-расійскіх тэрыторыях. Атрад Сашы (так пазней баявыя сябры называлі падраздзяленне Шарыпава) змагаўся з ворагам і ў Краснапольскім раёне, на Магілёўшчыне. Дзякуючы падтрымцы мясцовага насельніцтва наладжваліся засады, партызаны ўзрывалі масты, чыгуначныя магістралі, знішчалі варожую тэхніку… У пачатку кастрычніка 1943 года 2-я Клятнянская брыгада злучылася з часцямі Чырвонай арміі.

…Сардэчныя адносіны да шматпакутнага беларускага народа назаўсёды захаваліся ў душы адважнага казаха. Пасля Вялікай Айчыннай вайны Адзій Шарыпаў стараўся падтрымліваць сувязі са сваімі братамі па зброі, па змаганні з фашыстамі ў магілёўскіх і смаленскіх лясах. У 1985 годзе былы партызан наведаўся ў Краснапольскі раён. Вось што расказвае ўдава пісьменніка — Клара Мынжасарава: «Ён назаўсёды з удзячнасцю ўспамінаў жыхароў вёсак, мястэчак, якія сустракаліся на яго партызанскім шляху. Гэтыя людзі, што жылі ў акупацыі, цярпелі здзекі фашысцкай навалачы, дапамагалі партызанам, як толькі маглі, наколькі хапала іх сіл. Здаваласся, і праз сілу пераступалі». І, канечне ж, вайна не магла не адбіцца на творчасці былога беларускага партызана. У аповесцях Адзія Шарыпава адлюстраваны не проста гістарычныя падзеі, у кожным з твораў перад чытачом паўстаюць людзі, якія маюць рэальных прататыпаў. Беларусь, беларусы прысутнічаюць у такіх аповесцях, як «Дачка партызана», «Гісторыя аднаго кажушка», «Помста», «Зоркі ў цямніцы». Вобразна, рэльефна выпісаныя партрэты нашых землякоў, партызан розных нацыянальнасцей, што змагаліся на беларускай зямлі поруч, выклікаюць сімпатыі, назаўсёды застаюцца ў памяці. Дакументалізм твораў нарадждае асаблівы давер да аўтара. Літаратурныя адметнасці і надзвычайная праўда — вось два складнікі, што акрэсліваюць мастацкі свет казахскага пісьменніка. Па сцэнарыі Адзія Шарыпава быў зняты кінафільм «Лясная балада». Між іншым, кінакарціна атрымала высокую ацэнку на фестывалях у Ташкенце і Алматы. У гэтым фільме мастак слова, празаік і кінадраматург сцвердзіў свае перакананні пра тое, што «свет надзвычай вялікі, бязмежны, сапраўдная ўзнёслая паэма жыццесцвярджальнасці» і мастацтва павінна ў гэтым свеце служыць выключна «агульначалавечым каштоўнасцям і гуманізму». Так і пісаў гэтую жыццесцвярджальную паэму ўсім сваім лёсам салдат, партызан, пісьменнік Адзій Шарыпаў.

Вельмі шчымлівая аповесць «Гісторыя аднаго кажушка». Твор цалкам аўтабіяграфічны. Сюжэт аповесці падмацаваны ўспамінамі сведкаў і вачавідцаў тых грозных дзён. У снежні 1941 года будучага пісьменніка цяжка параніла ў грудзі. І таварышы схавалі яго ў лесніка Рамана Анодзіна. Мноства асколкаў са спіны параненага доктар выдаляў без наркозу, здолеўшы знайсці для параненага толькі самагонку. А вось як перадае тыя ўспаміны ад самога героя Клара Жагіпараўна — удава пісьменніка. Яна расказвае не пра персанажа, а пра самога пісьменніка: «Адзій Шарыпавіч часта страчваў прытомнасць. А калі прыходзіў у сябе, то бачыў у суседнім пакоі схіленую галаву на дзіва прыгожай дзяўчыны. Яна ўсю ноч нешта шыла. А ў адну з раніц сон патрывожыў ляснік: «Немцы блізка! Вам трэба зараз жа сыходзіць!» Адзія пераклалі на насілкі, а накрыць яго няма чым — шынель увесь быў у крыві. Ясна, што на марозе паранены проста не вытрымае. І тады дзяўчына падаравала партызану кажушок. «Ён сагрэе вас», — толькі і сказала прыгажуня. Доўгі час кажушок быў сапраўдным талісманам, абярэгам для казахскага хлопца…» І зусім не выпадкова аповесць прысвечана Еўдакіі Анодзінай. А кажушок пасля вайны захоўваецца ў адным з музеяў.

…Апошні раздзел кнігі, якую мне падаравалі ў Алматы, утрымлівае лісты, пералік навуковых прац руплівага збіральніка гісторыі казахскай літаратуры, казахскага асветніцтва, бібліяграфію яго мастацкіх твораў. Мудры, празорлівы, дасведчаны — такім паўстае вучоны і пісьменнік у стасунках з сябрамі, калегамі. Сярод адрасатаў Адзія Шарыпава — пісьменнікі розных краін, розных куточкаў былога Савецкага Саюза. Дружалюбны, адказны за слова і справу, уважлівы, надзвычай выхаваны, інтэлігентны — такім і застаецца Адзій Шарыпаў у памяці сяброў, паплечнікаў, прадстаўнікоў малодшага пакалення казахстанскай інтэлігенцыі.

Казахстан і Беларусь — дзве кропкі адліку ў светаўспрыманні Адзія Шарыпава. Сярод іншых дакументаў, змешчаных у кнізе, — і вітанне казахскага літаратара беларускаму народу ў сувязі з адным з юбілеяў Беларускай ССР: « Мне, як беларускаму партызану і казахскаму пісьменніку, вельмі прыемна павіншаваць беларускі народ з 60-годдзем з дня ўтварэння Беларускай ССР…» Далей ён успамінае, як дванаццаць сем цяжкіх месяцаў правёў у беларускіх лясах, як прайшоў пешшу многімі сцежкамі зямлі беларускай. Успамінае свае сустрэчы з народнымі паэтамі Беларусі Петрусём Броўкам, Максімам Танкам, іншымі дзеячамі культуры, мастацтва Беларусі. Але ваенныя гады асабліва помныя… «Нізкі паклон табе, зямля беларусаў, ад нас — партызан з Казахстана! Ты зберагла і сагрэла нас на сваіх грудзях у цяжкія партызанскія гады. Калі бяруся за пяро, твой вобраз, Беларусь, паўстае перада мною. Твае абаронцы, партызаны заўсёды ў сэрцы маім, калі пішу свае кнігі пра партызанскія часіны ў тваёй прасторы, ды і ўвогуле заўсёды ў душы маёй і сэрцы маім!»

У кнізе надрукаваны шэраг унікальных фотаздымкаў. Адзій Шарыпаў на іх — з Міхаілам Шолахавым, Габітам Мусрэпавым, Расулам Гамзатавым, Канстанцінам Федзіным, Кайсынам Куліевым, Сырбаем Мауленавым, Георгіем Маркавым. І — з Максімам Танкам. Ёсць і ўнікальныя кадры з партызанскага юнацтва на беларускай зямлі.

Мурат Аўэзаў назваў Адзія Шарыпава чалавекам-місіяй, які быў рэкрутаваны для подзвігу сваім асабістым лёсам, гісторыяй і сваім генетычным кодам, для подзвігу ў імя казахскага народа. Але ж і было ў гэтым лёсе месца — для нашай роднай Беларусі, якую так любіў казахскі пісьменнік і вучоны.

# Купала-дыпламат

У кастрычніку 1935 года Янка Купала ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў наведаў Славакію. Паездка сталася важнай як для творчасці Песняра, так і ў справе збліжэння беларускага і славацкага народаў.

**Юзэфа ВОЎК,
фота аўтара**

Сёння мы можам даведацца нашмат больш пра гэтае падарожжа — наведаўшы выстаўку «Славакія сустрэчы Купалы», што не так даўно распачала працу ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. У экспазіцыі прадстаўлены рукапісы, дакументы, фотаздымкі з фондаў Літаратурнага і музычнага музея Дзяржаўнай навуковай бібліятэкі ў Банскай Быстрыцы, Літаратурнага архіва Славацкай нацыянальнай бібліятэкі ў г. Марцін, а таксама Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску.

Падчас адкрыцця выстаўкі ў музеі Песняра часовы павераны ў справах Рэспублікі Славакія ў Рэспубліцы Беларусь спадар Эрык Ліптак падкрэсліў:

— Стала ўжо амаль традыцыяй, што дух Славакіі прысутнічае ў сценах гэтага дарагога ўсім беларусам культурнага месца. Нас усіх гэта радуе, бо адна з найважнейшых задач нашай працы — развіваць культурнае збліжэнне краін. Янка Купала, пабываўшы ў 1935 годзе ў Славакіі і размаўляючы з выдатнымі творцамі і грамадскімі дзеячамі краіны, быў прыкладам такога збліжэння. На жаль, пра яго мы дагэтуль амаль не ведалі. Але дзякуючы гэтай выстаўцы сустрэча нашых культур, што адбылася амаль 80 год таму, не забудзецца.



Фрагмент экспазіцыі «Славакія сустрэчы Купалы».

Добрым прыкладам плённай працы ў галіне беларуска-славацкага культурнага збліжэння з'яўляецца навуковая дзейнасць Міколы Труса, кандыдата філалагічных навук дацэнта, аўтара даследавання «Янка Купала ў Славакіі». Ён таксама прысутнічаў на імпрэзе і ў прывітальным слове адзначыў:

— Безумоўна, ва ўмацаванні беларуска-славацкіх сувязей важную ролю адыграў візіт, што адбыўся ў кастрычніку 1935 года. Паездка працягвалася некалькі дзён. Купала на свае вочы, як і іншыя ўдзельнікі дэлегацыі, мог пабачыць, як адбываецца нацыянальнае будаўніцтва ў Славакіі. У нас падобныя гістарычныя шляхі, але тым не менш у 1920 — 30-я гады славакі атрымалі магчымасць развіваць сваю культуру, навуку, падтрымліваць самабытнасць. Гэта, канечне, радавала Купалу. А ў некаторых момантах ён нават зайздросціў. Гэтая зайздрасць размеранаму жыццю, поспехам будаўніцтва прасочваецца ва ўспамінах. Так, Ганна Караваева ўспамінала, што Купала глядзеў і сумна, задуменна каменціраваў: «Зямля якая добрая, як добра дагледжаная». Упамінаў і сваю Беларусь. Гэты візіт — той выпадак, калі мы маем справу з народнай, літаратурнай дыпламатыяй. І тады вельмі лёгка і з належнымі падставамі даследуецца культура, літаратура Славакіі. Бо міжнацыянальныя стасункі замацаваныя поціскам рукі класіка беларускай літаратуры.

Адметна і тое, што сёння ў Славакіі ёсць турыстычны купалаўскі маршрут. Падарожнічаючы гэтым шляхам, можна нібы нага ў нагу ступаць за класікам. Думаецца, што такая значная падзея, як візіт Янкі Купалы ў Славакію, стане добрай падставай, датай, вакол якой могуць быць рэалізаваныя новыя выставачныя, навукова-даследчыя ці культурна-адукацыйныя праекты.

Маладзічок



# Дарослае жыццё пацучка Фэліка

Мікола БЕРЛЕЖ

Кожная чарговая кніга Алены Масла — адкрыццё новых уяўленняў не толькі пра яе творчыя магчымасці, але і пра тую прастору, у якой у прынцыпе можа існаваць казка. Здавалася б, казачныя элементы, розныя мастацкія прыдумкі неверагоднага адштурхоўваюць нас ад жыцця жывога, зразумелага. Не, у выпадку з творамі і героямі Алены Масла ўсё зусім іначай. Яе казкі набліжаюць да жыцця. Як і новая кніга — «Пацучок Фэлік падарожнічае».

Ужо на самым пачатку аповеду (а ў кнізе — адна казка, можна яшчэ назваць яе казачнай аповесцю альбо аповесцю-казкай) насцярожвае назва раздзела — «Фэлік страхуе сваё жыццё». Пачытаем разам: «Маленькі пацучок Фэлік марыў пра незабыўнае падарожжа. Аднойчы цішком ад шматлікай радні ён сабраў у вузельчык свой невялікі скарб, напісаў у цыдулцы, каб яго не шукалі, і выбраўся з сутарэнняў, дзе жыў.

На вуліцы Фэліку адразу кінуўся ў вочы вялізны будынак з шыльдаю: «ДзяржСТРАХ»… Ёсць і зноска — дзеля таго, каб усім усё было зразумела: «ДзяржСТРАХ — «Дзяржаўнае страхаванне». Калі, мой дружа, ты не ведаеш, што гэта, запытайся ў дарослых. Мама ці тата патлумачаць табе, што такое своечасова аформленая страхоўка. Яна, канечне, не ратуе ад розных прыкрых здарэнняў, але ж дапамагае пасля справіцца з іх наступствамі, бо застрахаваным асобам кампенсуюць за перажытыя непрыемнасці. Фэлік гэта ведаў, толькі ён не ведаў, што страхавыя кампаніі называюцца паразнаму і што ў людзей яны таксама ёсць. Сам Фэлік і ўся яго радня карысталіся паслугамі «Супрацькатэ»…

Прыгоды Фэліка звязаны з тымі акалічнасцямі, якія і ў дарослым жыцці здараюцца. Назвы кароткіх раздзелаў казачнай аповесці якраз пацвярджаюць гэта: «Для падарожжа Фэлік абірае аўтамабіль»; «Першыя паездкі»; «Фэлік смялее і робіць вылазкі»; «Фэлік знаёміцца з дзяўчаткамі» (а дзяўчаткі — прыгожанькія пацучыхі Ларыска і Анфіска. Яны ўдакладняюць пры знаёмстве: «Мы жывём вось у гэтай цырульні…»); «Фэлік катае дзяўчатак на джыпе» (тут увогуле цікавосткі пачынаюцца — «…Ларыска і Анфіска нават па-новаму адна на адну зірнулі. Толькі былі сяброўкамі, як раптам сталі пачувацца суперніцамі. Цікава — каго Фэлік упадабаў больш?..»; «Дзяўчаткі вядуць Фэліка ў кавярню пад зямлёй»; «Падарожнікі балююць у кавярні»; «Карысць ад пробак у горадзе»…

Як бачым, і стылістыка, і сама пабудова мастацкай канструкцыі твора — усё сведчыць пра тое, што Алена Масла выбірае роўны, даверлівы характар размовы з юным чытачом. Пісьменніца проста расказвае пра тое, якое яно ёсць, жыццё пацучка Фэліка і яго сяброў. Так, манера выкладання выбрана казачная, але ж тут няма пустога і падманлівага, як часта бывае ў дзіцячай літаратуры. Алена Масла запрашае юнага чытача задумацца над тым, што істоты, якія жывуць побач, таксама выяўляюць сябе вялікімі разумнікамі, яны бачаць свет вакол сябе, вылучаюцца пэўнымі дзеяннямі. Тут пісьменніца нечым падобная да найбольш таленавітых сваіх чытачоў (а мо ўсе дзеці такія таленавітыя і дальназоркія?!): яна дапамагае развіваць фантазію. І пры гэтым адпрэчвае штучныя развагі пра сяброўства, дабрыню, ласку і спагаду. За гульнямі, падарожжамі і тусоўкай у падземнай кавярні не губляюцца характары, наадварот — проста і дастаткова рэльефна вымалёўваюцца пэўныя сімпатычныя якасці і Фэліка, і яго сяброў.

Прыцягальнасць казачнай аповесці Алены Масла — у дынамічным, можна нават сказаць, вострасюжэтным дзеянні. Лаканічнымі штрыхамі стварыўшы партрэты галоўных герояў, аўтар паказвае сваіх персанажаў у руху, у развіцці. Яны асабліва і сімпатычныя тым, што дзейнічаюць, ведаючы, што і чытачы іх падоўгу не могуць усядзець на адным месцы.

Мне здаецца, у Фэліка будуць яшчэ і новыя прыгоды, якія не ўвайшлі ў кнігу, што толькі што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Мастацкае афармленне казачнай аповесці «Пацучок Фэлік падарожнічае» выканала таленавіты кніжны графік Марына Каратаева. Нават складваецца ўражанне, што ў чытача ёсць магчымасць здзейсніць яшчэ адно падарожжа — ужо без чытання, а толькі разглядаючы сімпатычныя малюнкі. Яны ў адначассе і дапаўняюць напісанае, і развіваюць прастору падзей, дадаюць адметны каларыт.




*Масла, А. С. Пацучок Фэлік падарожнічае: казка: для дзяцей сярэд. шк. узросту/ Алена Масла; маст. Марыя Каратаева. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 32 с.*

# Пазнаёмімся з горадам над Дзвіной!

**Серыя «Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі» выдавецтва «Пачатковая школа» папоўнілася новай кнігай — «Віцебск — горад майстроў і мастакоў», аўтарамі якой выступілі Наталля Ваніна, Навум Гальпяровіч і Тацццяна Сівец.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ










Калі хтосьці скажа вам, што дзяцей трэба прывучаць да чытання яшчэ з дзяцінства, каб фарміраваць іх добры густ, гэта будзе ўспрынята як банальнасць і канстатацыя відавочных рэчаў. Але ёсць і іншыя аргументы. Каб не быць галаслоўным, прывяду ўласны прыклад. Усё дзяцінства наша сямейная бібліятэка рэгулярна папаўнялася навукова-папулярнымі кнігамі. Выданні з серый «Ілюстраваная сусветная гісторыя», «Кніга бітваў», «Штрыхі часу», «Багі і героі» і іншых зачыталіся літаральна да дзірак. Але вось парадокс: інфармацыя, змешчаная ў іх, якая засвойвалася нібыта міжволі, у паўзах паміж гульнямі і іншымі заняткамі, засталася ў памяці дагэтуль. Тады як значная колькасць таго, што змяшчалася ў вузаўскіх падручніках або паведамлялася з кафедры, забылася праз некалькі дзён пасля здачы заліку ці іспыту. Высноўа простая: любая інфармацыя, якая прапануецца дзецям як мага раней і, галоўнае, добраахвотна, мае куды больш шанц на запамінанне.

Прыведзеныя разважанні непасрэдным чынам адносяцца да кнігі «Віцебск — горад майстроў і мастакоў». Каб выхаваць у дзяцей патрыятызм і любоў да роднай зямлі, трэба з маленства знаёміць іх з самымі прыгожымі і славутымі мясцінамі Беларусі. А Віцебск і яго ваколіцы падыходзяць для такой задачы ідэальна. Месца нараджэння геніяльнага мастака Марка Шагала і нобелеўскага лаўрэата Жарэса Алфёрава, дзекабрыста Івана Гарбачэўскага і кампазітара Анатоля Багатырова — горад над Дзвіной з'яўляецца адным з галоўных культурных цэнтраў нашай краіны. Выданне змяшчае гісторыю станаўлення горада, нарысы пра знакамітых людзей, якія звязалі з ім свой лёс, аповед пра музеі, архітэктурныя помнікі, значныя прамысловыя прадпрыемствы. А галоўнае — мноства фотаздымкаў высокай якасці, пасля прагляду якіх хочацца абавязкова ўбачыць прыгажосць Віцебска на ўласныя вочы.

# А як вы ставіцеся да грыбоў?

Анастасія ГРЫШЧУК




Памятаеце бессмяротны дыялог са «Службовага раману»?

— Вы любіце грыбы?

— Я да іх абыякавая.

— А як вы ставіцеся да ягад? У выглядзе варэння…

Калі б Людміла Пракоф'еўна пачытала кніжку Уладзіміра Ягоўдзіка «Год-карагод», яна б не была такой суровай. Прынамсі, да прыроднага свету. І, хутчэй за ўсё, кожнае лета прыязджала б адпачываць у Беларусь.

«Год-карагод» — гэта зборнік апавяданняў і мініяцюр, якія Уладзімір Ягоўдзік прысвяціў прыродзе. Творы аб'ядналі ў некалькі цыклаў. Так, пачынаецца кніга «Азбукоўнікам»: пісьменнік да кожнай літаркі беларускага алфавіта падабраў адпаведную мініяцюру. Я асабліва ўпадабала вось гэтую: «Ё. Ёрш клюе — аж вуда гнецца, а вудар не рад, злуецца. Вось улоў дык улоў: нават кот не наесца!» Набалелае, што называецца. Дарэчы, шкада, што выдавец не праілюстраваў «Азбукоўнік». Зрэшты, яго можна выдаць асобна — для самых маленькіх чытачоў.

Далей мы чытаем — традыцыйна, але займальна — пра беларускія кветкі, ягады і грыбы, пра птушак і насельнікаў воднага царства. Але ёсць адзін раздзел, ад якога адарвацца немагчыма. Рэкамендую: «Турынае рэха». Усе мы ведаем, што некалі па нашай планеце тупалі маманты і валасатыя насарогі ды гойсалі пячорныя львы. Але ж ці задумваліся вы, што яны жылі і ў Беларусі? Уявіце: якраз пад вамі цяпер, можа быць, глыбока ў зямлі схаваны шкілет маманта. А на вашым гародзе некалі пасвіўся статак тарпанаў. Кніга дакладна паведамляе: так, на Гомельшчыне ёсць вялікае мамантавае пахаванне, па Смаргоні шпацыравалі гіганцкія львы і мядзведзі, а ў Оршы жылі валасатыя насарогі.

Вылучаецца раздзел «Бабуліна варта» — кранальнай аўтабіяграфічнасцю.

Перш за ўсё кніжка адрасаваная дзецям. І, думаецца, да адрасата дойдзе пісьменніцкі плён. Чаму? Па-першае, мова. Аўтар пазбег нуднай апісальнасці і энцыклапедычнасці. Але разам з тым — і гэта другое — кніга вельмі карысная, у ёй не толькі багата казак і легенд, але і дакладных звестак і парад). Тым не менш калі кніжкай зацікавіцца дарослы, яму гэта пойдзе толькі на карысць.

# Герой романа
## (пошаговая инструкция)

Анастасия ГРИЩУК

**Николас Спаркс** — культовый певец любви. Если сложить вместе все его 17 романов, мы получим такое средоточие страстей и клятв, что хватит на всю жизнь.

Не исключение роман «**Лучшее во мне**», роман, можно сказать, свеженький — на русском языке он издан в 2011 году. На белорусском Спаркс не издавался вообще, и масштаб этой трагедии смогут оценить только потомки.

Чтобы иметь представление о романе «Лучшее во мне», достаточно вспомнить фильм «Дневник памяти», который, как вы могли догадаться, снят по одноимённому творению американского купидона с пером. Итак: первая любовь, она же и единственная, финансовая пропасть между возлюбленными, озлобленные родители, в особенности мать, затем расставание, инициированное бедным во всех смыслах юношей, годы разлуки и внезапная встреча… Завязка что в первом, что в предпоследнем романе Спаркса (после «Лучшего во мне» издавался лишь роман «Самая долгая поездка» в 2013 году) драматичная и возвышенная. Как следствие — многообещающая. А вот дальше…

Возможно, в том вина переводчика, а может быть, таков сам оригинал, но язык романа довольно топорный. Не то чтобы эта книга стала причиной инфаркта у старого стилиста или вызвала слёзы горечи у филолога. Дело в том, что роман больше похож на подробный сценарий с указаниями, что должен чувствовать герой и во что он должен быть одет. А вот если бы это действительно был сценарий, так цены б ему не было: сюжет отменный (если закрыть глаза на самоплагиат автора)! И в какой-то момент вас начинают терзать смутные сомнения: уж не упрощает ли писатель нарочито свои тексты в расчёте на то, что кинокомпании уже потирают руки? Сомнения крепнут, когда вы узнаёте, что в 2014 году должен выйти фильм «Лучшее во мне». Так-то.

Но не только хитроумный, виртуозный даже сюжет сделал из бегуна Николаса (по молодости сочинитель был




неплохим спортсменом) успешного писателя Спаркса. Герой — вот что привлекает женщин в его книгах. Можно было бы сказать «читателя», но вряд ли мужчины интересуются любовными драмами: мужчины драмы не читают, они в них участвуют.

Но вернёмся к герою. Кто он? И каким он должен быть, чтобы его создатель не пожалел о потраченном времени? Рецепт Спаркса следующий.

### МУЖЕСТВЕННЫЙ

Наш герой, Доусон Коул, работает на нефтяной вышке. С утра до ночи он рискует жизнью, окружённый шатким металлическими конструкциями, взрывоопасными веществами и бурным океаном. Несколько раз он был на волосок от смерти. Однажды был почти мёртв. Но ничто не дрогнуло в нём.

Интересные ассоциации вызывает имя героя. Не знаю, нарочитая ли это интертекстуальность или подсознательное влияние кинематографа, но был ещё один Доусон, бесстрашный и честный, погибший в волнах океана, — тот самый Джек Доусон, жертва «Титаника» и Розы.

### СКРОМНЫЙ

Герой Спаркса живёт в стареньком трейлере. Тратит очень мало, только на самое необходимое. Но при этом он…

### БОГАТЫЙ

У нашего героя имеется счёт в банке, на котором хранится внушительная сумма. Что не удивительно: барыши нефтяника — это вам не учительская зарплата. Да и с таким-то образом жизни не сильно потратишься.

### ОПРЯТНЫЙ

Хотя жилище Доусона малопривлекательно и представляет из себя ТБХ (типичную берлогу холостяка), всё тут на своих местах, содержится в чистоте и порядке. Несколько раз в месяц герой вычищает каждый уголок своей берлоги, каждую щёлочку. Спаркс замечает, что чистота для его героя — что-то вроде мании: «Доусон был помешан на чистоте». Ни о каких разбросанных носках и пустых пивных бутылках и речи быть не может. А что ещё нужно, чтобы окончательно и бесповоротно покорить сердце скучающей домохозяйки?

### ОДИНОКИЙ

Доусон — одинокий волк. С тех пор, как он расстался со своей возлюбленной Амандой — а это было раньше, чем Беларусь получила независимость, — наш герой ни разу (!) не ходил на свидание с женщиной. С мужчиной тоже. В свете последних событий это уточнение не будет лишним.

Но при этом Доусон — высок, плечист и статен. И брюнет к тому же. То есть исключительный экземпляр.

### ИНТЕЛЛИГЕНТНЫЙ

Одинокими и тихими вечерами наш герой сидит дома и — только представьте себе — читает книги. Ради книг он даже специально устраивает закупочные рейды. А ещё пишет письма. От руки! Пишет старому другу, который заменил ему отца, мать и учителя. Кроме того, Доусон никому и никогда не сказал дурного слова. Если его обижали, он действовал более решительными методами, но всегда — справедливо.

### ПЕЧАЛЬНОЕ ПРОШЛОЕ

Жалостливые женские сердца не останутся равнодушными к Доусону ещё и потому, что детство героя выдалось трудным. Побои, семейные пьянки и дебоши, страх и отчаяние, презрение со стороны школьных «товарищей»— вот что выпало на долю маленького ещё героя. К тому же «его мать сбежала из семьи, когда сыну исполнилось три года, а отец осчастливил мир, окончательно спившись». Но самое грустное то, что мальчик был «белой вороной». Каждый из семейства Доусонов носил печать криминальности на своём лике и каждый, по доброй семейной традиции, имел за плечами немалый тюремный срок. Но наш герой не такой, хотя семейное проклятие всё равно на нём отыгралось.

Как семь цветов радуги, эти качества сияют вокруг нашего героя волшебным ореолом, привлекая к роману "Лучшее во мне" всё больше читательниц. И, словно семь нот, играют они гимн герою, кочующему из века в век, от автора к автору, из книги в книгу. На этот раз он остановился у Николаса Спаркса.



# Заговорщики из будущего

Юлия ШАБЛОВСКАЯ

«Цетаганда» — очередное детективно-фантастическое произведение, вышедшее при поддержке ООО «Харвест», — продолжает серию книг о сыне высокопоставленного сановника при дворе императора планеты Барраяр — Майлзе Форкосигане. Действие романа происходит в далёком будущем на планетах, непостижимых современному жителю Земли, тем самым увлекая с каждой страничкой всё дальше в таинственное и неизведанное.

Лоис Макмастер Буджолд, американская писательница-фантаст, отправляет Барраярскую делегацию в лице Майлза и его кузена Айвена Форпатрила на планету Цетаганду для участия в официальной церемонии похорон почившей императрицы. «Чтобы отдать последние почести женщине, которая никогда не встретилась бы с ними лицом к лицу при жизни», — подмечает Форкосиган.




Верный воинской присяге и своему благородному сердцу 22-летний лейтенант, не успев ступить и шага на чужой планете, ввязывается в историю «с душком»: в его руках оказывается блестящий цилиндр, завёрнутый в прозрачную оболочку. На первый взгляд «печать» кажется чисто декоративной, но Майлз не сомневается, что при сильном увеличении станут видны микросхемы. Интуиция подсказывает, что без политического заговора визит не обойдётся.

«Цетаганда» удивляет и радует искусным смешением традиционной средневековой дворцовой интриги с фантастическими достижениями техники и искусства будущего. Многие почитатели серии цикла «Сага о Форкосиганах» отмечают, что эстетика будущего в этой книге перестала быть декоративным антуражем и вышла на передний план. Убедительно и реально воспринимается вся цетагандийская общественно-государственная система, преследующая идею корректировки человеческого генома и создания «новых» людей. Эффект разорвавшейся бомбы на читателя производит характеристика, данная брату Майлза Айвену одним из цетагандийцев: «Знаете ли вы, что лорд Форпатрил рождён биологически? Биологически в самом прямом смысле. Из чрева матери». Если учесть, что на Цетаганде корректировка генома — своеобразный абсолют, а главный герой романа хоть молод и перспективен, но живёт благодаря успешным модификациям тела и пластической хирургии, вопрос о жизнеспособности общества далёкой галактики не имеет однозначного ответа.

Роман Лоис Макмастер Буджолд полностью вписывается в жанровые законы фантастического детектива. Загадочный закрытый для посторонних аут-мир. Немыслимое совершенство аут-леди, бесполые модифицированные слуги, система генетических контрактов — всё это создаёт ощущение отчуждённости и, практически, нечеловечности. Но это лишь фон для главного посыла: ум, смекалка и честь напрямую не связаны с генетической чистотой.

# Кто такой Владимир Орлов?

Владимир ГОРЫНЬ




Владимир — хорошее имя. Но очень распространённое.

Орлов — хорошая фамилия. Но, как оказалось, тоже нередкая.

Что в сумме побудило **кинорежиссёра Владимира Орлова** написать уморительное предисловие к своей книге «**Пересечения в пространстве и во времени**». Называется оно «Открещивание». Автор перечислил известных миру Владимиров Орловых и после каждого такого представления резюмировал: «Но это не я». Так что, увидев эту книгу на прилавке, знайте: этот Орлов — другой.




«Герои Орлова странствуют в пространстве и времени, — говорится в предисловии. — Они сидят в тюрьмах и за столом в замке Грикольдь, в котором угадывается родовое гнездо Радзивиллов. Они самозабвенно любят, творят, охотятся, разговаривают самые разные, но неизменно увлекательные разговоры. В этот хор голосов успешно пробуют вступать апостолы, призванные на последнюю тайную вечерю».

Самое время уточнить, что речь в книге идёт о тех самых загадочных золотых фигурах двенадцати апостолов, которые когда-то принадлежали Радзивиллам, но неожиданно для всех исчезли. Владимир Орлов предлагает свою версию и возникновения легенды, и исчезновения таинственных сокровищ.

Книга «Пересечения в пространстве и во времени» включает в себя одноимённый роман и повесть «Смолино — в год, когда были геологи», связанные между собой одними героями и одной сюжетной линией. Продолжением книги является роман «**Ускользающие сюжеты**», где речь идёт о сокровищах, «награбленных французами в Москве» в 1812 году.

Владимир Орлов пишет в редком жанре менипппеи, чьи ноги растут из античности. Мениппея — это жанр-оксюморон, он сочетает комизм и серьёзность, философские рассуждения с сатирическим осмеянием. Смех сквозь слёзы, одним словом. А ещё — безудержные фантазии вплоть до абсурда и тонкий юмор. В книгах Орлова намешано столько всего, что каждый найдёт в них что-то своё.

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Чистякова, М. Б.** Кто это?: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / М. Чистякова; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-977-3.

### Гісторыя. Краязнаўства

**Зональный государственный архив в г. Лиде**: краткий справочник по фондам (1944—2011) / Главное управление юстиции Гродненского областного исполнительного комитета, Зональный государственный архив в г. Лиде; [составители: М. Э. Чернявская и др.; редколлегия: М. Э. Черняковская, Е. П. Алякина]. — Лида: Лидская типография, 2012. — 275 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6437-25-3 (в пер.).

**Кричевский район**: Республика Беларусь, Могилевская область / [Кричевский районный исполнительный комитет]. — Могилев: Могилевская областная укрупненная типография, 2012. — 32 с. — 150 экз.

**Нетбаева, Т.** Чалавек і гісторыя ў беларускіх мясцовых хроніках XVII—XVIII стст. / Таццяна Нетбаева; Інстытут славянскай філалогіі Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, Польскі інстытут у Мінску. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 278 с. — Частка тэксту на польскай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-7007-94-3.

**Румлёўскія старонкі: помнікі гісторыі, прыроды і культуры паміж турыстычнай прывабнасцю і навуковай цікавасцю**: матэрыялы IV адкрытай рэгіянальнай навукова-практычнай канферэнцыі па праблемах рэгіяналістыкі і краязнаўства «Румлёўскія чытанні» (Гродна, 18 лютага 2011 г.) / [рэдкалегія: Карнялюк В. Р. (гал. рэд.) і інш.]. — Гродна: ГрДУ, 2011. — 286 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 60 экз. — ISBN 978-985-515-502-8.

**Смена парадигм в историографии XIX — начала XXI вв.**: сборник научных статей: (к 60-летию профессора А. Н. Нечухрина) / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: Э. С. Ярмусик, Н. В. Козловская, Е. И. Мелешко]. — Гродно: ГрГУ, 2012. — 311 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-515-572-1.

**Цуба, М. В.** Краязнаўства: курс лекцый: у 2 ч.: [для студэнтаў] / М. В. Цуба; Палескі дзяржаўны універсітэт. — Пінск: ПалесДУ, 2012—

Ч. 1. — 2012. — 248 с. — 75 экз. — ISBN 978-985-516-208-8.

**Чыгрын, С. М.** Сярод сваіх людзей: літаратурна-краязнаўчыя артыкулы, гутаркі, перапіска / Сяргей Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 235 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7057-06-1 (у пер.).

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Боевое братство славян на защите мира**: сборник научных статей / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: Пивоварчик С. А. (гл. ред.) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2012. — 339 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 50 экз. — ISBN 978-985-515-580-6.

**Космач, Г. А.** Всемирная история Новейшего времени, 1945 г. — начало XXI в.: учебное пособие для 11-го класса учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / Г. А. Космач, В. С. Кошелев, М. А. Краснова; под редакцией Г. А. Космача. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 263 с. — 109000 экз. — ISBN 978-985-471-534-6 (в пер.).

**Эванс, Р.** Третий рейх. Дни войны, 1939—1945 / Ричард Эванс; [перевод с английского А. Л. Уткина]. — Москва: Астрель, 2012. — 941 с. — (Классика военного искусства). — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-43101-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0043-4 (Харвест) (в пер.).

**Пілецкі, В. А.** Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны): канспект лекцый / В. А. Пілецкі; [Прыватная ўстанова адукацыі «Мінскі інстытут кіравання»]. — 2-е выд., дапрацаванае. — Мінск: МІК, 2012. — 273 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-490-832-8.

**Пресняков, А. Е.** Образование Великорусского государства / А. Е. Пресняков. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 735 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-414-8 (в пер.).

**Тарас, А. Е.** Анатомия ненависти: русско-польские конфликты в XVIII—XX вв. / Анатолий Тарас. — Минск: Харвест, 2012. — 798 с. — 3000 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-16-1774-2 (ошибоч.).

### Гісторыя Беларусі

**Алиев, Р. В.** Брест. Июнь. Крепость: в 2 кн. / Ростислав Алиев, Илья Рыжов; [фото: А. Суворов, Ю. Мулявко]. — Брест: Полиграфика, 2012— — ISBN 978-985-6970-41-5 (в пер.).

Кн. 1. — 2012. — 271 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6970-44-6.

**Анапрэенка, Я. Р.** Грушэнцы: [пра жыхароў вёскі Грушнае Брагінскага раёна Гомельскай вобласці: гістарычнае даследаванне] / Я. Р. Анапрэенка. — Мінск, 2012. — 278 с. — 50 экз.

**Гилевич, Ж. В.** Березина, Борисов, 1812 год = Berezina, Borisov, year 1812: [посвящается 200-летию событий войны 1812 г.] / Ж. В. Гилевич; [перевод с русского языка: Гилевич Е. Ф.; фото: Гилевич Ф. В.]. — Борисов: Борисовская укрупненная типография, 2012. — 44 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 350 экз. — ISBN 978-985-90198-9-0.

**Гродненщина в историческом, экономическом и культурном развитии 1801—1921 гг. (к 210-летию образования Гродненской губернии)**: материалы международной научно-практической конференции (Гродно, 22—23 сентября 2011 г.) / [редколлегия: Г. А. Хацкевич (гл. ред.) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2012. — 383 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 300 экз. — ISBN 978-985-515-592-9 (в пер.).

**Данилов, И. П.** История не из учебника = History not from textbook: взгляд западного белоруса: эссе / Иван Данилов. — Минск: Издательство Виктора Хурсика [т. е. Виктор Хурсик], 2012. — 342 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6888-92-5.

**Деды**: дайджест публикаций о белорусской истории / [составитель и редактор Тарас Анатолий Ефимович]. — Минск, 2009— — Основан в 2009 г. — ISSN 2075-5376.

Вып. 7. — [Переизд.]. — Харвест, 2012. — 255 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-0185-1 (в пер.).

**Колодеевские чтения**: сборник материалов: 200-летию событий войны 1812 г. на Борисовщине посвящается / [под общей редакцией Г. М. Слесаренко]. — Борисов: Борисовская укрупненная типография, 2012. — 311 с. — Часть текста на белорусском и французском языках. — 150 экз. — ISBN 978-985-90304-1-3 (в пер.).

**Консолидация белорусского народа во второй половине XIX—XXI вв.**: материалы республиканской научно-теоретической конференции, Минск, 5 декабря 2012 г. / [редколлегия: В. А. Божанов (научный редактор), А. И. Богданович, Д. Н. Хромченко]. — Минск: БНТУ, 2012. — 201 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-550-073-6.

**Лякин, В. А.** Конные бои у Мира и Романово: исторический очерк / В. А. Лякин. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 87 с. — 213 экз. — ISBN 978-985-538-695-8 (в пер.).

**Лянцэвіч, В. М.** Гісторыя Беларусі: вучэбна-метадычны комплекс: [для студэнтаў] / В. М. Лянцэвіч; [Прыватная ўстанова адукацыі «Мінскі інстытут кіравання»]. — Мінск: МІК, 2012. — 301 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-490-843-4.

**Малишевский, Н. Н.** Бой за Гродно в сентябре 1939 года глазами участников и очевидцев / Николай Малишевский. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 134 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7035-60-1.

**Малолетние заложники войны 1941—1945 гг.: живые свидетельства Беларуси** / ГУО «Средняя школа № 137 г. Минска им. П. М. Машерова [и др.; составители: Л. И. Щеникова, Г. И. Змушко; редсовет: В. Ф. Балакирев и др.]. — Минск: Логвинов И. П., 2012. — 263 с. — Часть текста параллельно на русском и немецком языках. — Часть текста на белорусском языке. — Заглавие обложки параллельно на русском и немецком языках. — 300 экз. — ISBN 978-985-6991-98-4.

**Моладзь Берасцейшчыны**: зборнік студэнцкіх навуковых прац / Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт ім. А. С. Пушкіна, Гістарычны факультэт. — Брэст, 1996— — Заснаваны ў 1996 г.

Вып. 8 / [редколлегия: Т. М. Тохиян, В. Г. Швайко]. — БрГУ, 2012. — 175 с. — Часть текста на белорусском языке. — Библиография в конце научных статей. — 50 экз. — ISBN 978-985-473-898-7.

**Пресняков, А. Е.** Литовско-Русское государство в XIII—XVI вв. / Александр Пресняков; [редактор: Анатоль Тарас]. — Минск: Харвест, 2012. — 295 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-20-0224-0 (в пер.). — ISBN 978-985-18-1210-9 (ошибоч.).

**Ситько, З.** По следам Литвы / Здислав Ситько; под общей редакцией А. Е. Тараса. — Минск: Харвест, 2012. — 223 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-1566-7 (в пер.).

**1941 год в истории Беларуси**: к 70-летию начала Великой Отечественной войны: сборник статей республиканской военно-исторической конференции, 1 июня 2011 г. / [под общей редакцией А. А. Киселева]. — Минск: ВА РБ, 2012. — 143 с. — Часть текста на белорусском языке. — 30 экз. — ISBN 978-985-544-116-9.

**Черепица, В. Н.** Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей. Век XX: монография / В. Н. Черепица; Гродненский государственный университет им. Янки Купалы. — Гродно: ГрГУ, 2012. — 435 с. — 75 экз. — ISBN 978-985-515-557-8 (в пер.).

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Анкета для друзей**: [для среднего школьного возраста / художник Д. В. Киевец]. — Минск: Траско, 2012. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-7032-78-5.



***Красная книга Беларуси для детей. Рыбы. Земноводные. Пресмыкающиеся. Млекопитающие / [Л. Д. Бурко и др.]. — 2-е изд. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2012. — 395 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-11-0675-8 (в пер.).***

*Гэтае выданне прызначана для дзяцей школьнага ўзросту. Але, думаецца, кніга зацікавіць намнога больш шырокае кола чытачоў. Па кожным відзе звяроў, што ўключаны ў 3-е выданне Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь, даецца кароткая біялагічная даведка, а таксама прапаноўваюцца шляхі, з дапамогай якіх можна выратаваць від ад знікнення і падтрымліваць у стабільным стане. Натуральна, кнігай будзе зручна карыстацца выкладчыкам сярэдніх навучальных устаноў (як школ, так і ліцэяў, каледжаў) і нават ВНУ.*

**Біблія для маленькіх**: ад стварэння да Язэпа / ілюстрацыі Кэльлі Пульлей; [тэкст: Садоўская Т.]. — Мінск: Юніпак, 2012. — 87 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6802-52-5.

**Ермакович, Д. И.** Большой подарок для маленьких принцесс: [для дошкольного и младшего школьного возраста / Ермакович Дарья Ивановна]. — Минск: Харвест, 2012. — 239 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9221-3 (в пер.).



***Тополь, Э. В. Бисмарк: русская любовь железного канцлера: роман / Эдуард Тополь. — Москва: АСТ, 2013. — 280 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 12000 экз. — ISBN 978-5-17-077304-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1748-7 (Харвест) (в пер.).***

*Стваральнік Германскай імперыі Ота фон Бісмарк, якога часта называюць «жалезным канцлерам», стаў героем многіх кніг. Яго асобе прысвечаны як навуковыя даследаванні ў галіне гісторыі, так і шматлікія раманы, аповесці. Кніга вядомага расійскага пісьменніка Эдуарда Топаля ўпершыню распавядае пра амаль невядомыя старонкі з жыцця палітыка — гісторыю рамантычнага кахання Бісмарка і рускай княгіні Кацярыны Арловай-Трубяцкой.*

**Моя самая первая энциклопедия** / [перевод с английского М. И. Антипина и др.]. — Москва: Астрель, 2012. — 128 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Перевод также: Белова А. С., Богачева П. О., Казеева А. Ю., Косолапова М. В., Пескова И. М., Сапожников В. А., Сацевич И. Е., Сашина Н. А., Степанова Л. В., Целлариус А. Ю., Чехонадская Н. Ю. — Содержит авторов: Вогт Р. С., Дайер А., Диксон Ф., Калабрези Л., Лампкин С., Лонг Д., Макмиллан Б., Мерфи Г., Музик Д. А., Рубин К. и др. — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-44760-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1648-0 (Харвест) (в пер.).

**Небеса**: [пособие для детей, обучающихся по программе «ВЕ-детям»]. — Минск, 2012. — 38 с. — 5000 экз.

**Остер, Г. Б.** Права детенышей: перевод Конвенции о правах ребенка на детский язык / Г. Остер; художник А. Мартынов. — Москва: Астрель, 2012. — 43 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-44438-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1629-9 (Харвест) (в пер.).

**Чайка, Е. С.** Моя первая энциклопедия: [для младшего и среднего школьного возраста / Чайка Елена Степановна]. — Минск: Харвест, 2012. — 207 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-7218-5 (в пер.).

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

**Бекитт, Л.** Ярче, чем солнце: роман / Лора Бекитт. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 446 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0539-5 (в пер.).

### Англійская літаратура

**Дюморье, Д.** Кукла: [сборник: перевод с английского] / Дафна Дюморье. — Москва: Астрель, 2012. — 286 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-40639-3 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0025-3 (Харвест) (в пер.).

**Толкин, Д. Р. Р.** Властелин Колец. Возвращение короля / Джон Р. Р. Толкин; [перевод с английского В. Муравьева, А. Кистяковского]. — Москва: Астрель, 2012. — 439 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-46166-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1697-8 (Харвест) (в пер.).

**Толкин, Д. Р. Р.** Властелин Колец. Две твердыни / Джон Р. Р. Толкин; [перевод с английского В. Муравьева, А. Кистяковского]. — Москва: Астрель, 2012. — 471 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-46167-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1699-2 (Харвест) (в пер.).

**Толкин, Д. Р. Р.** Властелин Колец. Хранители Кольца / Джон Р. Р. Толкин; [перевод с английского В. Муравьева, А. Кистяковского; вступительная статья В. Муравьева]. — Москва: Астрель, 2012. — 574 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-46168-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1698-5 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Бэлоу, М.** Рано или поздно: роман / Мэри Бэлоу; [перевод с английского И. В. Зыриной]. — Москва: Астрель, 2012. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-45921-4 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0278-3 (Харвест) (в пер.).

**Квик, А.** Превратности судьбы: роман / Аманда Квик; [перевод с английского Е. Ю. Елистратовой]. — Москва: Астрель, 2012. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-45920-7 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0277-6 (Харвест) (в пер.).

**Спаркс, Н.** Спасение: [роман] / Николас Спаркс; [перевод с английского В. С. Сергеевой]. — Москва: Астрель, 2012. — 381 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-45988-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1704-3 (Харвест) (в пер.).

**Хантер, Д.** Невеста без фаты: роман / Джиллиан Хантер; [перевод с английского: Я. Е. Царькова]. — Москва: Астрель, 2012. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-45993-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1663-3 (Харвест) (в пер.).

### Французская літаратура

**Ковеларт, Д. ван.** Папа из пробирки = Un objet en souffrance: [роман: перевод с французского] / Дидье ван Ковеларт. — Москва: Астрель, 2012. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-42301-7 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0010-9 (Харвест) (в пер.).

### Бразільская літаратура на партугальскай мове

**Коэльо, П.** Брида: [роман] / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: Астрель, 2012. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-45882-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1722-7 (Харвест) (в пер.).

### Руская літаратура

**Володин, В.** Спецназ ВДВ. Ответная операция: [роман] / Виктор Володин. — Минск: Харвест, 2012. — 319 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-18-0388-0 (ошибоч.).

**Кивинов, А. В.** Работа с риском: [романы] / Андрей Кивинов. — Москва: Астрель ; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2012. — 761 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-44887-4 (Астрель). — ISBN 978-5-9725-2346-7 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-20-0018-5 (Харвест) (в пер.).

**Климова, А.** Всегда есть шанс / Анна Климова. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 318 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0541-8 (в пер.).

**Климова, А.** Кривая линия судьбы / Анна Климова. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 318 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0540-1 (в пер.).

**Корецкий, Д. А.** Секретные поручения: [романы] / Данил Корецкий. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2012. — 860 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-45611-4 (Астрель). — ISBN 978-5-9725-2398-6 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-20-0268-4 (Харвест) (в пер.).

**Луганцева, Т. И.** Прерванный полет Карлсона: [роман] / Татьяна Луганцева. — Москва: Астрель, 2012. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-44727-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1676-3 (Харвест).

**Михайлова, Л.** Я буду с тобой / Людмила Михайлова. — Минск: Букмастер, 2013. — 350 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-407-3 (в пер.). — ISBN 987-985-549-407-3 (ошибоч.).

**Михалкова, Е. И.** Восемь бусин на тонкой ниточке: роман / Елена Михалкова. — Москва: Астрель, 2012. — 378 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-271-39905-3 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0073-4 (Харвест) (в пер.).

**Пчела, О.** Хроническая Олечка: стихи / Оля Пчела. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 49 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7035-62-5 (в пер.).

**Сафина, И.** Чужая судьба / Ирина Сафина. — Минск: Букмастер, 2013. — 316 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-411-0 (в пер.).

**Силлов, Д. О.** Кремль 2222. МКАД: [роман] / Дмитрий Силлов. — Москва: АСТ; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2013. — 379 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 12000 экз. — ISBN 978-5-17-077307-7 (АСТ). — ISBN -5-9725-2435-8 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-18-1696-1 (Харвест) (в пер.).

**Филатов, Л. А.** Про Федота-стрельца, удалого молодца: первое полностью иллюстрированное издание / Леонид Филатов; иллюстрации Е. Глейзер. — Москва: Астрель, 2012. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-44476-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1607-7 (Харвест) (в пер.).

**Цойлик, К.** Смежные комнаты: поэзия / Катя Цойлик; [иллюстратор Александра Бочкор]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 163 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7035-80-9 (в пер.).

**Шварц, Е. Л.** Все произведения: проза, пьесы, стихи / Евгений Шварц. — Москва: Астрель, 2012. — 1019 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-271-45713-5 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0267-7 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Бокза, А. Е.** Несовпадения: стихи / Андрей Бокза. — Минск: Четыре четверти, 2012. — 145 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7026-83-8.

**Бржозовский, А. С.** Портреты без багета: очерки, проза, стихи / Аркадий Бржозовский; [составители: С. В. Букчин, Г. Б. Пшоник]. — Минск: Парадокс, 2012. — 350 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-451-274-7 (в пер.).

**Винарская, И. В.** Ночные поезда: поэзия / Инга Винарская; [уступны артыкул Вячаслава Корбута]. — Минск: Галіяфы, 2011. — 143 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-6906-53-7.

**Воронин, А. Н.** Инструктор. Пока горит звезда: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-9781-2.

**Воронин, А. Н.** Комбат. Кладбище отверженных: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2012. — 319 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-9340-1.

**Воронин, А. Н.** Слепой. Не брать живым: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 318 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-16-9877-2.

**Воронин, А. Н.** Спецназовец. Без права на ошибку: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-18-0427-2.

**Воронин, А. Н.** Спецназовец. Взгляд снайпера: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 8000 экз. — ISBN 978-985-16-9485-9.

**Воронин, А. Н.** Спецназовец. Враг: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-16-9973-1.

**Гапоненко, Н. В.** Ток одиночества: стихи / Николай Гапоненко; [автор предисловия: Вячеслав Корбут]. — Минск: Галіяфы, 2012. — 54 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз. — ISBN 978-985-6906-76-6.

**Григорович, Я. К.** Высоких чувств душа полна: сборник стихов и песен / Янина Григорович; [предисловие: Любовь Красевская]. — Брест: Альтернатива, 2012. — 103 с. — Часть текста параллельно на русском и польском языках. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-521-340-7.

**Даргель, С. Г.** Земное счастье: рассказы / Славомир Даргель; [предисловие: Георгий Марчук]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 215 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7035-86-1.

**Кацнельсон, Л. И.** Я по осени иду...: стихотворения / Людмила Кацнельсон. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 73 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7035-67-0.

**Конон, И. М.** Тот, кто верит в чудеса...: стихи / Игорь Конон. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 79 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-7035-85-4.

**Куц, В. С.** Устье дорог: стихи / Владимир Куц; [автор вступительной статьи Галина Загурская]. — Витебск: Витебская областная типография, 2012. — 383 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-534-029-5 (ошибоч.).

**Макаров, С.** Морской штрафбат. Военные приключения: [роман] / Сергей Макаров. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9385-2 (ошибоч.).

**Мельниченко, О. Н.** Девочка-осень: стихи / Оксана Мельниченко. — Гомель: Полеспечать, 2012. — 71 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-7012-16-9.

**Мельченко, Т.** Музыка чувств: лирика / Таиса Мельченко. — Гомель: Полеспечать, 2012. — 52 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7012-18-3.

**Мурашко, А. А.** Ctrl-Alt-Del...: стихи, проза / Андрей Мурашко; [художники — Данила и Женя; фотограф — Света]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 112 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-94-2 (в пер.).

**Овчарук, А. А.** Здесь слово каждое о Вас: стихи о любви / Анатолий Овчарук. — Минск: Энциклопедикс, 2012. — 99 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6958-54-3.

**Олехнович, Г. Н.** Женщина-зима: поэзия / Григорий Олехнович. — Брест: Альтернатива, 2012. — 77 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-521-333-9.

**Сендер, А. Н.** Покаяние: исповедь анонимного алкоголика: роман / Анатолий Сендер. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 478 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7035-66-3 (в пер.).



***Калядная пісанка, 1913 год / [аўтар пасляслоўя Алесь Суша]. — Факсімільнае выд. — Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2012. — 62 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — Выхадныя даныя арыгінала: Вільня: Друкарня М. Кухты, 1913. — 1050 экз. — ISBN 978-985-6879-90-9 (у пер.).***

*Выданне такіх зборнікаў, бадай, адно з найлепшых творчых адкрыццяў нашаніўцаў. Калядныя, велікодныя пісанкі, зборнікі «Нашай нівы», беларускія календары, дзе сярод парад па вядзенні гаспадаркі сустракаецца і нямала літаратурных твораў, былі добрай чытанкай для многіх беларусаў. Можна было набыць такую кнігу — і чытаць-перачытваць доўгімі зімовымі вечарамі. А творы тут сапраўды вартыя ўвагі. Гэта і крытычны артыкул Максіма Багдановіча «За тры гады», і вершы Купалы, Гаруна, Журбы, і надзвычай цікавае апавяданне «Першы доляр». Фармат факсіміле робіць гэтую кнігу надзвычай прывабнай і для сучаснага чытача.*

**Танилина, Т. Н.** Штурман по имени Ма: юмористический роман / Татьяна Танилина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 326 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7035-87-8.

**Фоменко, В.** Грань невозможного: стихи / Вадим Фоменко. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 94 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7035-79-3 (в пер.).

**Цимберов, Р.** История болезни: [стихи] / Цимберов Роман. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 86 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-92-8.

**Шлык, М.** О чем молчат крыши...: стихи / Марыля Шлык. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 104 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7035-78-6.

**Шульга, Т. Ю.** Дверь в апрель: стихи / Татьяна Шульга. — Брест: Альтернатива, 2012. — 66 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-342-1.

### Беларуская літаратура

**Баяровіч, З.** Шалі: лірычна-побытавая проза / Зміцер Баяровіч. — Мінск: Галіяфы, 2012. — 87 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6906-78-0.

**Давідовіч, С. Ф.** Вяртанне з выраю: вершы, паэма / Сяргей Давідовіч. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 110 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-02-1415-7 (у пер.).

**Камоцкі, А.** Навошта было мінулае: [вершы] / Алесь Камоцкі; [прадмова Рыгора Барадуліна; фотаздымкі Сяргея Плыткевіча]. — Мінск: Радыёла-плюс, 2012. — 119 с. — Змяшчае пераклады аўтараў: Беляев К., Катамадзе Н., Кеванішвілі Е., Чапаўскайце Д., Шангин-Березовский Г., Bakal P., Bonfa L., Crudup A., Da Vinchi, Gershwin G., Pietrzak J., Przemyk R. — 100 экз. — ISBN 978-985-448-117-3.

**Старавераў, М. С.** Прадчуванне: [вершы] / Мікола Старавераў; [аўтар прадмовы Дзмітрый Вінаградаў; укладальнік Барыс Брацук]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2012. — 46 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7035-83-0.

# Наша Турандот


Фота Наталлі Баграцовай

Адной з найважнейшых асаблівасцей сучаснага мастацтва з'яўляецца разнастайнасць спосабаў пераасэнсавання спадчыны мінулага. Асабліва вялікі простор дае опера як музычна-тэатральны жанр — дзякуючы наяўнасці некалькіх семантычных пластоў зместу ў мастацкай цэласнасці яго «быцця» (лібрэта, партытура, сцэнічны тэкст спектакля). У гэтым жанры тэатральная пастаноўка можа паказаць публіцы музычны твор у новым ракурсе з дапамогай не толькі музычна-выканальніцкай, але і тэатральна-пастановачнай інтэрпрэтацыі, што прыводзіць да новых мастацкіх вынікаў, якія ўплываюць на аблічча музычнага твора ў цэлым. Вось і прэм'ерны паказ прызнанага шэдэўра Джакама Пучыні «Турандот» быў прадстаўлены на суд публікі ў інтэрпрэтацыі опернай трупы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

«Турандот» — апошняе тварэнне вялікага майстра Джакама Пучыні (1858 — 1924), якое ён, на жаль, не паспеў завяршыць з-за цяжкай хваробы. Па накідах аўтара заключныя эпізоды былі напісаныя яго сябрам, кампазітарам Франка Альфана. У аснове лібрэта, якое было напісана Джузепе Адамі і Рэната Сімоні, — аднайменная п'еса К. Гоцы, які вызначыў яе жанр як «трагікамічную казку для тэатра». Вось і жанравая асаблівасць оперы — гэта дзіўная сумесь элементаў народнага казачнага эпасу, героікі, трагедыі, камізму і тонкага лірызму. Галоўная гераіня — жорсткая кітайская прынцэса, пазбаўленая пачуцця любові, якая выпрабоўвае прэтэндэнтаў на яе руку. Юнакоў адпраўляюць на смерць, бо яны не разгадваюць тры ракавыя загадкі. Прынц Калафа пераадолеў усе перашкоды і растапіў сэрца красуні.

Галоўная сюжэтная лінія адцяняецца сумным лёсам рабыні Турандот — маленькай Ліу. Важнае месца займаюць таксама вобраз народа — актыўнага ўдзельніка дзеяння — і парадыйныя персанажы кітайскіх міністраў у духу commedia dell'Arte (Пінг, Панг і Понг).

Не абышлося і без палітычнага скандалу, які суправаджаў першае выкананне оперы ў Ла Скала ў 1926 г. Мусаліні пагадзіўся прыняць запрашэнне на спектакль з умовай выканання фашысцкага гімна перад пачаткам оперы, а вядомы сваімі антыфашысцкімі поглядамі Артура Тасканіні, які дырыжыраваў прэм'ерай, адмовіўся. У выніку прэм'ера адбылася без Мусаліні. На сярэдзіне трэцяй дзеі Тасканіні спыніў спектакль і, павярнуўшыся тварам да публікі, прамовіў: «Тут смерць перапыніла працу над операй, якую маэстра не паспеў завяршыць...»

Сучасная «Турандот» ставіцца ў самых розных інтэрпрэтацыях. Вялікі рэзананс атрымала версія з фіналам, напісаным Лучана Берыё (2000 г., Амстэрдам, Лос-Анджэлес, Зальцбург), а таксама маскоўская пастаноўка ў Вялікім тэатры Франчэскі Замбела, санкт-пецярбургскі і зальцбургскі варыянты пад кіраўніцтвам Валерыя Гергіева і інш. Мінская трупа працавала пад кіраўніцтвам дырыжора-пастаноўшчыка — заслужанага артыста Украіны В. Пласкіны, рэжысёра-пастаноўшчыка М. Панджавідзэ, сцэнографа — заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Расіі І. Грыневіча, хормайстра-пастаноўшчыка — народнай артысткі Беларусі Н. Ламановіч. Першае (канцэртнае) выкананне оперы ў Вялікім тэатры Беларусі адбылося яшчэ ў 2000 годзе.

Дарэчы, Пучыні аздобіў свае партытуры мноствам выканальніцкіх рэмарак. Пастановачная група Вялікага тэатра оперы і балета абрала традыцыйны архітэктурны прынцып сцэнічнага афармлення спектакля і аб'ёмныя дэкарацыі, што дало магчымасць стварыць цікавыя мізансцэны, размясціць артыстаў на сцэнічных пляцоўках рознай вышыні. Так, у першым дзеянні цэнтр мастацкай кампазіцыі — балкон з навесам, а ў другім значную частку сцэны займае лесвіца, што дазволіла ўзнесці Турандот над натоўпам у сцэне загадак. Сучаснае аблічча надалі пастаноўцы эксперыменты са святлом (С. Шаўчэнка), камп'ютарнай графікай (П. Сувораў) і касцюмамі (Ю. Мацкевіч).

Як вядома, апошняя опера Пучыні адрозніваецца ад папярэдніх твораў тым, што ўпершыню важная роля ў разгортванні мастацкага зместу адводзіцца хору. Тут, па задуме Пучыні, ён з'яўляецца «калектыўнай галоўнай дзеючай асобай» і роля яго шматпланавая. Хор беларускай оперы выдатна справіўся са сваімі творчымі задачамі. Адна з найважнейшых вартасцей яго — здольнасць да пераўвасаблення, стварэнне не толькі музычнага, але і візуальнага сцэнічнага вобраза. Такім чынам, хор — і безабліччы натоўп, у якім усё ж вылучаюцца асобныя каларытныя персанажы, і незадаволеныя народныя масы.

Вобраз жорсткай кітайскай уладаркі-прынцэсы — адмоўны персанаж оперы, які ў прапанаванай беларускім тэатрам інтэрпрэтацыі такім і застаецца, у адрозненне ад традыцыйнага варыянта, дзе каханне перамагае. Партыя Турандот — адна з самых складаных у оперным рэпертуары. (У асяроддзі вакалістаў нават лічыцца — што гэтая партыя мае пагібельнае ўздзеянне на голас спевака, а таксама — што яна пад сілу толькі выканальніцам вагнераўскага тыпу.) Для яе сапраўды патрабуюцца асаблівыя якасці. Такія, якія мае заслужаная артыстка Беларусі Ніна Шарубіна. Спявачка не толькі дэманструе ўласна музычны матэрыял праз свой «голас-інструмент», а надае ўвагу яго мастацкаму зместу, эмацыянальнаму напаўненню.

Партыю Калафа на прэм'еры выконваў народны артыст Беларусі Сяргей Франкоўскі. Яму ўдалося творча спасцігнуць сціранне межаў паміж рэчытатывам і арыяй, а таксама ўвасобіць на сцэне кароткае, але незвычайна канцэнтраванае павodзе эмоцыі арыёза. У варыянце оперы з фіналам Альфана гісторыя кахання Калафа і Турандот стварае сюжэтны цэнтр твора. У інтэрпрэтацыі пастановачнай групы НАВТ оперы і балета яна адсоўваецца на другі план драматызмам харавых сцэн. І ўсё ж дзякуючы майстэрскаму выкананню звяртаюць на сябе ўвагу паспяхова увасобленыя дуэтныя сцэны Турандот і Калафа. Справа ў тым, што як прадстаўнікі адной школы яны ўтвараюць невераготна зладжаны ансамбль з адзінай творчай устаноўкай. Слухачы сталі сведкамі захапляльнага музычна-тэатральнага відовішча: «паядынку» двух галоўных персанажаў.

Варта адзначыць і партыі каласальнай складанасці ў «трох масак» — вялікіх міністраў Пінг, Понг, Панг. Сваю вакальна-сцэнічную інтэрпрэтацыю прапанавалі заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Громаў, дыпламант міжнароднага фестывалю Янаш Нялепа, лаўрэат міжнароднага конкурсу Аляксандр Жукаў. Асабліва адзначым удала пастаўленыя мізансцэны для гэтай групы дзеючых асоб.

У партыі маладой рабыні Ліу выступіла заслужаная артыстка Беларусі Анастасія Масквіна. Гэтая характэрная для Пучыні пабочная лінія оперы ў пастановачнай версіі мінскай трупы набыла новае, адметнае гучанне. Ліу, таемна закаханая ў Калафа, гіне ў імя любові. У інтэрпрэтацыі беларускага тэатра сцэна яе смерці завяршае оперу.

Трактоўка аркестра ў «Турандот» як каментатара і саўдзельніка сцэнічнага дзеяння дае прастору выканальніцкай фантазіі. Дырыжор-пастаноўшчык Віктар Пласкіна зрабіў вялікі ўнёсак у стварэнне цэласнага мастацкага вобраза оперы. Аркестр трактуецца як шматфункцыянальны «інструмент», які па-рознаму гучыць у інтэрмедыях, пейзажных замалёўках, застаўках, сімфанізаваных фрагментах.

Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля М. Панджавідзэ так сфармуляваў сваю пазіцыю: «Неаднойчы пераправерыўшы сябе, цалкам упэўнены — гэтая опера не пра ўрачыстасці кахання».

Такім чынам, зроблены акцэнт не на меладраме, а на трагедыі ў арыстоцелеўскім разуменні яе сутнасці.

**Галіна ЗАБЛОЦКАЯ**

# І фольк, і мадэрн

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Музычны праект *Pawa*, што быў утвораны менш як два гады таму ў Мінску і стаўся вынікам творчага супрацоўніцтва акустычнага гурта *Testamentum Terrae* з клавішнікам і аранжыроўшчыкам Мікітам Седзянковым, а таксама гітарыстам Сяргеем Шаўчэнкам, за час існавання і актыўных выступленняў на розных пляцоўках у Беларусі і за мяжой цалкам пацвердзіў сваю жыццяздольнасць. Здавалася б, дзіўнае і нязвыклае на першы погляд спалучэнне беларускіх фальклорных матываў, сярэднявечных еўрапейскіх мелодый з сучаснымі электроннымі аранжыроўкамі знайшло водгук у зацікаўленага слухача. Добрым пацвярджэннем таму можа служыць надзвычай цёплы і сяброўскі канцэрт-прэзентацыя новага альбома гурта. Дыск *Cristatus* быў прадстаўлены публіцы ў сталічным клубе *Doodah King*.

Вечарына стала не проста прэзентацыяй новага альбома, але засведчыла існаванне ў нашай краіне — і нават удалае суседства на адной сцэне — розных плыняў прыхільнікаў фолькавага гучання. Так, канцэрт распачалі «традыцыяналісты» — капэля ў складзе дудара Дзяніса Сухога, скрыпача Стася Чавуса і бубнача Яўгена Барышнікава. Каб крыху разагрэць і разварушыць публіку, музыкі выканалі беларускія танцы ў набліжаным да аўтэнтыкі гучанні. Наступнае выступленне рэпера *SP_Kava* разам з дударом, удзельнікам гуртоў «Ветах» і «Кашлаты Вох» Вячкам Красуліным можна назваць цалкам эксперыментатарскім. Упершыню ўжывую прагучалі песні ў стылі рэп у спалучэнні з дудой.




Выступленне гурта *Pawa* прайшло фактычна на адной ноце. Хоць і гучалі розныя кампазіцыі — вясёлыя, заліхвацкія, сумныя, задуменныя, публікай яны ўспрымаліся з аднолькавым захапленнем. Музыкі выканалі праграму, у якую ўвайшоў як папраўдзе новы матэрыял з альбома, так і старыя, усімі любімыя кампазіцыі. Гэта італьянская мелодыя *Tarantella*, французская *Ai Vis So Lop*, шведская эпічная *Herr Mannelig*, польская «Дарэмна, маці», беларускія «Каваль», «Гандзюленька» і іншыя песні. Адметна, што нават «старыя» кампазіцыі (яны ўваходзілі і ў першы альбом гурта, што пабачыў свет напрыканцы 2011 года) прагучалі на канцэрце па-іншаму, з новымі аранжыроўкамі, напісанымі спецыяльна для альбома *Cristatus*.

*Pawa* досыць часта выступае ў сталіцы. Але, нягледзячы на гэта, публіка не стамляецца зноў і зноў прыходзіць на іх канцэрты, танчыць да сёмага поту пад любімыя мелодыі. Думаецца, увесь сакрэт у аранжыроўках. Не ведаючы рухаў танца, пад мінімалістычную музыку дуды і бубна не асабліва і патанчыш. А вось пад музыку гурта *Pawa* — лёгка. Калі гучаць «Кракавяк», «Цяцерка», «Тарантэла» ў сучаснай апрацоўцы, зусім не абавязкова ведаць пра гэтыя танцы, збіраццa ў тройкі ці чацвёркі, можна проста танчыць — так, як пажадаецца. Але самі музыкі маюць іншае меркаванне наконт сакрэту свайго поспеху:

— Я быў бы здзіўлены, калі б мы не палюбіліся публіцы, — разважае лідар гурта *Pawa* дудар Юрась Панкевіч. — І гэта не мая ганарлівасць. Мы абіраем самы папулярны і цікавы фольк-матэрыял, перапрацоўваем яго. Гэта старажытныя хіты, таму і каверы на іх не могуць быць нецікавыя грамадству, у якім шануюць мінуўшчыну.

Думаецца, словы Юрася можна лічыць не толькі самакамплімэнтам гурту і сваёй творчасці, але і пэўным рэверансам у бок публікі. Бо сапраўды, нават у сучаснай апрацоўцы, з выкарыстаннем электронных інструментаў старажытныя мелодыі, беларускія народныя песні захоўваюць сваю надзвычайную энергетыку. І калі слухачы яе адчуваюць, то выказваюць павагу сваёй гісторыі, свайму народу.

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцэра»

### *Слова краязнаўцы*



**Вольга КУЛЬБЕДА, дырэктар Мотальскага музея народнай творчасці Іванаўскага раёна, распавядае пра фатографа-самавука Аляксея Мінюка:**

— Няма ў Моталі хаты, дзе б не віселі ў акуратных рамках фотакарткі, зробленыя Аляксеем Мінюком. Больш як паўвека гэты добры і сціплы чалавек быў жаданым госцем у кожнай сям'і: здымаў вяселлі, рабіў партрэты землякоў, занатоўваў самыя значныя падзеі з жыцця вёскі і акругі. Здымаў вяскоўцаў і за працай, і ў гадзіны адпачынку, імкнуўся не прапусціць ні аднаго важнага, цікавага і нават пацешнага выпадку. Бабулі ўспамінаюць, як, убачыўшы здалёк постаць фатографа, прыхарошваліся і з надзеяй пазіралі ў аб'ектыў фотаапарата, за якім, атуліўшыся чорнай тканінай, чараваў дзядуля.

З часам жыццё ў вёсцы мянялася, але па-ранейшаму заставаўся беспярэчным аўтарытэт старога майстра. Людзі ішлі да яго сфатаграфавацца — хто з сям'ёй, хто з сябрам, хто з нявестай. Нікому не адмаўляў Аляксей Андрэевіч, ды і сам, нягледзячы на немаладыя гады, імкнуўся паспець паўсюль, дзе яго чакалі, дзе адбывалася нешта цікавае і памятнае.

Доўгае жыццё пражыў вясковы фатограф. Нарадзіўся ў 1907 годзе ў беднай сялянскай сям'і. З 1927-га пачаў падзарабляць фотасправай. Здольнасці да тэхнікі выявіліся ў яго яшчэ ў дзяцінстве. Падчас вайны працягваў працаваць фатографам і выконваў заданні партызан: рабіў патрэбныя здымкі, дапамагаў падрабляць нямецкія дакументы. Пасля вайны працаваў у Мотальскай канторы па сплаве лесу для шахт Данбаса. Але фотаапарат заўсёды быў пры ім. З 1955 года і да канца жыцця працаваў толькі фатографам.

У 1977 годзе ён памёр, але пакінуў спадчыну — негатывы і здымкі. Паўвекавая гісторыя палескай вёскі літаральна ажыла і паўстала ў каларытных сцэнах сялянскага побыту, у абліччах палешукоў даваенных гадоў. І з новай сілай загаварылі старонкі вясковай гісторыі, дапоўніўшы экспазіцыю Мотальскага музея народнай творчасці ўнікальнымі і каштоўнымі фотаздымкамі. Тое, што прадстаўлена наведвальнікам, — толькі маленечкая частка спадчыны, якая ў будучым магла б легчы ў аснову новай экспазіцыі. Дзякуючы старым фотаздымкам дазнаемся пра гісторыі глыбокай даўніны.

Фотаздымкі апошніх гадоў знайшліся хутка, але іншыя, зробленыя ў даваенныя, ваенныя і пасляваенныя гады, доўга не маглі адшукаць. Разбіраючы на гарышчы старыя рэчы, жонка фатографа Соф'я Фёдараўна выпадкова знайшла больш як чатыры тысячы негатываў, акуратна складзеных у стары чамадан. Наперадзе вялікая праца, якая патрабуе нямалых фінансавых укладанняў. Мы спадзяёмся выдаць фотакаталог «У памяці ажыўшыя старонкі», які распавядзе пра цікавую і багатую на падзеі гісторыю палескай вёскі.

## Вілейскія таленты

У Міжнародны дзень абароны дзяцей у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны стартаваў праект «Культура не ведае правінцый». Запланаваны шэраг творчых акцый: канцэртаў, майстар-класаў, спектакляў, абмен выстаўкамі, якія прадстаўляюць калекцыі беларускіх музеяў. Адкрыла праект выстаўка «Культура не ведае правінцый: Вілейшчына».

Работы выхаванцаў Вілейскага Цэнтра эстэтычнага выхавання з народнай студыі мяккай цацкі «Пушысцікі» — жыхары лесу, катырыбаловы, гаспадынькі і трусікі — адраджаюць цікавасць да традыцыйных рамёстваў, вырабы навучэнцаў студый «Чарадзейка» і «Маляванка» адлюстравалі разнастайнасць беларускай народнай размалёўкі, а скураныя экспанаты ад студыі «Куфэрак» здзівілі вытанчанасцю. У экспазіцыі прадстаўлена і частка калекцыі Вілейскага краязнаўчага музея, прысвечаная гісторыі роднай зямлі. У фае музея можна ўбачыць малюнкі навучэнцаў Вілейскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы.

На адкрыцці свае таленты прадэманстравалі навучэнцы студыі Цэнтра эстэтычнага выхавання «Доміcолька» (Вілейка). Усім прыйшліся даспадобы прыемныя сюрпрызы, латарэя і майстар-класы ад вілейскіх майстроў.

**Бажэна СТРОК**

### *Музейны ўнікат*

# Слоўнік-траўнік




Жыхарка гарадскога пасёлка Мір Лідзія Радзюк перадала ў Карэліцкі краязнаўчы музей некалькі старых кніг, якія належалі яе дзядулі — Сцяпану Вільчыцкаму.

**Святлана КОШУР, фота аўтара**

У канцы XIX — пачатку XX ст. гэты чалавек вёў у Міры ўзорную гаспадарку, займаўся кавальскаю справаю, агародніцтвам і пчалярствам. Ён не толькі прышчапляў рэдкія гатункі пладовых дрэў, якіх на той час не было ні ў кага ў мястэчку, але і вырошчваў лекавыя расліны. Для таго, каб рабіць усё па навуцы, выпісваў з Санкт-Пецярбурга адпаведныя кнігі. Такім чынам у яго бібліятэку трапіў «Поўны рускі ілюстраваны слоўнік-траўнік і кветнік, складзены па найноўшых батанічных і медыцынскіх сачыненнях урачоў Я. Залесавай і В. Пятроўскай».

Чатырохтомнік выдаваўся ў Санкт-Пецярбургу на графічным прадпрыемстве выдаўца А. Каспары на працягу 1898 — 1901 гадоў. Складальнікі і выдавец слоўніка ставілі перад сабою высакародную мэту: падказаць землярobам, аптэкарам, урачам і наогул любому чалавеку, як выкарыстоўваць багацце расліннага свету для прыгатавання лекаў, прытым не толькі для людзей, але і жывёл. Як сцвярджаецца ў прадмове, у аснову выдання пакладзены строга правераныя навукаю і вопытам звесткі пра лекавыя расліны. У слоўніку распавядаецца, як трэба збіраць іх, захоўваць і якім чынам гатаваць настоі, адвары, мікстуры ды іншыя лекі. Далей падрабязна апісваюцца лекавыя расліны і спосабы іх медыцынскага ўжывання. «Слоўнік-траўнік» праілюстраваны вялікай колькасцю чорна-белых і каляровых малюнкаў. Чацвёрты том утрымлівае алфавітныя спісы хвароб чалавека і жывёл, рэцэпты лячэння якіх можна знайсці ў кнізе.

Уладальнік карыстаўся слоўнікам працяглы час, у выніку чаго вокладкі парваліся і гаспадару давялося пераплесці іх наноў. Таму першы і другі тамы апынуліся пад адной вокладкай, а трэці і чацвёрты — пад другой.

Сцяпан Вільчыцкі, карыстаючыся гэтай кнігай ды парадамі мясцовага аптэкара, яўрэя Разоўскага, свайго сябра, гатаваў лекавыя настоі і лячыў імі не толькі членаў сваёй сям'і, але і іншых жыхароў Міра.

## З блакнота памяці

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

Мой екацерынбургскі (свярдлоўскі!) сябра Вадзім Дулепаў, з якім знаёмы яшчэ з 1981 г., «вывеў» на земляка — празаіка, публіцыста, ваеннага журналіста Юрыя Левіна. З ім Вадзім працаваў у газеце Уральскай ваеннай акругі. І адгукаўся пра нашага земляка толькі добрымі словамі. Бачыў у яго асобе старэйшага настаўніка ў журналістыцы. Вадзім і сам прайшоў вайну. Атрымаў за Афганістан ордэн Чырвонай Зоркі. Чалавек буйнай, нетаймаванай энергіі, ён і людзей вакол сябе заўважае такіх жа яркіх, энергічных. Такім, пэўна, быў і Юрый Левін, які нарадзіўся на Гомельшчыне, у вёсцы Парэчча Акцябрскага раёна. Нарадзіўся 20 ліпеня 1917-га…

Першы свой верш Юрый надрукаваў у газеце «Піянер Беларусі». А сур'ёзную працоўную біяграфію Левін пачаў у глускай раённай газеце «Сцяг калектывізацыі». Пісаў і ў рэспубліканскую «Чырвоную змену». А ў 1938 г. маладога чалавека прызвалі ў Чырвоную армію. Служыў камандзірам экіпажа танка Т-26. З 1940 г. Левін — карэспандэнт шматтыражнай брыгаднай газеты, стаў ваенным журналістам.

Перад самай вайной яго накіравалі на курсы газетных работнікаў РСЧА. Але закончыць іх не дазволіла вайна… З 1941 года наш зямляк — на фронце: прайшоў шлях карэспандэнта газеты «Фронтовая правда» ад Ржэва да Берліна. Многія апавяданні, якія Левін напіша праз шмат гадоў, нарадзіліся ў агні Вялікай Айчыннай. Падставай былі сустрэчы на перадавой. Журналіст і тады вылучаўся ўважлівасцю да збору фактаў, дэталей. Цяпер многія франтавыя блакноты газетчыка знаходзяцца ў музеях. Па іх можна вывучаць не толькі творчы лёс Левіна, але і даваць урокі ваеннай журналістыкі, працы карэспандэнта ў экстрэмальных умовах. Хлеб журналіста — фактычны матэрыял, без яго ўсёй пісаніне грош цана ў базарны дзень, быў перакананы Юрый Абрамавіч. І пранёс гэтую перакананасць праз усё жыццё.

Тэма Вялікай Айчыннай вайны хвалявала Левіна і пасля 1945 года. Падчас працы ў газеце «Красный боец» ён аб'ездзіў не толькі Уральскую ваенную акругу, але і многія іншыя мясціны Савецкага Саюза. Шукаў сляды воінаў-уральцаў у Львове, Прыкарпацці, у Беларусі. Узнавіў імёны шмат каго з забытых салдат і афіцэраў, чые франтавыя біяграфіі варты ўвагі і памяці нашчадкаў. Напісаў успаміны пра ўраджэнца Беларусі, рускага пісьменніка і франтавога карэспандэнта Дзмітрыя Стонава. Вельмі цікавымі падаюцца росшукі слядоў байца Івана Барадуліна, які прызываўся з Ніжняга Тагіла. Яго імя высечана на адным з абеліскаў у Беларусі. А пасля высветлілася, што Барадулін застаўся жывы. Юрый Левін знайшоў яго ля Кудымкара.

Звольніўся з арміі Юрый Абрамавіч у 1971 годзе. Палкоўнік у адстаўцы. У Екацерынбургу і Маскве пабачылі свет кнігі Юрыя Левіна: «Дзённік Перамогі», «Імёны», «Рэха саракавых», «Я вярнуся, мама», «Камбат», «Памяць» і іншыя. Наш зямляк узнагароджаны 5 баявымі ордэнамі і 16 медалямі. Лаўрэат літаратурных прэмій імя М. Кузняцова і імя П. Бажова. Памёр Юрый Абрамавіч у ліпені 2008 года. Мне здаецца, у Беларусі варта ўшанаваць памяць пра ваеннага журналіста і пісьменніка. Мо назваць адной з бібліятэк у Акцябрскім раёне? Альбо прысвоіць яго імя адной з вуліц у Глуску, ці ў Акцябрску, ці ў тым жа Парэччы? Ды і кнігу ваенных нарысаў і апавяданняў Левіна няблага было б выдаць.

### *«Ельскія чытанні»*

## Белая пляма ў гісторыі

**Раіса МАРЧУК**

Музейны комплекс старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі» знаходзіцца за 40 кіламетраў ад Мінска, непадалёк ад вёскі Дудзічы Пухавіцкага раёна. Тутэйшы шляхецкі маёнтак вядомы з 1600 г. З ім звязаныя жыццё і творчасць апошніх уладальнікаў гэтых мясцін — Ельскіх.

Любіў музыку і музіцыраваў Станіслаў, які добра ведаў Міхася Казіміра Агінскага. Здольнасці бацькі перадаліся сыну Каролю, менавіта ён пертвараў Дудзічы ў «сядзібу муз». Вядомым скрыпачом быў і яго сын Міхась. Першая і другая сусветныя войны, Кастрычніцкая рэвалюцыя знішчылі спадчыну Ельскіх, а іх нашчадкі, пакінуўшы «радавое гняздо», раз'ехаліся па розных краінах. У 40 — 80-я гг. мінулага стагоддзя ад маёнтка застаўся толькі парк з рэшткамі вадзянога млына і сістэмай абводных каналаў.

Да пачатку 90-х гг. XX ст. нават старажылы не згадвалі гісторыю гэтага месца. У 1994 г. у грамадстве загаварылі пра спадчыну роду Ельскіх. І вось нядаўна музейны комплекс «Дудуткі» сумесна з гістарычным факультэтам Белдзяржуніверсітэта правёў другую Рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Ельскія чытанні», прысвечаную цікавай і важнай тэме — шляхецкай культуры Беларусі.

— Мы няблага ведаем гісторыю Беларусі, але, на жаль, амаль не знаёмы з гісторыяй беларускай эліты, — зазначыў дырэктар «Дудутак» Сяргей Дзюкараў. — Канцэпцыя нашага музея прадугледжвае акрамя вырашэння камерцыйных задач наданне большай увагі даследчай рабоце, прапагандзе культурнай спадчыны. Каб людзі не толькі дакраналіся да народнай традыцыйнай культуры, але ведалі, як жылі, уладкоўвалі побыт, адпачывалі прадстаўнікі шляхты. На мой погляд, галоўная задача канферэнцыі — даць штуршок да спазнання роднага краю.

З тым, што жыццё шляхты ў мінулых стагоддзях і яе роля ў эканамічным і культурным развіцці краіны — белая пляма ў нашай гісторыі, пагадзілася доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, загадчык кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства Марыя Бяспалая. Студэнты гэтай установы ў 1998 г. на чале з вядомым гісторыкам Алегам Трусавым займаліся пошукамі магіл Ельскіх. Па іх ініцыятыве была праведзена першая Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя па вывучэнні спадчыны знакамітага роду, а па яе выніках выдадзены цудоўны зборнік пра людзей, якія стварылі на нашай зямлі духоўныя і матэрыяльныя багацці. Дарэчы, і па выніках сёлетняй канферэнцыі планецца падрыхтаваць зборнік навуковых артыкулаў. Прыярытэт будзе аддадзены працам, прысвечаным вывучэнню спадчыны роду Ельскіх XIX — пачатку XX ст.

Праблема, з якой сутыкаюцца даследчыкі беларускай шляхты, — гэта недахоп крыніц. Шмат цікавых звестак — у мемуарнай літаратуры. Яшчэ больш — у матэрыялах, звязаных з канфіскацыямі 1831 года і пазнейшых часоў, падкрэсліў кандыдат гістарычных навук, выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта Аляксандр Радзюк, які выступіў з дакладам «Лёс канфіскаванай маёмасці шляхецкіх сядзіб пасля паўстання 1831 г.».

У некаторых беларусаў яшчэ існуе стэрэатып, што шляхта — чужая нам этнічна. Такі погляд на мясцовых арыстакратаў укараняўся не толькі ў часы Расійскай імперыі, але і ў савецкі перыяд. «Нават у XIX стагоддзі беларуская шляхта адчувала сваю ліцвінскасць, але самае цікавае тое, што прадстаўнікі шляхты стварылі новую беларускую літаратуру, а гэта сведчанне іх карэннага, мясцовага паходжання», — упэўнены кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў Белдзяржуніверсітэта Уладзімір Сосна.

# У пошуках самабытнасці і «разынкі»

**Творчы семінар «Рэгіянальныя асаблівасці Міншчыны: традыцыйныя прыярытэты, сучасныя каштоўнасці» прайшоў у сталічнай вобласці. Да ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве запрасілі калег з Гомельшчыны: дырэктараў раённых дамоў рамёстваў, цэнтраў культуры, метадычных цэнтраў, спецыялістаў Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці. «Лепш адзін раз убачыць» — гэтыя словы гучалі рэфрэнам з вуснаў гасцей, якія шукалі «разынкі» ў працы творчых калектываў сталічнай вобласці, задавалі гаспадарам шмат пытанняў, дзяліліся ўражаннямі.**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Першымі ўдзельнікаў семінара віталі прадстаўнікі Салігорскага раёна на чале з начальнікам аддзела культуры райвыканкама Наталляй Гапановіч. Жаданне тварыць на радасць людзям, імкненне зрабіць іх жыццё больш натхнёным — вось тое, дзеля чаго працуюць работнікі ўстаноў культуры. Вялікая ўвага тут надаецца святочна-абрадавай дзейнасці. Абрад «Шчадрэц», яскравым носьбітам якога з'яўляецца народны фальклорны калектыў «Палескія крыніцы» Восаўскага сельскага дома культуры, у 2009 годзе набыў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Традыцыйнымі на Салігоршчыне сталі рэгіянальны фестываль фальклорнага мастацтва «Сугалоссе», свята-конкурс цацкі і гульні «На аблоках дзяцінства». Нараўне з раённымі і рэгіянальнымі конкурсамі і фестывалямі праводзяцца абласны конкурс выканаўцаў на народных інструментах імя І. Жыновіча, Міжнародны дзіцячы фестываль-конкурс джазавай і эстраднай музыкі «Джаз-тайм».

— Для таго, каб даследаваць, вывучыць і ўзаемаўзбагаціць традыцыйную і сучасную культуру, арганізаваны міжрэгіянальны семінар, — зазначыла дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Раіса Вайцяхоўская. — За пяць мінулых гадоў прадстаўнікі Міншчыны аб'ездзілі ўсе вобласці, акрамя Гомельскай. Дэлегацыі адусюль пабывалі ў нас. Для гэтай сустрэчы мы не выбіралі рэгіёны спецыяльна, а пастараліся паказаць, чым займаюцца ўстановы культуры ўвогуле, каб захаваць і зберагчы народныя традыцыі на стагоддзі. Узялі поўдзень і пачынаючы з Салігорскага паказалі работу ўстаноў культуры Любанскага, Старадарожскага, Слуцкага, Капыльскага, Нясвіжскага і Клецкага раёнаў. Яны маюць шмат агульнага, але кожны вылучаецца самабытнасцю. Шмат увагі дзейнасці ўстаноў культуры, стану яе матэрыяльна-тэхнічнай базы надае асабіста старшыня Мінаблвыканкама Барыс Батура, які дбайна і шчыра ставіцца да нашай сферы. Кіраўнікі рэгіёнаў таксама ствараюць спрыяльную атмасферу творчасці для тых, хто шчыруе на ніве культуры.

Любанская зямля — малая радзіма беларускага этнографа і фалькларыста Паўла Шпілеўскага, беларуска-польскага паэта Уладзіслава Сыракомлі. Тутэйшых камунараў апеў Янка Купала ў паэме «Над ракой Арэсай». У вайну на легендарным востраве Зыслаў грымела імя партызанскага камандзіра Васіля Казлова, выдаваліся газеты «Звязда», «Чырвоная змена» і «Кліч Радзімы». Здаўна славілася Любаншчына вырабамі са шкла і крышталю Урэцкай гуты, дарасінскай керамікай. Тут усё звязана: прырода, гісторыя, культура, якая спалучае ў сабе традыцыі і сучаснасць, навукова-даследчую дзейнасць і эксперыментальныя праекты ды ідэі, якія працуюць на ўзбагачэнне творчага патэнцыялу рэгіёна.

У вёсцы Закальное госці патрапілі на кірмаш народных традыцый «Фольк-Любань!» з удзелам аўтэнтычных фальклорных гуртоў, у гонар аднаго з іх — «Глыбокія крыніцы» (створаны ў 1991 г.) — устаноўлена ахоўная дошка, якая пацвярджае статус гісторыка-культурнай каштоўнасці гэтага калектыву як носьбіта мясцовага стылю выканання традыцыйных песень вёскі Закальное.

Каля Любанскай дзіцячай школы мастацтваў удзельнікаў семінара чакала выстаўка-продаж вырабаў школы народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва юных майстроў і іх выкладчыкаў. Многія не ўтрымаліся і набылі сувеніры на памяць. Асабліва вабіла кераміка. Дарэчы, школа народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ахоплівае восем кірункаў — ад вышыўкі да бондарства.

На базе ўстановы дзейнічае народны клуб народных майстроў, некаторыя з іх выкладаюць. Значыць, ёсць вучні, падтрымліваюцца традыцыі, захоўваецца народная спадчына.

У Любанскай дзіцячай школе мастацтваў адбыўся клубны бенефіс — яркае маляўнічае шоу клубных работнікаў у гонар сваёй прафесіі. Тут жа можна было набыць метадычную літаратуру, распрацаваную работнікамі Любанскага раённага цэнтра культуры: зборнікі сцэнарыяў, аўдыё- і відэадыскі, альбомы і інш. Як адзначыў начальнік аддзела культуры райвыканкама Васіль Каткавец, работнікі сферы культуры працуюць пад дэвізам «Правіцыя — то стан душы» і робяць сваю справу з пачуццём адказнасці і гонару за сваю прафесію.

Як упэўніліся госці з Гомельшчыны, самабытнасцю вызначаецца і Старадарожскі раён, дзе склалася пэўная сістэма правядзення свят згодна з традыцыйнай культурай: «Арэскія выток», «Сугалоссе», «Старадарожская лясёнка», «Грай, гармонік». Візітная картка раёна — ткацтва. Адзін раз на тры гады збіраюцца на тутэйшай зямлі майстры з усёй Міншчыны на рэгіянальнае свята-конкурс «Матчыны кросны». Прынамсі, за асабісты ўклад у развіццё і прапаганду традыцыйнага ткацтва тры майстрыхі ўдастоены ганаровага звання «Народны майстар Беларусі».

У 2000 годзе шляхам аб'яднання раённых арганізацыйна-метадычнага цэнтра і Дома культуры быў створаны раённы Цэнтр культуры і адпачынку (РЦКіА). Праз год адчыніў дзверы новы трохпавярховы Палац культуры, урачыстае адкрыццё якога адбылося з удзелам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Штогод у Палацы праводзіцца больш як 400 розных мерапрыемстваў, пры гэтым значная колькасць — на платнай аснове. Шмат увагі надаецца другаснай занятасці моладзі.



*За ткацкім станком Валянціна Кіеня.*

Адзін з прыярытэтных кірункаў РЦКіА — захаванне і развіццё традыцыйнай культуры Старадарожчыны. З гэтай мэтай яго спецыялісты сумесна са сталічнымі навукоўцамі праводзяць фальклорна-этнаграфічныя экспедыцыі па вёсках раёна. У банку дадзеных установы налічваецца больш як 700 песень, 11 абрадаў на аўдыяносьбітах, відэаархіў.

Дарэчы, намеснік старшыні Старадарожскага райвыканкама Дзмітрый Давыдаў паведаміў, што Упраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Старадарожскага райвыканкама выдзяляе сродкі на набыццё неабходных матэрыялаў для таго, каб хлопчыкі і дзяўчынкі маглі займацца творчасцю — распісваць, напрыклад, вазы і атрымліваць за гэта яшчэ і грошы.

Случчына — край з цікавай гісторыяй і багатай культурнай спадчынай, зберажэнне якой з'яўляецца галоўнай мэтай дзейнасці народнага клуба народных майстроў «Крылы творчасці», які працуе на базе Квасыніцкага цэнтра рамёстваў і аб'ядноўвае майстроў па 12 відах рамёстваў, а таксама народнага клуба народных умельцаў «Фантазія» пры гарадскім доме культуры.

Па выніках работы за 2011 год Квасыніцкі цэнтр рамёстваў атрымаў грант Мінаблвыканкама на рэалізацыю праекта па далейшым развіцці традыцыйнай народнай культуры Случчыны. Кожнай супрацоўніцы пашылі прыгожы строй. А яшчэ зрабілі рэканструкцыю слуцкага касцюма канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Традыцыйны ж кірунак у рабоце квасыніцкіх майстроў — стылізаваныя беларускія лялькі, якія прадстаўляюць усе рэгіёны Беларусі.

Самая першая майстэрня, якая з'явілася ў Квасынічах, — па ткацтве. Тут ганарацца вялікімі кроснамі, якія ўнасілі калісьці ў хату толькі на зіму. Ткалі на іх посцілкі і спадніцы. Гамяльчане заўважылі, што ў іх рэгіёнах карысталіся маленькімі кроснамі, таму тыя ж посцілкі сшывалі з дзвюх палавінак.

— У горадзе мы таксама развіваем народныя рамёствы, — распавяла начальнік аддзела культуры Слуцкага райвыканкама Алена Камоцкая. — Два гады таму адкрылі цэнтр традыцыйнай культуры, у якім цяпер працуюць маладыя спецыялісты. Пачынаючы з 2000 года, калі ў Мінскай вобласці была зацверджана праграма па развіцці промыслаў і рамёстваў, у кожнай установе культуры запрацаваў гурток дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Капыльшчына мае даўнія цікавыя традыцыі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Напоўненыя мясцовым каларытам, абрады і святы тутэйшых вяскоўцаў набылі новае жыццё. Рэгіянальны святочна-абрадавы комплекс стаў найважнейшым элементам у дзейнасці многіх устаноў культуры і творчых аб'яднанняў.

Самае галоўнае: традыцыі не толькі захоўваюцца, але прадаўжаюць сваё існаванне на клубных сцэнах, у паўсядзённым жыцці. Кожны год у раёне праводзіцца каля 150 традыцыйных свят і абрадаў. Толькі ў Семежаве на Шчодры вечар праводзіцца абрад «Калядныя цары», які з'яўляецца адметным праяўленнем лакальнай культурнай традыцыі.

— У рамках выканання праграмы па адраджэнні, захаванні і развіцці народнай творчасці працуе Капыльскі раённы цэнтр ткацтва ў аграгарадку Семежава, школа ткачоў, народны клуб майстроў «Скарбонка», раённы Цэнтр традыцыйнай культуры, — расказала дырэктар раённага цэнтра ткацтва Таццяна Волкава. — Тэхніка закладнога ткацтва чырвонабелых ручнікоў, характэрная для Семежава, у 2011 годзе занесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Спакон вякоў тут, у кожнай хаце, стаяў ткацкі станок. Адна са старэйшых ткачых — Валянціна Міхайлаўна Кіеня. У 2010 годзе ёй было прысвоена званне «Народны майстар Беларусі».

Яшчэ ў XVIII стагоддзі Нясвіж стаў цэнтрам мастацкіх промыслаў і прыкладнога мастацтва. Вырабы мясцовых майстроў і мануфактур былі вядомы далёка за межамі Вялікага Княства Літоўскага. Іх набывалі нават каралеўскія двары Еўропы. Сёння тут працуюць больш як 400 майстроў — прадаўжальнікаў справы продкаў, дзейнічае 33 гурткі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і 5 клубаў майстроў. Каб аб'яднаць таленавітых людзей, у 2000 годзе на базе Цэнтра культуры быў створаны клуб майстроў «Дыяменты Нясвіжскага краю», а ў 2007-м гэтаму аб'яднанню прысвоена званне «народны».

У зберажэнні і развіцці традыцыйных промыслаў і рамёстваў значную ролю адыгрываюць установы культуры, якія маюць куткі сялянскага побыту. Здабыткі краю — ткацтва, ручная вышыўка, салома- і лозапляценне, выраб кашоў, ганчарства, роспіс і разьба па дрэве, выраб беларускай лялькі. Персанальныя выстаўкі народных майстроў ладзяцца ў салоне-галерэі «Скарбніца», куды і завіталі ўдзельнікі семінара, каб набыць штосьці на ўспамін пра Нясвіж і яго знакаміты замак.

— Такія творчыя сустрэчы, безумоўна, прыносяць вялікую карысць, — упэўнены дырэктар Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці Мікалай Шамшэня. — Мы яшчэ раз пераканаліся: лепш пабачыць усё на ўласныя вочы, абмяняцца думкамі з калегамі, таму што гэта адна з форм нашай працы. Радуе тое, што ў беларусаў мяняецца мысленне, яны пачынаюць па-іншаму ўспрымаць народную творчасць. Бачна, з якой радасцю дзеці спяваюць і танчаць у народных строях, з вялікім задавальненнем садзяцца за кросны нават хлопчыкі, лепка з гліны наогул стала модным заняткам. Няхай для кагосьці знаёмства з традыцыйнай культурай пачнецца з простага сувеніра, але яна павінна прысутнічаць у паўсядзённым побыце, паколькі гэта нашы карані, аснова жыцця.

У Клецкім раённым цэнтры культуры ўдзельнікам семінара прапанавалі творчую вандроўку з удзелам народнага ансамбля народнай музыкі «Бацькаўшчына», народнага мужчынскага вакальнага ансамбля «Неруш», народнай студыі саломапляцення «Натхненне» і ўзорнага калектыву эстраднага танца «Ювента».

Дарэчы, хутка ў раённым цэнтры культуры, без яго закрыцця, пачнецца рамонт, які пройдзе ў два этапы: сёлета абновяць дах, на будучы год запланаваны ўнутраныя работы. Пакуль жа Цэнтр дзеліць будынак з Цэнтральнай раённай бібліятэкай, але мясцовыя ўлады ўжо шукаюць для яе іншае памяшканне, каб ніхто нікому не замінаў.

Па шасці кірунках (і гэта ў вёсці! — здзіўляліся гамяльчане) працуе Морацкі раённы Цэнтр рамёстваў — сапраўдная скарбонка народнай творчасці Клецкага раёна. Яшчэ ў 1999 годзе адкрылі тут Цэнтр рамёстваў, які сёння наведвае больш як 100 дзяцей. Акрамя гэтага, працуе народны клуб «Майстры», якім кіруе Ірына Крыцкая.

— Самае галоўнае для нас — гэта, канечне, людзі, — падкрэсліла начальнік аддзела культуры Клецкага райвыканкама Святлана Чалык. — У нас працуе 16 народных і ўзорных калектываў, якія ў красавіку пацвердзілі свае ганаровыя званні. Прыемна, што нашы калектывы паспяхова працуюць, удасканальваюцца, абнаўляюць рэпертуар, даюць шмат канцэртаў і зарабляюць грошы, у тым ліку і на новыя касцюмы.

Функцыянаванне сучасных устаноў культуры нельга ўявіць без інавацый, крэатыўных ідэй, новых тэхналогій і методык. Іх супрацоўнікам заўжды трэба знаходзіцца ў творчым пошуку, займацца самаадукацыяй, каб быць «канкурэнтаздольнымі» ў гэтай сферы.

— Удзел у міжабласных семінарах — гэта магчымасць для спецыялістаў нашай галіны наладзіць творчыя стасункі, падзяліцца досведам, звярнуць увагу на праекты калег, каб потым рэалізаваць іх у сваіх рэгіёнах, — падсумавала галоўны спецыяліст аддзела ўстаноў культуры і мастацтва ўпраўлення культуры Мінаблвыканкама Алена Талпека. — А для тых, хто гасцінна вітае гасцей і дэманструе ім сваё майстэрства, гэта вялікі гонар і стымул для далейшай плённай працы на ніве культуры і мастацтва.

# Свята песеннай паэзіі

XIII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2013» расчыніць сёння дзверы для ўсіх аматараў беларускай паэзіі і музыкі. Фэст святкуе юбілей — 20 год, як ён ладзіцца ў Маладзечне па ініцыятыве Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь і яго мастацкага кіраўніка, народнага артыста краіны Міхаіла Фінберга пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі, Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, Маладзечанскага райвыканкама, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Белтэлерадыёкампаніі.



Разам з аркестрам.

**Таццяна ШЫМУК**

У 1993 годзе ў Маладзечне ўпершыню адбыўся Рэспубліканскі фестываль беларускай песні і паэзіі. На той час сярод асноўных задач фестывалю было далучэнне творчай інтэлігенцыі да стварэння арыгінальных узораў песеннага жанру, пошук таленавітых выканаўцаў і рэалізацыя іх вакальных магчымасцей, эстэтычнае выхаванне моладзі і захаванне нацыянальнай культуры.

З 2012 года Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі праводзіцца штогод. Галоўным ініцыятарам, арганізатарам гэтага ўнікальнага свята з'яўляецца Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі разам з яго кіраўніком — маэстра Міхаілам Фінбергам. Калектыў існуе ўжо 27 год, у яго складзе прафесіяналы толькі з Акадэміі музыкі, чатыры народныя артысты Беларусі — сапраўдная музычная лабараторыя. Разам з аркестрам выступае Дзяржаўны ансамбль танца РБ — калектыў, які мае новыя арыгінальныя рэжысёрскія падыходы.

Праграма Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ўключае творчыя вечарыны класікаў беларускай паэзіі і вядомых кампазітараў, канцэрты камернай і джазавай музыкі, выступленні вядучых прафесіянальных калектываў Беларусі, канцэрты дзіцячых аматарскіх калектываў і выканаўцаў. Традыцыйна мерапрыемствы праходзяць на розных сцэнічных пляцоўках Маладзечна. На свята запрашаюцца і замежныя госці, у тым ліку з гарадоў-пабрацімаў Маладзечна: Калугі, Чарапаўца, Каломны, Санкт-Пецярбурга, а таксама з Балгарыі, Украіны, Польшчы, Германіі.

Галоўная ідэя фестывалю — далучэнне да нацыянальных каштоўнасцей беларускай культуры, прапаганда роднай мовы, папулярызацыя твораў беларускіх аўтараў, адкрыццё новых імёнаў.

Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі ўключае шматлікія мерапрыемствы для гледачоў рознага ўзросту і густу. Але ж галоўнай падзеяй яго з'яўляецца Рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, пераможцамі якога ў розныя гады былі Ірына Дарафеева, Вікторыя Алешка,



Барыс Батура і Міхаіл Фінберг.

Дзмітрый Качароўскі, Наталля Тамела і іншыя выканаўцы. Маэстра Міхаіл Фінберг, падкрэсліваючы вялікае значэнне гэтага конкурсу, адзначыў: «Канкурсанты з розных куткоў Беларусі, з рознай адукацыяй. Але ўсе яны спяваюць па-беларуску, выконваюць песні толькі нашых аўтараў. Конкурс адметны тым, што яго рэпертуар будуецца на беларускай класічнай паэзіі, на лепшых песнях нашых кампазітараў. У гэтым яго вялікае патрыятычнае, выхаваўчае значэнне. Ён заўсёды праходзіць пад жывы акампанемент аркестра, і гэтаму папярэднічае напружаная рэпетыцыйная праца, што павышае адказнасць маладых выканаўцаў, становіцца для іх школай прафесіяналізму».

Уладальнік Гран-пры конкурсу 2009 года, наш зямляк Аляксандр Салаўёў, саліст Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі, у гэтым годзе будзе прадстаўляць нашу краіну на Міжнародным конкурсе выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2013» Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

XIII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2013» пройдзе з 7 па 8 чэрвеня. У праграме свята 7 чэрвеня — гала-канцэрт, прымеркаваны да адкрыцця XIII Нацыянальнага фестывалю «20 год разам з Маладзечнам», рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў. 8 чэрвеня — паэтычныя чытанні і сустрэчы з беларускімі паэтамі ў Маладзечанскім музычным каледжы імя М. К. Агінскага, канцэрт "Маладзічок" запальвае зоркі...» з удзелам лаўрэатаў рэспубліканскага дзіцячага конкурсу юных выканаўцаў эстраднай песні «Маладзічок», канцэрт «Лепшыя беларускія хіты XX стагоддзя», гала-канцэрт закрыцця фэсту «Ты ў шчасці жыві, мая Беларусь!».

Падчас правядзення фестывалю будуць працаваць гандлёвыя кропкі, выстаўка-кірмаш вырабаў народных майстроў, выстаўка вырабаў народных рамёстваў, дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, дзіцячая канцэртна-гульнёвая праграма «Маладзечна — мой горад дзяцінства».

Вельмі важна, каб у ментальнасці нашых людзей было разуменне таго, што мы можам ганарыцца беларускай культурай: культурай нашага народа, нашай Радзімы.

# Кубінскі віртуоз гітары

На мінулым тыдні ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі адбыўся майстар-клас Ахмеда Дзікінсана — аднаго з найбольш яркіх прадстаўнікоў кубінскай школы класічнай гітары.

**Таццяна ШЫМУК**

Нашы краіны супрацоўнічаюць ужо не першы год, вядуць актыўны дыялог не толькі ў культурнай сферы. Кубінскія артысты ў трэці раз будуць выступаць на «Славянскім базары ў Віцебску».

Вынікам актыўнага супрацоўніцтва паміж кубінскай і беларускай гітарнымі школамі можна лічыць візіт у нашу краіну Ахмеда Дзікінсана Кардэнаса — маладога віртуоза, выканаўца і сапраўднага пасла кубінскай культуры. Апошнія пяць гадоў гітарыст выступаў на шматлікіх фестывалях: фестывалі класічнай гітары ў Лондане, Міжнародным фестывалі бас-гітары, фестывалях *The Stage Guitar, Kings Place, Discovering Latin America* ды інш.

Ахмед Дзікінсан супрацоўнічае са знакамітымі выканаўцамі розных музычных жанраў. На працягу двух гадоў ён быў вядучым гітарыстам аркестра *Sonantas Habaneras* у Гаване, якім дырыжыраваў выбітны прадстаўнік кубінскай школы гітары Хесус Артэга. З 2006 па 2009 год музыкант здзейсніў турнэ па Злучаным Каралеўстве разам з вядомым іспанскім гітарыстам Эдуарда Ньебла.

Кардэнас атрымаў дзве прэміі ў 2009 годзе за лепшае інструментальнае сола і лепшы інструментальны альбом, а таксама за дэбют свайго альбома, прысвечанага выбітнаму кубінскаму кампазітару Ніка Рохасу. Гэты ж зборнік твораў прынёс Кардэнасу званне Найлепшага артыста па версіі часопіса *Word Music Magazine*, а таксама прэмію *Latin American Music Awards* у намінацыі «Лепшы альбом» і «Лепшы сінгл» у Злучаным Каралеўстве.

Ахмед Дзікінсан заўважыў, што не адчувае сябе ў Беларусі прадстаўніком іншай краіны. Яго бацька 50 год таму вывучаў тут рускую мову, а маці гаворыць і выкладае па-руску. Ды і ён сам вырас на рускамоўных кнігах, пласцінках. 8 гадоў таму Кардэнас пераехаў у Лондан. Гітарыст выпусціў пяць дыскаў, і, як сам зазначыў, любімым для яго з'яўляецца той першы дыск, напісаны на музыку яго настаўніка.

Падчас майстар-класа, вячэрняга канцэрта разам з Кардэнасам працаваў квінтэт, у склад якога ўвайшлі студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі: Аляксандра Чахоўская (скрыпка), Дар'я Курніеўская (скрыпка), Аляксандра Елісеева (альт), Кацярына Пятрэнка (віяланчэль), Аляксей Ствол (кантрабас).

Ахмед Дзікінсан прадэманстраваў віртуознае валоданне гітарай, а таксама даў некалькі добрых парад студэнтам: «Кожны музыкант павінен заўсёды ўдасканальваць сваю ігру, працаваць над якасцю гуку і ўзроўнем выразнасці. Трэба ведаць сваю гітару, свае пальцы і, галоўнае, глыбока разабрацца ў сабе. Якасць гуку залежыць ад таго, што ты хочаш атрымаць. Трэба ўмець адчуць гэта і ўвасобіць».

ЛіМ
**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў

Наклад — 2726
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 06.06.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2452
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686